Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 38 (4684) 21 верасня 2012 г.

Думкапісьменніка

## ГОНАР І ГОДНАСЦЬ



Якую тэму проста немагчыма абмінуць у любой нашай гаворцы? Вядома ж, стан літаратуры і, адпаведна, літаратара. Мяне — як і большасць калег — ён даўно трывожыць. Прычым не пакідае магчымасцей нешта апраўдваць, падмацоўваючы надзеі на лепшае… Прызнаемся шчыра: ёсць-такі ў гэтым і наша віна — як узятых разам, так і паасобку.

У чым я асабіста гатовы пакаяцца? А ўжо ў тым, што мог і павінен быў зрабіць больш, а многае — лепш. І на мне ляжыць пэўная адказнасць за неадпаведнае стаўленне ў грамадстве да Слова як Бога і да ролі Славеснасці, за катастрафічную распаўсюджанасць брыдкаслоўя, не кажучы ўжо пра пустаслоўе.

Канкрэтызую: пэўна ж, усе мы нясём адказнасць за тое, як у апошні час вызначыліся функцыі намі напісанага, як складваюцца адносіны з чытачамі, калі ігнаруецца задача іх уздымаць, разам з імі ўзвышаючыся, а выконваецца, як правіла, супрацьлеглая — "заніжаць", разам з імі падаючы. І не выпадкова, што так звужаецца кола чытачоў наогул, а чытачоў беларускай літаратуры асабліва, так што цяпер у нас усіх адна перспектыва — быць "шырокавядомымі" ў зусім вузкім коле.

Так ці інакш, відавочна, што многія ролі, якія пісьменнікі пры "перабудове" бралі на сябе, засталіся хіба што ў дэкларацыях. Тыя, што прымервалі мундзіры правадыроў, самі не ўяўлялі, куды весці; не набылі аўтарытэту, акрамя адпаведнага "іміджу", і тыя, што хутка мянялі знакі ў сваіх ацэнках мінуўшчыны і сучаснасці… А галоўнае — усе мы разам прагледзелі, як змяніліся найважнейшыя апірышчы культуры ў цэлым. І не можам як след працерці вочы, каб заўважыць, што новая маскультура, тэлекультура, інтэрнэт-культура… — зусім не тое, што раньш было. З'яўляюцца не асэнсаваныя пакуль што, хоць яны далёка не бяскрыўдныя, вынікі, у шэрагу якіх — інтэрнэт-мова (зразумела, не нацыянальная) і інтэрнэт-этыка (відавочна, невысокая, заснаваная на ананімнасці і псеўданімнасці, а гэта значыць — безадказнасці).

Зноў-такі мушу ўсведамляць: я ж таксама дачыненне маю, няхай сабе ўскоснае, да таго, што масавай свядомасцю чым далей, тым больш ігнаруюцца высокія ідэалы Дабра, Хараства, Любові. Не смею думаць, што няма ніякай маёй віны ў тым, што цяпер нярэдка за дабро выдаюць якраз яго супрацьлегласць, што паўсюдна прыхарошваецца брыдота, разбэшчанасць і пачварнасць, што замест любові культывуецца блуд… Асобны "пункцік" у замацаванай апошнім часам свядомасці нашага грамадства — Свабода як неабмежаванасць задавальнення самых нізкіх патрэб, як сваволя п'янага хулігана ў завулку, дзе не бывае міліцыі.

Пэўна ж, і я не зрабіў усяго магчымага, каб належным чынам умацоўваць такія катэгорыі, як Аўтарытэт, Годнасць і Гонар (замест "іміджу", "папулярнасці"), а тым больш — Адданасць, Самаахвярнасць. Яны ўжо амаль што забытыя. Разумею, што здзейсненае пераўладкаванне свету ад маёй маленькасці не залежала. Але не саромеюся прызнацца, што распад той супольнасці, якая называлася СССР, я ўспрымаў з болем. І цяпер шкадую, што дыскрэдытуецца нават сама ідэя дружбы народаў і, як тады гаварылася, дружбы літаратур. На маю думку, мы ў гэтым вельмі шмат страцілі.

Часта думаю, што ж я буду адказваць унуку, калі ён спытае: "Дзед, а дзе ты быў, калі прападала родная літаратура, а тваю гісторыю перараблялі па ўказцы чужынцаў?" Гэта для мяне, праўда, вельмі істотнае пытанне.

**Іван ЧАРОТА**

# Слова пра Настаўніка

17 верасня Уладзіміру Калесніку споўнілася б 90. Хаця васямнаццаць гадоў яго няма з намі, але быў і застаецца ў памяці тых, хто сустракаўся з ім, хто вучыўся ў яго. Выкладчык-прафесар, крытык, літаратуразнавец і пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа, ён быў таленавіты ва ўсім. Добра ведаў літаратуру, гісторыю і мастацтва, няблага маляваў, ляпіў, займаўся разьбой па дрэве.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**



Для студэнтаў філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна на многія гады Настаўнікам з вялікай літары быў ён, Уладзімір Калеснік. Пераступіўшы парог аўдыторыі, мы чулі легенды, якія расказвалі пра свайго выкладчыка старшакурснікі. Такіх цікавых лекцый, як у Калесніка, на факультэце няма, бадай, ні ў кога. Не, ён не чытае па канспекце, а расказвае, як бы гутарыць з кожным. Болей за тое, не церпіць расхлябанасці і пошласці, вучыць студэнтаў думаць, разважаць, мець уласнае меркаванне.

Уладзімір Андрэевіч і праўда гутарыў з намі. Памятаецца, як на лекцыі па фальклоры ўзнікла пытанне пра дабро і зло ў творах вуснай народнай творчасці. У гаворку ўключыліся дзяўчаты (а іх заўсёды на філфаку абсалютная большасць). Яны даказвалі, што ў жыцці для таго, каб пасля не шкадаваць, трэба быць добрым, нават добранькім.

— На добранькіх, — усміхнуўся выкладчык, — ваду возяць! Дабро павінна не сюсюкаць, а ўмець пастаяць за сябе…

Другі раз гаварылі пра ідэал беларускай дзяўчыны. Уладзімір Андрэевіч прапанаваў нам пытанне:

— Скажыце, каго ў беларускай вёсцы ў першую чаргу бралі ў жонкі — прыгожую, худзенькую, бы трасцінка, ці паўнатую і чырванашчокую?

Пачуліся галасы:

— Канечне, прыгожую ды худзенькую.

— Танклявую…

— Э не, галубіцы іарданскія! — любімы іранічны Калеснікаў зварот да дзяўчат. — У вёсках бралі ў жонкі не худых, а якраз дужых, чырванашчокіх. Гэта быў ідэал прыгажосці! Бо працаваць трэба было…

Уладзімір Андрэевіч меў энцыклапедычныя веды, адкрыў вялікі, нікім не распрацаваны пласт літаратуры Заходняй Беларусі. Свае веды імкнуўся ўкласці ў студэнцкія галовы, падтрымліваў кожнага, хто меў хаця б іскрынку творчасці. Па-свойму, па-бацькоўску ставіўся да моладзі: гэта выяўлялася нават у тым, што ён ніколі не нёс ведамасць у дэканат, калі ў ёй значыўся хоць адзін студэнт, які не здаў залік, бо гэта магло каштаваць таму стыпендыі. І ў той жа час прымушаў вывучыць свой прадмет. За гэта мы таксама паважалі свайго выкладчыка.

Ён бачыў у нас будучых педагогаў, якім несці роднае слова хлопчыкам і дзяўчынкам, і стараўся, каб кожны пакінуў сцены інстытута з трывалым багажом ведаў. Таму ў Брэст прыязджалі многія беларускія пісьменнікі, з якімі Уладзімір Андрэевіч сябраваў. Літаральна кожная значная кніга абмяркоўвалася ў педінстытуце з удзелам аўтара.

У маю першую студэнцкую восень у Брэст завітаў Іван Мележ на абмеркаванне рамана "Людзі на балоце", які толькі-толькі надрукавала "Полымя". За пяць гадоў вучобы адбыліся прэзентацыі раманаў І. Шамякіна "Сэрца на далоні", Я. Брыля "Птушкі і гнёзды", І. Навуменкі "Сасна пры дарозе", аповесцей А. Асіпенкі "Абжыты кут" і А. Карпюка "Пушчанская адысея". Так было пры нас, так было і пасля…

Мы пастаянна адчувалі яго захапленне калегамі-сябрамі. Пасля наведання Гродна Калеснік расказваў, што Васіль Быкаў напісаў цудоўную аповесць "Альпійская балада", а яе адмаўляюцца друкаваць, патрабуюць выкінуць дыялог Джуліі з Іванам Цярэшкам, дзе яна пытае ў Івана, ці сапраўды ў яго краіне былі ГУЛАГі, на што атрымлівае станоўчы адказ.

— Хіба можна перапісваць гісторыю?! — абураўся Уладзімір Андрэевіч. — Ці нешта выкідваць з яе?

Другім разам пасля падарожжа з Брылём па поўначы Расіі Калеснік быў у захапленні ад Івана Антонавіча, які ў Кіжах, ля цэркаўкі работы непаўторных дойлідаў, усклікнуў: "Дык гэта ж шышачка!"

— Такое ўбачыць мог толькі вялікі лірык, — гаварыў Уладзімір Андрэевіч, — сапраўдны пісьменнік!

На апошнім курсе мне выпала педагагічная практыка ў Камянцы. Куратарам быў Уладзімір Андрэевіч. Ён добра ведаў кожнага з нас і не надта надакучваў сваімі парадамі: праз паўгода вам у школах працаваць, прывучайцеся, маўляў, да самастойнасці! Характарыстыкі, аднак, былі настолькі дакладныя і справядлівыя, што ніхто не застаўся ў крыўдзе на куратара.

Калеснік — збіральнік творчай моладзі Брэстчыны. Аднойчы ён папрасіў мяне прынесці яму што-небудзь сваё, хаця я тады яшчэ аніздзе не друкаваўся. Я прынёс толькі што скончаную аповесць "Лёс адзінокай птушкі". Не скажу, што Уладзімір Андрэеевіч быў у захапленні ад майго "тварэння", але, мусіць каб не пакрыўдзіць, прапанаваў:

— Паспрабуй надрукаваць у "Нёмане"!

(Заканчэнне на стар. 4.)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Прэзідэнта Кыргызскай Рэспублікі Алмазбека Атамбаева з днём нараджэння. "Упэўнены, што дружалюбныя адносіны і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Кыргызскай Рэспублікай будуць і ў далейшым развівацца ў духу канструктыўнага партнёрства ў інтарэсах народаў нашых краін", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ад імя беларускага народа і сябе асабіста павіншаваў Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан Нурсултана Назарбаева і народ гэтай краіны з 20-годдзем з дня ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Казахстанам. Ён адзначыў, што сёння Беларусь і Казахстан з'яўляюцца стратэгічнымі партнёрамі і саюзнікамі.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Барыса Луцэнку з 75-годдзем. "Вы — адзін з заснавальнікаў сучаснай школы тэатральнай рэжысуры. У многім дзякуючы Вам пра беларускі драматычны тэатр XX стагоддзя як пра неардынарную мастацкую з'яву загаварылі ў свеце", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў трохразовага алімпійскага чэмпіёна, заслужанага майстра спорту СССР, заслужанага трэнера БССР і СССР Аляксандра Мядзведзя з 75-годдзем. Кіраўнік дзяржавы пажадаў Аляксандру Мядзведзю моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця і дабрабыту.

✔ "Наяўнасць Дня бібліятэк у святочным календары рэспублікі — прызнанне на дзяржаўным узроўні вялікай ступені ўплыву бібліятэк на развіццё ўсіх сфер грамадскага жыцця і адчувальнага сацыяльна-эканамічнага эфекту ад іх дзейнасці, сведчанне ўвагі дзяржавы да працы бібліятэкараў", — гаворыцца ў віншаванні міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі з нагоды свята — Дня бібліятэк.

✔ Сёмы фестываль "Моладзь — за Саюзную дзяржаву" ўрачыста адкрыўся ў Растове-на-Доне на сцэне мясцовага драматычнага тэатра. У гэтым годзе Беларусь і Расія дэлегавалі на форум некалькі соцень юнакоў і дзяўчат. Ідэі інтэграцыі аказаліся прывабнымі і для прадстаўнікоў краін, якія не ўваходзяць у Саюзную дзяржаву: удзельнікамі фестывалю сталі таксама пасланцы Украіны і Казахстана.

✔ Урачыстасці, прысвечаныя 130-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, прайшлі ва Украіне пры падтрымцы пасольства Беларусі. Мерапрыемствы ладзіліся ў Кіеўскім літаратурна-мемарыяльным музеі Максіма Рыльскага, у якога з 2002 года ўстаноўлены партнёрскія стасункі з мінскім Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа. У рамках літаратурна-мастацкага свята "Галасееўская восень" была арганізавана выстаўка рукапісаў і рэдкіх выданняў украінскай беларусістыкі, прысвечаных нашым песнярам.

**Падрыхтавала Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

## Да 100-годдзя Максіма Танка

# Нарачанскаму волату ад удзячных нашчадкаў

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Алены Навуменкі**

Рэспубліканскае свята паэзіі і песні "Я сэрцам пісаў сваю кожную песню...", прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка, адбылося 15 верасня ў Мядзеле. Яго арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі абласны і Мядзельскі раённы выканаўчыя камітэты, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

"Час праспеў пакланіцца мяжы, дзе праменіла Танкава лета…" – з радкоў Аляксандра Бывака пачаліся ўрачыстыя мітынг і цырымонія ўскладання кветак да магілы Максіма Танка на яго радзіме ў вёсцы Новікі. Аддаць даніну памяці прыехалі Генадзь Пашкоў, Мікола Мятліцкі, Міхась Башлакоў, Вячаслаў Рагойша, Анатоль Вярабей, Васіль Зуёнак, Віктар Шніп, Дзмітрый Пятровіч, Рагнед Малахоўскі, Станіслаў Валодзька, іншыя пісьменнікі, даследчыкі. У Мядзеле адбылася цырымонія адкрыцця каменя ў гонар юбілею паэта. Намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі падкрэсліў: "Менавіта тут, на радзіме паэта, адчуваюцца яго галоўныя якасці — сціпласць і веліч". Анатоль Бутэвіч паведаміў, што ўрачыстасці ў гонар стагоддзя паэта пройдуць і ў Польшчы.

Пад адкрытым небам праходзілі пленэр выхаванцаў Цэнтра дзіцячай творчасці, выступленне дзіцячых фальклорных калектываў, прэзентацыя газеты "Нарачанская зара". Наведвальнікі свята маглі пазнаёміцца з прадукцыяй беларускіх выдавецтваў, атрымаць аўтографы пісьменнікаў, набыць на добры ўспамін канверт са спецыяльным штэмпелем да юбілею Максіма Танка, пра які парупілася "Белпошта". Запрашала гасцей таксама выстаўка-кірмаш вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і промыслаў з майстар-класамі.

Інтэр'ер гарадской бібліятэкі ўпрыгожылі кампазіцыі з прыродных матэрыялаў, кожная з якіх была своеасаблівай ілюстрацыяй да радкоў выбітнага лірыка. Тут жа дэманстравалася выстаўка па выніках міжнароднага фотапленэру Мінск—Пількаўшчына—Мядзел—Вілейка—Радашковічы—Вільнюс—Мінск "Дарогамі Максіма Танка, удзельнікамі якога былі Надзея Дзегцярова, Віталь Раковіч, Сяргей Плыткевіч, Валерый Сібрыкаў. У Мядзельскім музеі народнай славы ў прэзентацыі кнігі ўспамінаў "Усё жыццё я не любіў расстанняў…" удзельнічалі землякі Максіма Танка: паэт, літаратуразнаўца Мікола Шабовіч, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, выстаўка твораў якога таксама была адкрыта ў гэтыя дні. У ГДК адбылася сустрэча з творчай групай хранікальна-дакументальнай стужкі "Максім Танк".

Словы павагі і ўдзячнасці паэту гучалі са сцэны амфітэатра на беразе возера Мястра. Высока ацаніў ролю Максіма Танка для беларускай літаратуры міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка.

І нават дробны дождж не напалохаў гледачоў праграмы, у якой паэтычныя радкі спалучаліся з выступленнямі вядомых беларускіх артыстаў Марыі Захарэвіч, Алега Сямёнава, Надзеі Мікуліч, Дзмітрыя Качароўскага, Зінаіды Феакціставай ды іншых.



Камень у гонар 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка адкрыты.

# Ушанавалі класіка

17 верасня адбылося ўскладанне кветак да мемарыяльнай дошкі на доме па вуліцы Кульман, 15 у Мінску, у якім паэт жыў і працаваў з 1977 па 1995 год.

**Настасся ГРЫШЧУК, фота Кастуся Дробава**

Як прыгадаў праўнук Максіма Танка Яўген Скурко, прадзед быў катэгарычна супраць таго, каб яго імя ўвекавечвалі мемарыяльнымі дошкамі ці помнікамі. "І я цяпер вельмі ўдзячны людзям, якія запавет парушылі. У першую чаргу — аўтару помніка на магіле Яўгена Іванавіча, а таксама аўтару гэтай мемарыяльнай дошкі Анатолю Яўхімавічу Арцімовічу. Для мяне ж прадзед перш за ўсё — дарагі чалавек, якога я буду помніць заўжды і пастараюся годна насіць яго імя."

Акрамя праўнука паэта сказаць слова пра Максіма Танка прыйшлі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі, паэты Уладзімір Карызна і Зміцер Дземідовіч, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, а таксама галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Таццяна Сівец.

Усе звярнулі ўвагу на тое, што творчасць Максіма Танка належыць не толькі беларускай літаратуры, але і еўрапейскай. Тадэуш Стружэцкі адзначыў:

— Мы ўшаноўваем знакамітага беларуса, выдатнага паэта, выбітнага грамадскага дзеяча, які ўсё жыццё сэрцам і душой гарэў за Беларусь, адстойваў яе інтарэсы і незалежнасць. Пазаўчора адбылося Рэспубліканскае свята паэзіі і песні на Мядзельшчыне, радзіме паэта. 13 верасня прэзентавалі 13-томны збор твораў Максіма Танка. Але святкаванне 100-годдзя разгарнулася і за межамі Беларусі, бо яго імя добра вядомае ў многіх краінах. Праходзяць мерапрыемствы ў Польшчы, Літве, Латвіі, Украіне, Расіі. Гэта яшчэ раз сведчыць, што ўклад Максіма Танка ў літаратурную спадчыну неацэнны. Дзякуючы яго творчасці з нашай літаратурай знаёмыя грамадзяне іншых краін.

Паэтэса Таццяна Сівец прызналася, што разуменне паэзіі Танка прыходзіць з часам:

— Яна вельмі блізкая кожнаму чалавеку і вельмі сучасная. Яна пра тое, што нас хвалюе: каханне, маці, родную зямлю… Зямлю, на якой не мог не нарадзіцца паэт.

Акрамя прамоўцаў кветкі ўсклалі сын паэта Максім Скурко, літаратары Міхась Башлакоў, Ганад Чарказян, Анатоль Бутэвіч, а таксама супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, вучні суседняй школы і жыхары славутага дома.



На Кульман, 15...

# Блаславёны Коласам

**Юлія ШАБЛОЎСКАЯ**

*Сягоння сонцам даль шляхоў азорана.*
*Але я заўжды помню голас твой,*
*Што над далёкімі крыніцамі, азёрамі*
*Паклікаў мяне памятнай парой.*

Радкі гэтага верша, якія Максім Танк напісаў у 1946 годзе, прысвечаныя добраму сябру і настаўніку паэта — Якубу Коласу. Менавіта ад вопытнага калегі Танк атрымаў і першую ўхвалу дэбютнага зборніка. Сын класіка Міхась Міцкевіч успамінае, што, уважліва прачытаўшы выданне, Колас сказаў: "Гэта сапраўдны сын беларускай зямлі!".

"Творчасць паяднала двух паэтаў і зрабіла Максіма Танка частым і жаданым госцем у нашай хаце", — зазначае Міхась Канстанцінавіч.

Падчас адкрыцця выстаўкі "…Я заўжды помню голас Твой" у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа гучалі і іншыя ўспаміны. У Віктара Шніпа, паэта і галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура" — свая гісторыя.

"Аднойчы сусед спытаў, ці ведаю я Танка?" — дзеліцца Віктар Анатольевіч успамінамі з вучнямі мінскай гімназіі № 23 і студэнтамі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, якія прыйшлі на адкрыццё. — "Тавару, маўляў, бачыў некалькі разоў. А сусед і кажа, што вучыўся з паэтам, і просіць прывітанне перадаць!"

Слушна, што ў соты дзень народзін творцы гучалі не толькі вершы ягоных сучаснікаў. Удзельнікі акцыі "Чытаем Коласа разам" прадэкламавалі вершы-прысвячэнні Максіма Танка старэйшаму калегу і настаўніку, а паэт-бард Дзмітрый Пятровіч сваім выступленнем надаў цудоўнае музычнае аздабленне вечарыне.

У бліжэйшы час кожны можа пазнаёміцца з экспазіцыяй у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, дзе прадстаўлены кнігі Максіма Танка з дарчымі надпісамі класіку, вершамі-прысвячэннямі і фотаздымкамі, на якіх адлюстравана сумесная паездка з Коласам у Ленінград і адпачынак на Нарачы.

Літабсягі

# За наміткай гісторыі

Пра тое, што моладзь не ведае гісторыі, крычаць з кожнага кута. І пакуль барацьбіты за патрыятычнае выхаванне б'юць у набат, беларускія пісьменнікі як могуць ратуюць становішча. Пішуць кнігі.

**Анастасія ГРЫШЧУК, фота Кастуся Дробава**



Серыя кніг Анатоля Бутэвіча "Сем цудаў Беларусі", прэзентацыя якой адбылася ў галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, — яскравае таму сведчанне. У аснове апавядаў пра помнікі архітэктуры, знакавыя гістарычныя постаці і падзеі — дакументальныя звесткі, не толькі дакладныя, але і цікавыя. Аказваецца, слаўны горад Адэса заснаваны Вялікім князем Літоўскім Вітаўтам. А палац у Варшаве, дзе месціцца рэзідэнцыя польскага Прэзідэнта, некалі належаў беларускім Радзівілам.

— Гэта серыя патрэбная тым, хто хоча ведаць самі сябе, — тлумачыць аўтар. — Толькі лянота не дазваляе нам, беларусам, зазірнуць глыбей і даведацца — хто мы. Калі мы самі не навучымся сябе шанаваць, паверце — ніхто нас шанаваць не будзе. "Сем цудаў Беларусі" — гэта наша краіна, нашы людзі, наша гісторыя. Чым больш мы ведаем сябе — тым цікавейшыя мы свету. А свету цікава тое, чым мы адрозныя. Я б хацеў, каб мы шанавалі і цанілі гэта.

Першая кніга Анатоля Бутэвіча "У гасцях у вечнасці" з'явілася ў гэтай серыі ў 2001 годзе. Пасля выйшла яшчэ шэсць выданняў: "Званы Нямігі", "Адвечны покліч Радзімы", "За наміткай гісторыі", "Славутыя родам сваім", "Перуновага племені дзеці", "На далонях вечнасці" (сюды ўключаныя і творы Уладзіміра Ягоўдзіка). Кожная кніга складаецца з сямі апавядаў.

Ілюстраваў серыю знакаміты мастак Павел Татарнікаў. Праўда, ілюстрацыямі назваць яго творы язык не паварочваецца: яны не дапаўняюць апавяды, але стаяць упоравень з імі; кожная з яго работ — перліна.

Анатоль Бутэвіч як аўтар прэзентаванай серыі вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Гэта адзначыў ганаровы госць імпрэзы — намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі:

— Скажу адкрыта, што ў Міністэрства культуры Беларусі і членаў калегіі не было сумненняў — падтрымаць ці не падтрымаць аўтара і яго творы. Безумоўна, перш за ўсё ацэньвалася літаратурная якасць. Кнігі арыентаваныя на дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту, але кожнаму даросламу было б іх цікава прачытаць. І атрымаць больш ведаў пра нашую гісторыка-культурную спадчыну. На жаль, такой дасведчанасці многім людзям не хапае, у тым ліку кіраўнікам дзяржаўных арганізацый і ўстаноў.

Аўтара віншавалі Пастаянны паўнамоцны прадстаўнік Украіны пры каардынацыйных інстытутах СНД Іван Бунечка, старшыня Рады Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, а таксама галоўны рэдактар дзіцячага часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі і пісьменніца Раіса Баравікова.

Анатоль Бутэвіч — аўтар кніг для дзяцей, кніг гістарычнай прозы, у тым ліку рамана "Каралева не здраджвала каралю", кнігі "Таямніцы Мірскага замка, або Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам". Цяпер Анатоль Бутэвіч рыхтуе кнігу, прысвечаную Нясвіжскаму палацу.

Арт-лінія

# Гульня ў нацюрморт

Валерый Калтыгін, слынны мастак-кераміст з Бабруйска, прэзентаваў сваю персанальную выстаўку ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Пад назваю "У прасторы прадмета" Валерый Аркадзьевіч прадставіў работы, створаныя ім у 2010 — 2012 гадах. Гэта серыі керамічных твораў "Сітуацыі", "Адлюстраванне" і інш.

**Ганна ПАЛЯКОВА, фота Святланы Берасцень**

Тэма нацюрморта цікавіць Валерыя Калтыгіна ўжо шмат гадоў. Але аўтар падкрэслівае, што гэта нацюрморт не ў класічным яго разуменні. Мастак спрабуе спазнаць чалавечае жыццё праз прадметы, якія побач, вакол нас. Ён упэўнены, што рэчы, створаныя чалавекам, цесна пераплятаюцца з нашым жыццём. Прадметы побыту не проста існуюць каля нас, яны напаўняюць рэчаіснасць духоўна і бяруць нябачны ўдзел у былі чалавецтва.

Незвычайны свет прадметаў і рэчаў, створаных людзьмі, зрабіўся аб'ектам увагі Валерыя Калтыгіна. Свет гэты поўны сакрэтаў, пра якія хочацца даведацца. Пагадзіцеся, што прадметы побыту і рэчы, якія мы бачым навокал, нясуць у сабе загадкі і таямніцы. Некаторыя "рарытэты" ўзаемадзейнічаюць з чалавекам ужо не адно пакаленне і з'яўляюцца часткай гісторыі. На працягу свайго існавання кожны прадмет, нават самы маленькі, неўпрыкмет робіцца неад'емнай часткай нашага жыцця. Такім чынам, быццё чалавечае пераплятаецца з прадметным асяроддзем. Спазнаць гэтую дзіўную сувязь праз свае керамічныя нацюрморты і спрабуе Валерый Калтыгін.

На адкрыцці выстаўкі Валерый Аркадзьевіч сказаў, што назваў бы свае творы чымсьці накшталт "гульні ў нацюрморт". І прызнаўся, што яму хацелася трошкі "пахуліганіць" у гэтым жанры. Мастак упэўнены, што гаварыць пра сур'ёзнае і вечнае ў кераміцы трэба з любоўю да жыцця, і нават з лёгкай усмешкай. Таму ён "садзіцца за гліну" без усялякага ўнутранага напружання і пачынае тварыць, калі на душы няма ніякіх пакут. І магчыма таму яго творы такія дзівосныя і незвычайныя.



*А гэта работа Валерыя Калтыгіна (серыя "З правінцыйнага жыцця", 2008) была прадстаўлена ў галерэі "Універсітэт культуры" ў межах вядомага сумеснага праекта майстра і яго сына Максіма Калтыгіна.*

Повязі

# Сёмы сезон Башмета

Нядзельным вечарам у Мінску ўрачыста распачнецца VII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Чарада гэтых, ужо традыцыйных, яскравых музычных акцый вылучаецца на календары культурных падзей сваім зорным размахам і гучнай рэкламай. Вылучаецца настолькі, што ўспрымаеш іх як "сезон у сезоне", здатны напоўніць наша жыццё сонцам шчодрых эмоцый, свежасцю жывых эстэтычных уражанняў, бляскам і ззяннем унікальных з'яў на творчым небасхіле, адкрыццямі новых феноменаў у мастацтве.

**Лана ІВАНОВА**



*Народны артыст Расіі Юрый Башмет.*

Самае "раскручанае" ў Беларусі свята высокага музычнага мастацтва (аўтар ідэі, мастацкі кіраўнік праекта — лаўрэат міжнародных конкурсаў, беларускі піяніст Р. Крымер, ганаровы сустаршыня аргкамітэта — Ю. Башмет) ладзяць Міністэрства культуры нашай краіны і Мінскі гарвыканкам. Сёмы год запар высілкі арганізатараў фэсту скіраваныя на захаванне і развіццё класічнага мастацтва, на падтрымку маладых талентаў і наватарства ў галіне культуры. Унікальнасць і перспектыўнасць гэтай акцыі надаюць сумесныя канцэртныя выступленні таленавітай моладзі поруч з выбітнымі, нават легендарнымі выканаўцамі, правядзенне ў Мінску майстар-класаў і творчых сустрэч пад эгідай Маладзёжнай музычнай акадэміі краін СНД.

Прагноз на сёлетні сезон Башмета спрыяльны для самых пераборлівых меламанаў. Кожны радок фестывальнай афішы, якая ахоплівае перыяд з 23 верасня па 5 кастрычніка, прыцягальны па-свойму. На ўрачыстым адкрыцці ў Белдзяржфілармоніі чакаюць Літоўскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам знанага скрыпача С. Крылова. Маэстра выступіць і ў якасці саліста. Удзельнічае ў канцэрце яшчэ адзін вядомы саліст — Р. Крымер (фартэпіяна). А якая праграма: два цыклы пад аднолькавай назвай "Паравіны года", створаныя А. Вівальдзі — і А. П'яцолам, ды яго ж кампазіцыі для фартэпіяна і струнных! Наступным вечарам — фестывальны канцэрт ізраільскага "Авіў-квартэта", прысвечаны 20-годдзю ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і дзяржавай Ізраіль. 25 верасня будзе граць Сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам... галоўнага дырыжора аркестра Генуі П. Барганова (Італія), а салісты — бельгійская скрыпачка Т. Самуіл і беларускі віяланчэліст А. Кісялёў. У праграме творы Дж.Вердзі, Э. Элгара, Я. Сібеліуса, П. Чайкоўскага.

"Паганіні альта" Ю. Башмет выступіць 27 верасня разам са сваёй дачкой — піяністкай К. Башмет у канцэрце Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы. Праграму рыхтуе галоўны дырыжор філармоніі Татарстана А. Сладкоўскі. Сярод іншага абвешчана першае выкананне ў Беларусі твора Г. Канчэлі "Сцікс", і мэтр грузінскай музыкі запрошаны на імпрэзу ў якасці ганаровага госця.

Але, як гаворыцца, усіх імёнаў і падзей не пералічыш. Таму — сачыце за афішамі!

З-пад пяра

"Беларусь — чыстая краіна. Тут жывуць людзі з чыстымі думкамі", — зазначыў падчас Міжнароднай канферэнцыі "Роля і месца літаратурнай спадчыны ў развіцці міжнародных стасункаў" народны паэт Казахстана Алжас Сулейменаў. Сама імпрэза не толькі падвяла вынікі 20-гадоваму плённаму супрацоўніцтву дзвюх краін, але і дазволіла шырэй зірнуць на становішча творчых асоб і суполак у былых савецкіх рэспубліках. "Літаратурная творчасць не мае межаў і ўплывае на фарміраванне маладога пакалення", — першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Міхневіч яшчэ раз падкрэсліў важнасць "народнай дыпламатыі" для наладжвання партнёрства. Пра тое, што гісторыя яго доўжыцца значна больш як два дзесяцігоддзі, распавядалі і прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі, якіх добра ведаюць у Казахстане: Уладзімір Гніламёдаў, Мікола Мятліцкі, Анатоль Андрэеў, Васіль Шырко ды іншыя. Сустрэча прадоўжылася ўрачыстым канцэртам на вялікай сцэне Дома літаратара.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

У сярэдняй школе № 28 г. Мінска падвялі вынікі раённага творчага конкурсу на лепшы чытацкі водгук-рэкамендацыю "Мая любімая кніга. Прапаную пачытаць". Спаборніцтва праходзіла сярод школ і гімназій Савецкага раёна сталіцы. У склад журы, якое ўзначаліў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, увайшлі прадстаўнікі аддзела культуры і ідэалагічнай работы адміністрацыі Савецкага раёна, Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы.

Пераможцы вызначаліся па намінацыях: "Самая, самая, самая... Кніга!", "Любімая кніга тваіх бацькоў, бабуль і дзядуль", "Сябры майго дзяцінства", "Як я стаў чытачом", "Паэзія ў маім жыцці". Удзельнікамі конкурсу сталі больш як сто навучэнцаў 9 — 10 класаў. У першай намінацыі вызначылі нават тры першыя, другія і трэція месцы. На першае месца выйшлі Вольга Камароўская (СШ № 187), Віта Несцяровіч (СШ № 66) і Наталля Цяпліцына (СШ № 34).

**Ірына ТУЛУПАВА**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка Валянціна Антонавіча ЛУКШЫ і выказваюць шчырыя спачуванні яго блізкім, родным і знаёмым.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" смуткуе з прычыны смерці паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянціна Антонавіча ЛУКШЫ і выказвае шчырыя спачуванні яго родным, сябрам і калегам.

Супрацоўнікі газеты "Літаратура і мастацтва" глыбока смуткуюць з прычыны смерці выдатнага майстра слова Валянціна Антонавіча ЛУКШЫ і выказваюць шчырыя спачуванні блізкім, калегам і ўсім аматарам яго творчасці.

# Слова пра Настаўніка

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Я сам разумеў, што рэч недасканалая, і нідзе не надрукаваў. Затое пазней, калі мае апавяданні, вершы, казкі сталі з'яўляцца ў дзіцячых перыядычных выданнях, ён часам запрашаў на літаратурныя вечары ў педінстытут.

Нельга назваць такога раёна Брэсцкай вобласці, у якім не выступаў Калеснік. Памятаю, як напярэдадні 40-годдзя Вялікай Перамогі работнікі Жабінкаўскага райана запрасілі Уладзіміра Андрэевіча выступіць у ГДК перад юнымі чытачамі. Ён, абапіраючыся на творы Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Івана Чыгрынава, расказаў, як тэма Вялікай Айчыннай вайны асвятляецца ў беларускай літаратуры. Асобная гаворка была пра тое, як збіраўся матэрыял і стваралася кніга "Я з вогненнай вёскі…"

Як вядома, аўтары на Калеснікавым чырвоным "Масквічы" аб'ехалі ледзь не ўсю Беларусь. Сам Уладзімір Андрэевіч хораша фатаграфаваў, і яго здымкі ўвайшлі ў кнігу. Тады, у прыватнасці, ён сказаў:

— Матэрыял быў настолькі незвычайны, настолькі цяжкі для ўспрымання, бо людзі расказвалі жудасныя падрабязнасці тых вогненных гадоў, што мы маглі працаваць тыдзень, а потым два-тры дні вымушаны былі адпачываць, настройвацца на новыя сустрэчы. Хаця ўсе мы — і Алесь Адамовіч, і Янка Брыль, і я — самі прайшлі вайну…

Мы ведалі, што ў апошнія гады Калеснік цяжка хварэў. Каб падтрымаць арганізм, яму час ад часу рабілі пераліванне крыві. Як бы падводзячы вынікі пражытага, Уладзімір Андрэевіч апантана, наколькі дазваляла здароўе, працаваў над дакументальнай аповесцю "Доўг памяці" пра сваю партызанскую маладосць.

Як ні рупіліся ўрачы і сябры адцягнуць хвіліну расстання, яна прыйшла. Для многіх, як і для мяне, яна была нечаканай і нясцерпна балючай. Смерць Настаўніка ўраз сабрала ўсё "Берасцейскае вогнішча", як сам Калеснік называў літаратурную "дружыну" Брэстчыны. І не толькі. З Мінска прыехалі Янка Брыль, Васіль Жуковіч, Яўген Лецка, Міхась Тычына і іншыя.

У кватэры Калеснікаў сыходзілася ўся інфармацыя пра пахаванне. Прыйшла неспакойная вестка: на месцы, што выбрала жонка Зося Міхайлаўна, ляжыць вялізная глыба, якую без крана не падняць, таму абралі новае. Васіль Жуковіч сказаў:

— Уладзімір Андрэевіч быў вялікі жыццялюб. Не хочацца яму ісці ад людзей, вось і адцягвае ён хвіліну ростані…

Труну ўстанавілі ў педінстытуце для развітання з памерлым. У ганаровай варце былі і пісьменнікі Брэстчыны, і госці. Выступалі. Янка Брыль перадаў словы падтрымкі ад Максіма Танка, які сам цяжка хварэў, але спачуваў сям'і Калесніка з нагоды незаменнай страты.

Іван Антонавіч Цёпла, хораша гаварыў і пра ролю Зосі Міхайлаўны ў жыцці Уладзіміра Андрэевіча. Хто злічыць, колькі старонак, напісаных Калеснікавай рукой, было аддрукавана ёю! Колькі пасля правак! Зосі Міхайлаўне было наканавана і далей рупіцца пра мужаву спадчыну.

Жыве памяць пра Уладзіміра Андрэевіча, якую доўжаць калегі, вучні. Яна — у рабоце навукова-асветніцкага цэнтра, адкрытага ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце, у літаратурнай прэміі яго імя, у назвах вуліцы ў Брэсце і Ярэміцкай сярэдняй школы, дзе вучыўся Калеснік.

Да 85-годдзя з дня нараджэння выдадзена цудоўная кніга "Пасланец Праметэя", якая ўвабрала ў сябе ўспаміны сучаснікаў пра Калесніка, а таксама творы, прысвечаныя яму. Мой верш нарадзіўся адразу пасля ростані з Настаўнікам.

*Ля Берасцейскага вогнішча*
*Хто дарогу шукаў як бы вобмацкам,*
*Хто ішоў праз кусты напралом*
*К Берасцейскаму зыркаму вогнішчу,*
*Каб сказаць, што на сэрца лягло.*

*Разгараліся спрэчкі, што полымя,*
*Як смалістых падкідваюць дроў…*
*Ваш бацькоўскі наказ, каб ніколі мы*
*Не зракаліся праўды й сяброў.*

*Мы чыталі так вершы, бы ставілі*
*Усё чыста на кон, што маглі…*
*Побач з Вамі, любімым Настаўнікам,*
*Нам жылося лягчэй на зямлі.*

*… Сёння слёзна, сцюдзёна і воблачна,*
*Расставанне прыспешвае час…*
*Век гарэць Берасцейскаму вогнішчу —*
*Гэта нашая памяць пра Вас.*

# Брыганціна на хвалях вечнасці

**НЕ СТАЛА ВАЛЯНЦІНА ЛУКШЫ**



Гэтая песня з гадоў юнацтва тых, каму сёння пад семдзесят ці нават ужо за семдзесят. Калі яна з'явілася, усе мы былі яшчэ маладымі. Маладым быў і аўтар верша "Стаяць на рэйдзе брыганціны..." Валянцін Лукша. Яму на той час споўнілася толькі 29 гадоў. Кампазітар жа Ігар Лучанок, які паклаў гэты верш на музыку, быў нават на год маладзейшы за яго. Песня "Брыганціны" настолькі спадабалася ўсім, што адразу, кажучы сённяшнімі паняццямі, стала хітом. Ды, калі быць праўдзівым, тады мы і слова такога не ўжывалі. Ведалі ж і любілі цудоўныя вершы, не менш цудоўныя песні, сярод якіх была і гэтая — "Брыганціны". Спявалі яе ля кастроў і ў застоллі. Гучалі "Брыганціны" на розных вечарах. І, бясспрэчна, ці не штодня гэтая песня перадавалася па радыё. Так працягвалася некалькі гадоў. Па сутнасці, уся рэспубліка спявала:

***Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны,***
***Стаяць і морам трызняць каравелы.***
***І сотні вёрст, і сотні дзён прайсці нам,***
***Калі яны падымуць крылы белыя.***

***Прыйшлі ў свае сямнаццаць да прычала,***
***Прыйшлі, на іх глядзім маўкліва, строга.***
***І сто вятроў са ста дарог крычала,***
***І клікала далёкая дарога.***

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

Нямала жыццёвых вёрстаў прайшоў на той час і сам В. Лукша. Няхай і не сотню, а шчэ не адзін дзясятак, то пэўна. Дый яго таксама паклікала, прывабіла далёкая дарога. Пасля заканчэння ў сваім родным Полацку лясного тэхнікума ён у 1956 годзе дзевятнаццацігадовым юнаком паехаў па размеркаванні ў Пензенскую вобласць, дзе працаваў памочнікам таксатара Пензенскай аэрафоталесаўпарадчай экспедыцыі.

Толькі нядоўга затрымаўся там. Паклікала да сябе Полаччына. На беразе Заходняй Дзвіны акурат узводзіўся новы горад. Той самы горад, які сёння ўсе мы ведаем як Наваполацк. Разумеў: навошта шукаць рамантыку ў далёкіх краях, калі яна ёсць і побач з бацькоўскім домам. Яна ж была літаральна на кожным кроку. Знаёмае, блізкае з маленства паядноўвалася з новымі рэаліямі. Хіба можна было пра гэта не пісаць! Тады ж і нарадзіўся адзін з лепшых ягоных вершаў "Глушцы":

*Прыляцелі, сабраліся дзівакі,*
*Дзе было такавішча,*
*На ўзбярэжжы ракі,*
*І зайшліся, прыжмурыўшы вочы,*
*На гудроне цэнтральнай плошчы.*

*Ды нядоўгім было такавішча*
*глушцоў —*
*Раскалоў першы промень морак,*
*І пабачылі птушкі —*
*З усіх бакоў,*
*Нібы воблачка, белы горад.*

Валянцін Лукша працаваў інструктарам Полацкага гаркама камсамола, затым быў камсоргам трэста № 16 "Нафтабуд". Крыху пазней звязаў свой лёс з мясцовым друкам. Пісаў пра тое, што добра ведаў. Пісаў пра тое, пра што не мог пісаць. Усё гэта было прапушчана праз уласную душу, вынашана ў сэрцы. Як і вершы, што ўвайшлі ў яго першую кнігу "Гарады нараджаюцца сёння", якая пабачыла свет ў 1964 годзе. Сюжэты твораў зборнікаў дакументальна-мастацкай прозы "Наша полацкая прафесія" (1966) і "Рамантыкі шасцідзесятых" (1967) таксама шмат у чым узятыя з уласна пражытага, з багатых жыццёвых назіранняў.

У далейшым В. Лукша выступаў у самых розных жанрах. Ён заявіў пра сябе не толькі як цікавы паэт, а і па-грамадзянску актыўны публіцыст, патрабавальны, удумлівы перакладчык. Дый паспрабаваў свае магчымасці як аўтар лібрэта радыёоперы "Барвовы золак" Кіма Цесакова.

Гэтая опера, у якой ажываюць старонкі прозы Івана Мележа, паўстаюць, нібы жывыя, героі ягонай "Палескай хронікі", прагучала па радыё ў 1979 годзе. Пісацца ж лібрэта пачало яшчэ ў 1967-м. Гэта дакладна ведаю, бо якраз тады праходзіў журналісцкую практыку ў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", у якой Валянцін Антонавіч загадваў аддзелам ці то літаратуры, ці то літаратуры і культуры. Ды ад гэтага сутнасць не мяняецца. Галоўнае, як паважліва ставіўся ён да маладых талентаў. Рэгулярна ў "Чырвонцы" змяшчаліся літаратурныя палосы, рэцэнзаваліся новыя кнігі, праходзілі пасяджэнні літаб'яднання. У цэнтры гэтага кіпучага творчага жыцця знаходзіўся сам загадчык аддзела. Малады, энергічны, прыгожы, ён умеў згуртоўваць вакол сябе людзей. Хутка і я знайшоў з ім агульную мову. Калі В. Лукша падзяліўся са мной, што збіраецца пісаць лібрэта паводле твораў І. Мележа, я, не задумваючыся, прапанаваў яму кнігу "Подых навальніцы", якую толькі што прыдбаў. Таму і быў у курсе таго, як яму пісалася.

Пасля ж таго, як я стаў супрацоўнікам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", мы даволі часта сустракаліся. І тады, калі В. Лукша працаваў на радыё. Але асабліва пасля таго, як у 1979 годзе ён узначаліў новае выдавецтва "Юнацтва". Дарэчы, на гэтай адказнай пасадзе ён знаходзіўся каля дваццаці гадоў. За гэты час "Юнацтва" ператварылася ў адно з вядучых выдавецтваў гэтага профілю на савецкай, а потым постсавецкай прасторы. Быў ажыццёўлены шэраг праектаў, якія мелі шырокі рэзананс не толькі ў нашай краіне, а і за яе межамі. Сярод іх і выпуск бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў саюзных рэспублік у 16 тамах, за якую поруч з іншымі В. Лукша быў заслужана ўдастоены Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Па-ранейшаму шмат пісаў сам. Выходзілі ўсё новыя і новыя кнігі. Асабліва плённа працаваў у галіне дзіцячай літаратуры. Так, некалькі месяцаў таму выйшла чарговая — "Дзеньзалацень". Светлая, сонечная, дасціпная. Як і ўсе папярэднія ў яго. Дый дарослых чытачоў пастаянна радаваў сваімі новымі творамі. Чарговыя павінны былі з'явіцца ў юбілейных для яго нумарах часопісаў "Полымя" і "Маладосць". Не дачакаўся, не дажыў да свайго 75-годдзя двух месяцаў.

Назва кнігі паэзіі В. Лукшы, што выйшла ў серыі "Беларуская паэзія XX стагоддзя", успрымаецца сімвалічна — "І родны дом, і цэлы свет". Асабліва гэта стала відавочна цяпер, калі 17 верасня мы развіталіся з Валянцінам Антонавічам. Пры жыцці яму сапраўды быў блізкім родны дом, пад якім трэба разумець і ўсю Беларусь. Але не чужымі для яго з'ўляліся і шмат якія краіны, у якіх пашчасціла пабываць. Цяпер жа ўся Зямля — ягоны прытулак. Ягоная брыганціна ўжо гайдаецца на хвалях вечнасці.

Бывай, незабыўны Валянцін Антонавіч!

Аўтограф на форзацы

## Навум Цыпіс:

# «У літаратуры ёсць і спрынтары, і стаеры...»

Навум Цыпіс нарадзіўся ў горадзе Вінніцы ва Украіне. Скончыў гісторыка-літаратурны факультэт Курскага педінстытута. Працаваў настаўнікам у прафтэхвучылішчы, карэспандэнтам газеты "Піянер Беларусі", загадчыкам аддзела часопіса "За безопасность движения", літсупрацоўнікам газеты "Культура". Аўтар кніг прозы "Где-то есть город", "Старые дороги", "Билет до Винницы", "Иду и возвращаюсь", рамана "Балканская рама". Галоўнай кнігай цяпер называе "Приближение". Пятнаццаць гадоў, як жыве ў Брэмене (Германія).






Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

Падчас сустрэчы на маім працоўным стале красаваў нумар часопіса "Полымя" за 2008 год. У ім — аповесць-эсэ "Міленькі ты мой... Мілая мая". (Як хатняя нарыхтоўка, той "раяль у кустах", які не заўважыць немагчыма). Цыпіс пагартаў часопіс і здзівіўся: вось, узяў у рукі першую рэч — і прыемная нечаканасць: убачыў свой надрукаваны твор.

Заўважаю адваротнае: "палымянскі" нумар тут невыпадкова. Захацелася перачытаць, ажывіць уражанні...

І так атрымалася, што першае пытанне задаў-такі ён.

— Азнаёміліся?

**— Канечне. Мне ўвогуле падабаюцца аўтары, у чый унутраны свет пранікаеш з задавальненнем, калі хочацца спасцігнуць твор, зразумець думкі таго, хто пісаў. А ёсць кнігі, напісаныя быццам таленавіта, ды чытаць не хочацца: змрок…**

— У вопытнага чытача заўсёды гэта ўзнікае — адносіны з тэкстам. А ёсць варыянт: тэкст — асобна, аўтар — асобна.

**— А як наконт таго, што "напісанае без высілкаў і чытаецца без задавальнення"?**

— Калі без высілкаў, калі ўпіраешся, ты пераломваеш нешта альбо там (*паказвае на сябе*), альбо там (*звонку. — І. Т.*). Гэты твор я пісаў, не адыходзячы ад стала. Яно з мяне ішло. І "сашчэпак" паміж асобнымі часткамі няма. А ёсць поле, на якім усё гэта размясцілася. І, здаецца, цэльна. Эсэістыка як быццам выскоквае з-за вугла, і ты сам не вольны ў тым, што робіш. Гэты стан звышнатуральны, вытлумачыць яго немагчыма.

А пераклад выдатны. Бліскучы пераклад зрабіў нябожчык Уладзімір Марук. Калі я прачытаў, ахнуў…

**— Дарэчы, пра каханне. Вашы эсэ прысвечаныя ў тым ліку тэме любові. Ды згадваю вашу рэмарку падчас аднаго з выступленняў Раісы Баравіковай. Яна распавядала пра першыя крокі ў "ЛіМе", пра тое, як рэдактар асмеліўся даць паласу яе лірычных вершаў у газеце. Вы сказалі: "Гэта быў смелы ўчынак рэдактара". У тыя часы гэта была "новая тэма", на якую не пісалі?..**

— Уявіце сабе... Я помню, калі пасля вайны паказалі фільм "Девочка моей мечты". Дзяўчынку паказваюць голую ў бочцы, і ў нейкі момант адкрываецца каленка... Рая асмелілася "распрануцца", магчыма, да бікіні. У той час гэта быў учынак! Яна была дзяўчынкаю, якая агаліла душу. І гэта быў вельмі смелы крок. Але яна паэт, яна не магла паіншаму. А рэдактар? Даць у той час такую паласу — было вельмі смела. І публіка так гэта і расцаніла.

**— Вы пісалі шмат, пісалі эсэ, рэцэнзіі на творы. Што ж хочацце сказаць чытачу?**

— Вось зусім нядаўна прачытаў новы раман Ганада Чарказяна ў перакладзе Валерыя Ліпневіча. Ганад не Бунін. І Ліпневіч не Бунін. Калі чытаў, знаходзіў, як рэдактар, "блохі". І павучальнасць ёсць, і газетнасць... Але гэта ўсё не важна. Гэта надзіва смелы раман. Ганад горац, у яго вельмі складаная біяграфія.

> *Эсэістыка як быццам выскоквае з-за вугла, і ты сам не вольны ў тым, што робіш. Гэты стан звышнатуральны, вытлумачыць яго немагчыма.*

А тут — гісторыя юнака, які трапіў у палон і 18 гадоў прабыў рабом у чачэнскай сям'і. Але якая выдатная чалавечая аснова: і тут вайна, і там вайна, тут людзі і лёсы — і там людзі і іх лёсы. Ганад, як мне падаецца, праводзіць бясцэнную думку: мы ведаем, што чачэнцы творацьз намі. А што мы творым з імі? Ён паказвае і той, супрацьлеглы, бок. Гаспадар дома, дзе юнак быў рабом, сказаў: "Тыя гады, якія ты на мяне працаваў, з'яўляюцца калымам, які ты плаціш за тое, што станеш мужам маёй дачкі". І ён становіцца мужам. Вось такі перавёртыш. Небяспечнае сальта, перавернутая піраміда каштоўнасцей... Аказваецца, сёння пішуць прозу!

**— Цягам гадоў заўважылі ў літаратуры пэўныя перыяды, тое, як яна трансфармавалася?**

— Гэта пытанне не да мяне. Я не маю права гаварыць: столькі гадоў адарваны ад усяго гэтага!

**— Аднак у Германіі ёсць часопіс рускіх пісьменнікаў "Литературный европеец", дзе вы друкуецеся.**

— Так, гэта "мой" часопіс. З трэцяга ці пятага нумара публікуюся ў ім, і даволі шчодра. У ім бываюць "правалы", тады я званю ў Франкфурт галоўнаму рэдактару Уладзіміру Батшаву.

**— Ды ўсё-такі назва абавязвае, тут асноватворныя словы "літаратура" і "Еўропа". Якая ж яна — літаратура ў Еўропе? Вось, здаецца, чытаеш замежнага аўтара, і тэма падобная, і героі тыя ж — а зусім па-іншаму ўспрымаецца. Стылістыка творцы заўсёды адметная?**

— Ведаеце, часопіс спрабуе быць выратавальным кругам для тых нямногіх літаратараў, якія хаця б сваё прозвішча жадаюць бачыць надрукаваным. Што да іншага... Вы ж чыталі грузінскіх аўтараў? Ні з кім не зблытаеш. Самы дзіўны цуд на Зямлі — гэта мова. Нічога больш чароўнага і магутнага няма. Калі словам узнімаюць у атаку і кладуць маладзіцу ў ложак. Вось аснова ў кожным творы, нават з перакладам — мова! Нікуды не дзенешся. Вопытны чалавек у літаратуры, нават чытач-заўзятар адразу пазнае... Калі ў мяне пыталіся: чаму на беларускай мове не пішаш, друкавалі б часцей — я адказваю, што многія людзі пайшлі на гэта, але нямногага дасягнулі. Акрамя таго, што іх два-тры разы надрукавалі. І ўся выгода. Як можна пісаць на мове, з якой ты не нарадзіўся? Некаторыя пераступалі, і ў іх атрымлівалася — але мы дагэтуль не можам зразумець, як гэта робіцца. Згадаем Набокава, Бродскага, якія пісалі на англійскай лепш за англічан. Але гэта тыя выключэнні з правілаў, якія заўсёды знойдуцца.

**— Да тых імёнаў магу дадаць Уладзіміра Мулявіна, які нарадзіўся не ў Беларусі, але ўзвялічыў мову...**

— Не проста мову, ён нашмат глыбей увайшоў у генетыку. Таму што песня народная — адтуль.

Я ж яўрэй, які нарадзіўся ва Украіне, вучыўся ў педінстытуце ў Курску пяць гадоў і сорак з лішкам гадоў жыў у Беларусі, да таго ж і жонка мая беларуска.

**— У чалавека ёсць малая радзіма, дзе ён нарадзіўся. Ёсць Радзіма, якой ён прысвячае свае лепшыя справы, ёсць этнічная радзіма. Калі гэтыя радзімы супадаюць — мы маем ідэальную сітуацыю, якая ў рэальнасці сустракаецца вельмі рэдка. Калі ж яны розныя — тчэцца канва лёсу чалавека...**

— Для мяне доўгі час, і ў дарослым жыцці таксама, не існавала нацыянальнасці. Галоўным было іншае. Калі мы з кім супадаем вось тут (*паказвае на сэрца. — І. Т.*), то мне абсалютна ўсё роўна, які, да прыкладу, нос у Мкртчана. Мяне яўрэем зрабіла не нараджэнне і не бацькі. Ні мовы, ні гісторыі да сталага ўзросту я не ведаў. Да той пары, пакуль самасвядомасць не пачала гаварыць: трэба ж ведаць, адкуль ты і хто ты ёсць на зямлі. Мяне яўрэем зрабілі антысеміты. Яны ўвесьчасна гаварылі: ты чалавек другога гатунку. А калі пераступіў праз усё гэта, для мяне Караткевіч стаў большым братам, чым, да прыкладу, прэзідэнт Ізраіля. (*Узнімае галаву на сцяну, дзе вісіць каляндарык на 2010 — 2011 гады з партрэтам Уладзіміра Караткевіча. — І. Т.*). Вось тут ён вельмі прыгожы, малады... У Беларусі я стаў тым, кім стаў. І чым далей, тым больш глыбокая настальгія.

Між іншым, я заўважыў: апошнім часам для мяне больш прыярытэтным становіцца напісаць, а не надрукавацца. Перастаў пісаць заказныя рэчы. Бывае, штосьці падпраўлю старое. І раптам знайшоў мех, куды я скідваў цягам гадоў і дзесяцігоддзяў нешта напісанае, што ў свой час па розных прычынах не пайшло ў друк. Запісаў нейкую думку — укінуў. Дзённікавыя запісы — укінуў. У мяне ёсць звычка — ставіць дату, калі напісаў. І цяпер я размясціў усё па храналогіі, стаў чытаць. Дзесьці паставіў "мосцік", дзесьці "зашыў" ці паставіў "заплату" — нават не ведаю, колькі ўсяго старонак атрымліваецца, але вельмі шмат.

> *Самы дзіўны цуд на Зямлі — гэта мова. Нічога больш чароўнага і магутнага няма. Калі словам узнімаюць у атаку і кладуць маладзіцу ў ложак. Вось аснова ў кожным творы, нават з перакладам — мова!*

**— У вас жа знайшла цытату: *"Мы, маладыя прадстаўнікі слаўнага Замасцянскага раёна Вінніцы і яшчэ больш слаўнай яго слабады — Стандаркі. Ад прыручанага слова "стандарт" <...> Мы тут нарадзіліся і выраслі. Стандарка — наша радзіма. Стандарка — наша сям'я. Стандарка — гэта тое, пра што я пішу ўсё жыццё".* І цяпер пра яе пішаце?**

— Так, у мяне ёсць галоўны герой — дзядзька Пеця, які падарожнічае па ўсёй творчасці. Як ёлка, на якую я навешваю ўсе свае цацкі. У грамадзіну таго часу ўбудоўваюцца ўсе мае апавяданні, нават напісаныя раней. Быццам эскізы мінулага часу: якім я быў, што адбывалася. Падыходзяць і апавяданні, надрукаваныя ў кнігах, яны ўстаўляюцца ў канву зусім натуральна, быццам для таго прызначаныя.

**— Якія літаратурныя жанры маюць для вас перавагу?**

— На людзей, якія пішуць раманы, я дагэтуль гляджу вялікімі вачыма. У літаратуры гэтак жа, як у спорце: ёсць стаеры і спрынтары, кароткая і доўгая дыстанцыі. Пісаў публіцыстыку. Неяк падвярнуў нагу, ляжаў у траўматалогіі. Пазнаёміўся з дактарамі і пасля выхаду напісаў нарыс пра патрэбы траўматалогіі. З матэрыялам пайшоў да Андрэя Макаёнка. І вырашылі, перш чым друкаваць, паказаць дырэктару Інстытута траўматалогіі, каб не было "ляпаў". А ў таго была заяўка на новае памяшканне інстытута. Ён і кажа: "Калі гэта будзе надрукавана, то будаўніцтва адкладзецца на некалькі гадоў". Адклалі матэрыял убок. Бывае і такое. Дык вось гэта (а я пісаў нарыс 9 месяцаў, высвятляў усе акалічнасці) стала, як я думаў, асновай апавядання. І напісанне расцягнулася на сем гадоў. Выйшаў раман "Балканская рама". Так называюць траўматалагічнае прыстасаванне, механізм, які падтрымлівае хворага.

Цяпер я прыдумаў новы сюжэт. Мой дзядзька Пеця, слесар-вадаправодчык, з якім мы жылі ў барачным доме ў Стандарцы — філосаф ад зямлі. Ён вельмі любіў чытаць і асабліва запамінаў незнаёмыя словы. Мы з сябрамі сталі яго вучыць, адзнакі ставіць — гэта цэлая гісторыя!

А першыя кнігі былі пра сяброў. Падштурхнула ж мяне да творчасці Ганна Давыдаўна Краснапёрка. Я ёй казаў, каб пісала пра гета, а яна мне, пачуўшы вусныя аповеды, сказала, што гэта і ёсць план кнігі. Вось так мы з ёю абмяняліся парадамі, якія вызначылі наш занятак.

# Фэст-марафон: пуцевадзіцель па «эпіцэнтрах»

Ірына ШАЎЛЯКОВА

## АКТУАЛЬНЫЯ «ТРЭНДЫ»

Адным з найбольш актуальных “трэндаў” айчыннага літаратуразнаўства ў першае дзесяцігоддзе XXI ст. выявілася праблема творчай індывідуальнасці пісьменніка. У адных выпадках — як, напрыклад, у манаграфіі З. Мельнікавай “«На горне душы…»: Творчасць Змітрака Бядулі і беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя” (2001) — увага засяроджваецца на асаблівасцях фарміравання, а таксама на спецыфіцы сацыякультурнай актуалізацыі гэтага асобасна-творчага феномена. У шэрагу іншых прац (“Непрыручаная птушка Палесся: творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц” (2007) С. Калядкі, “«Свае руны мне не вышыць…»: спадчына Анатоля Сыса” (2008) І. Штэйнера, “Мастацкая канцэпцыя чалавека і свету ў лірыцы Аляксея Пысіна” (2009) Т. Хоміч) згаданы феномен набывае своеасаблівую *“экзістэнцыяльную рэльефнасць”*, паколькі разглядаецца яшчэ і праз прызму неадназначных, нярэдка трагедыйных (у сваёй незваротнасці), трагічных (у сваёй паўтаральнасці) уплываў жыцця грамадскага (свету “рэчыўнага”) на быццё творчае (“тонкасусветнае”). Часам сфакусіраванасць даследчыка на вывучэнні пэўнага аспекту творчасці пісьменніка мае плёнам нібыта і незапланаваны “стэрэаскапічны эфект”: заглыбленне ў “прыватнае” дае магчымасць убачыць “агульнае” ў адмысловым ракурсе, адначасова дэталізаваным і цэльна-рухомым (“Super flumina Babylonis: біблейскія міфалагемы ў паэзіі Рыгора Барадуліна” (2008) І. Штэйнера, “Паэзія рэчаіснасці: у свеце Максіма Танка” (2001) М. Мікуліч, “У храме Слова: Міфатворчасць В. Казько” (2005) Г. Друк.

Цікавыя даследаванні, прысвечаныя разнастайным аспектам гістарычнага развіцця беларускай нацыянальнай літаратуры, ажыццяўляліся па-за межамі Беларусі. Прычым сярод іх пераважаюць працы, звязаныя з рознабаковым і рознаўзроўневым асэнсаваннем беларускай літаратуры ў дыяспары. У 2007 годзе пад рэдакцыяй Я. Чыквіна пабачыў свет зборнік навуковых прац “Шлях па прамой: да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы: 1958 — 2008 гг.” (выхад яго быў прымеркаваны да 50-годдзя вядомага літаратурнага згуртавання “Белавежа”, што існуе на Беласточчыне). У 2010 годзе ў Беластоку выйшла кніга прац кафедры беларускай філалогіі Беластоцкага ўніверсітэта “Беларуская літаратура XVI — XX стст.” (пад рэдакцыяй Г. Тварановіч). Беларускім паэтам і празаікам — стваральнікам беларускага літаратурнага руху ў паваеннай Польшчы — прысвечана кніга А. Баршчэўскага “Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958 — 1998 гг.” (да яе выдання спрычыніліся кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і Польскі інстытут у Мінску).

Дзякуючы прафесару Лонданскага ўніверсітэта А. Макміліну ў беларускім літаратуразнаўчым дыскурсе 2000-х з’явіліся не толькі манаграфічныя “агледзіны” “Беларускай літаратуры дыяспары” (2004), але і падкрэслена “аўтарская” гісторыя беларускай літаратуры апошніх чатырох дзесяцігоддзяў. Намеры А. Макміліна “пазнаёміць англамоўных чытачоў з малавядомай і несправядліва абыдзенай увагай літаратурай” увасобіліся ў выданні “Writing in a cold climate: belarusian literature from the 1970s to the present day” (Лондан, 2010), беларуская версія якога — “Пісьменства ў халодным клімаце: Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён” — пабачыла свет у 2011 годзе ў Беластоку. Гэтую кнігу нельга наўпрост суаднесці ні з традыцыйнымі гісторыка-літаратурнымі даследаваннямі, ні з белетрызаваным літаратуразнаўствам, ні з публіцыстычнай ды культурасофскай эсэістыкай. І разам з тым, іх адзнакі без асаблівых цяжкасцей адшукваюцца нават у межах аднаго артыкула. Аўтар ладзіць *асобасныя агледзіны* беларускага нацыянальнага пісьменства акрэсленага перыяду, выштукоўваючы акрамя іншага ўласную (насамрэч індывідуальна-аўтарскую) іерархію пісьменніцкіх талентаў.

## «ЭПІЦЭНТРЫ»

Прапанаваны кароткі агляд пошукаў і набыткаў беларускага літаратуразнаўства першага дзесяцігоддзя XXI ст. дазваляе зрабіць высновы, па-першае, пра ўплывовасць тэндэнцыі да кантэкстуальнага асэнсавання нацыянальнага прыгожага пісьменства (і яго асобных з’яў, і як гісторыка-культурнага, эстэтычнага, мастацкага феномена ў цэлым); па-другое — пра разнастайнасць урачыстага згаданай тэндэнцыі ў літаратуразнаўчым дыскурсе 2000-х. Своеасаблівымі “эпіцэнтрамі” даследчыцкай актыўнасці ў адпаведным кірунку побач з Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі з’яўляліся кафедры гісторыі і тэорыі літаратуры філалагічных факультэтаў вядучых універсітэтаў Беларусі. Акрамя выдавецтва манаграфічнага тыпу тут рэгулярна выдаваліся зборнікі, дзе прадстаўляўся плён працы навукоўцаў па асэнсаванні фундаментальных і прыкладных праблем гісторыка-літаратурнага развіцця, а таксама матэрыялы канферэнцый, многія з якіх даўно займелі высокі міжнародны статус як прадстаўнічыя навуковыя форумы.

“ *Важная роля ў літаратуразнаўчай прасторы 2000-х належыць гэтак званым навуковым чытанням, што на працягу не аднаго дзесяцігоддзя ладзяцца практычна ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.*

Так, у Беларускім дзяржаўным універсітэце праводзіцца шэраг міжнародных канферэнцый, па выніках якіх выдаюцца зборнікі навуковых артыкулаў і матэрыялаў: “Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай”, “Мова — літаратура — культура”, “Руская і беларуская літаратуры на мяжы XX — XXI стагоддзяў” і інш. З цягам часу і згаданыя выданні (дзе побач з працамі прафесароў А. Андрэева, А. Бельскага, С. Ганчаровай-Грабоўскай, Е. Лявонавай, Л. Сіньковай, І. Скарапанавай, В. Рагойшы, І. Чароты, Т. Шамякінай друкуюцца артыкулы іх маладзейшых калег — Л. Алейнік, Г. Бутырчык, І. Запрудскага, М. Хмяльніцкага і інш.), і самі форумы пачалі ўспрымацца не толькі як своеасаблівы “брэнд” філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, але і як адмысловы навукова-творчы “паліго н”, дзе даследчыкі розных пакаленняў апрабіруюць і выпрабоўваюць самыя розныя ідэі, канцэпцыі, гіпотэзы і г. д.

Важная роля ў літаратуразнаўчай прасторы 2000-х належыць гэтак званым навуковым чытанням, што на працягу не аднаго дзесяцігоддзя ладзяцца практычна ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Дзякуючы намаганням філалагічнай супольнасці вядучых універсітэтаў краіны збіраюць аўтарытэтныя міжнародныя навуковыя форумы Калеснікаўскія чытанні ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна, Куляшоўскія чытанні ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. А. Куляшова, Купалаўскія чытанні, а таксама навуковыя сустрэчы ў гонар Э. Ажэшкі ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, Танкаўскія чытанні ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя М. Танка,

“ *Часам сфакусіраванасць даследчыка на вывучэнні пэўнага аспекту творчасці пісьменніка мае плёнам нібыта і незапланаваны “стэрэаскапічны эфект”: заглыбленне ў “прыватнае” дае магчымасць убачыць “агульнае” ў адмысловым ракурсе, адначасова дэталізаваным і цэльна-рухомым.*

Узвышаўскія і Шырмаўскія чытанні ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Розгаласным мерапрыемствам яшчэ з канца 1990-х гадоў сталі міжнародныя чытанні, прысвечаныя Яну Баршчэўскаму, што праводзіліся намаганнямі кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава; іх матэрыялы прадстаўленыя ў зборніках “Ян Баршчэўскі: дыялог з часам і ў часе” (2002, пад рэдакцыяй В. Русілкі), “Ян Баршчэўскі ў славянскім свеце (да 210-годдзя з дня нараджэння)” (2004, пад рэдакцыяй В. Бароўкі).

Па выніках добра вядомай у Беларусі і за яе межамі міжнароднай канферэнцыі, якая праводзіцца кафедрай беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, былі выдадзены (пад рэдакцыяй І. Штэйнера) зборнікі “Рэгіянальныя асаблівасці фальклору і літаратуры славянскіх народаў” (2004), “Нацыянальнае і агульначалавечае ў славянскіх літаратурах” (2007), “Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры: Міжнародныя навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці Івана Навуменкі” (2009) і інш. У 2005 годзе кафедрай рускай і сусветнай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны была праведзена знакавая міжнародная навуковая канферэнцыя “Вайна ў славянскай літаратуры”; па яе выніках І. Афанасьеў падрыхтаваў аднайменны зборнік (2006, на рускай мове), аўтарамі якога побач з навукоўцамі сталі пісьменнікі-франтавікі. Акрамя таго, па ініцыятыве І. Афанасьева ў 2010 годзе ў Гомелі праводзілася канферэнцыя “Вялікая Айчынная вайна ў лёсе літаратуры і культуры: гістарычны вопыт як светапогляды і маральны выбар”, праз год (2011) быў выдадзены адпаведны зборнік навуковых прац і літаратурных матэрыялаў. У 2007 годзе пабачылі свет і матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі “Вялікая Айчынная вайна ў мастацкай літаратуры”, што адбылася ў 2005 годзе ў БДУ.

Цікавасць нязменна выклікаюць мерапрыемствы, якія ладзяцца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Так, вялікі розгалас маюць не толькі міжнародныя канферэнцыі па праблемах іміджалогіі (арганізатарам мерапрыемстваў выступае кафедра польскай філалогіі), але і зборнікі навуковых прац, дзе адлюстроўваюцца асноўныя вынікі адпаведных даследаванняў: серыю такіх публікацый распачаў у 2003 годзе зборнік “Славянскія мовы, літаратуры і культуры: этнас у святле гісторыі і сучаснасці” (выдадзены пад рэдакцыяй С. Мусіенкі).

Шырокую ўвагу айчыннай і міжнароднай супольнасці прыцягваюць канферэнцыі, якія праводзяцца ў Акадэмічным Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Цягам 2000-х літаральна кожная з такіх сустрэч мела ў якасці плёну не толькі выданне адпаведных матэрыялаў, але і актывізацыю дыскусій, навуковага пошуку ў розных сегментах літаратуразнаўчых даследаванняў: згадаем, напрыклад, канферэнцыі “Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры” (2001), “Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце славянскіх літаратур” (2002), “Янка Купала і Якуб Колас у сістэме дзяржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя” (2007), “Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у еўрапейскім кантэксце” (2008), “Творчасць Івана Навуменкі: славянскі, еўрапейскі, сусветны кантэкст” (2010), “Беларуская пісьмовая спадчына ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу XI — XIX стагоддзяў: вытокі, традыцыі, уплывы” (2010), “Творчасць Максіма Багдановіча ў кантэксце сусветнай літаратуры” (2011) і інш. Каштоўнасць зборнікаў матэрыялаў гэтых навуковых форумаў (укладальнікамі і навуковымі рэдактарамі якіх выступілі вядомыя беларускія даследчыкі У. Гніламёдаў, У. Мархель, В. Максімовіч, А. Бразгуноў і інш.) заключаецца ў тым, што яны не толькі дазваляюць скласці агульнае ўражанне пра шырыню і разнавектарнасць праблематыкі айчынных гісторыка-літаратурных доследаў апошняга дзесяцігоддзя, але і могуць разглядацца ў якасці дэталізаванай “навігацыйнай” карты, што дапамагае арыентавацца ў метадалагічных, канцэптуальных, аксіялагічных прыярытэтах беларускага літаратуразнаўства.

Адметная роля ў наладжванні сучаснай навукова-асветніцкай камунікацыі належыць літаратурным музеям. Ураалізацыі аднаго з найбольш доўгатэрміновых праектаў — Гарэцкіх чытанняў — самы чынны ўдзел бяруць супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Заўважная роля ў развіцці коласазнаўства належыць Каласавінам, арганізатарам якіх выступае Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, штогод прапануючы для абмеркавання новыя аспекты вывучэння творчай спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры. Зборнікі матэрыялаў канферэнцый, якія праводзяцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Мінску, з аднаго боку, дазваляюць адсочваць дынаміку развіцця адпаведнага сегмента беларускага аўтаразнаўства; з другога боку, паўстаюць даволі яскравым сведчаннем на карысць меркавання пра *агульную скіраванасць айчыннага літаратуразнаўства ў рэчышча кантэкстуальных доследаў* (згадаем, напрыклад, выданне “Максім Багдановіч і яго эпоха”, 2008).

# Сардэчная цікавасць простых людзей

Максім ЛАДЫМЕРАЎ

*Янка Купала ў Славакіі / Мікола Трус; навук. рэд. І. А. Чарота. — Мінск: Рэдакцыя часопіса "Роднае слова", 2012. — 176 с.: іл.*

Знаёмства з даследаваннем кандыдата філалагічных навук Міколы Труса "Янка Купала ў Славакіі" пачынаецца з грунтоўнага ўступнага слова доктара філасофіі, кандыдата навук, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Марыяна Сэрваткі. І вось што ён заўважае: "За кнігай Мікалая Труса стаіць гістарычны візіт Янкі Купалы ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў у Славакію ў 1935 г., а таксама яго працоўныя наведванні, як самастойнага даследчыка, славацкіх архіваў, бібліятэк.

Нягледзячы на тое, што ў сучаснасці вельмі цяжка прапанаваць штосьці новае з біяграфіі літаратурных класікаў, кніга "Янка Купала ў Славакіі" можа даць новыя кірункі ў даследаванні творчасці беларускага волата. Размова ідзе пра новыя факты культурнага супрацоўніцтва, якія пацверджаны дакументальнымі матэрыяламі. Таму выданне публікацый з'яўляецца беспрэцэдэнтнай падзеяй у гісторыі беларускай літаратурнай навукі. Манаграфія вызначае шырокія магчымасці працы ў славацкіх і беларускіх архівах і бібліятэках і перспектыву адкрыцця новых цікавых фактаў з гісторыі нашых узаемаадносін".




Славацкі амбасадар падкрэсліў відавочную перспектыўнасць пазначаных даследчыкам кірункаў. Але знаёмства з ужо зробленым сведчыць: Мікола Трус фундаментальна распрацаваў тэму, якая і надалей магла б знаходзіцца на перыферыі літаратуразнаўства і на ўзбочыне купалазнаўства ў прыватнасці. Энцыклапедычны даведнік "Янка Купала", які і сёння ўяўляе велізарную каштоўнасць, спрыяе наступным крокам у вывучэнні жыцця і творчасці народнага песняра, накіроўвае да тэмы знаходжання паэта ў Браціславе, Славакіі. Але ж яе распрацоўка была надзвычай павярхоўнай, абмяжоўвалася канстатацыяй факта. "У асвятленні візіту Янкі Купалы ў Чэхаславакію ў складзе дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, — піша М. Трус, — уласна чэшскі складнік у купалазнаўчай літаратуры мае свае набыткі. Хоць вычарпанай гэтую тэму палічыць ніяк нельга. Абставіны ж цэлага тыдня знаходжання дэлегацыі ў Славакіі савецкі друк практычна праігнараваў. Можам меркаваць, што на тое былі палітычныя прычыны. Ды і сам пясняр у справаздачных артыкулах пра славацкія дні і ўражанні фактычна нічога не напісаў. Магчыма, гэта засталося ў планах, магчыма, была перапіска з некаторымі славацкімі калегамі, але клопаты юбілейнага года, вядомыя пакручастыя зрухі гісторыі ў наступныя гады ламалі планы. Што наракаць, тады ламаліся не толькі планы, але і жыцці. Думаецца, славацкія ўражанні сталі аднымі з самых светлых імгненняў — успамінаў пісьменніка. Але гэта ў сферы тонкага, асабістага. Для даследчыкаў жа выяўляецца неапрацаваная дзялянка".

М. Трус пераадолеў магчымыя сумненні сваіх папярэднікаў у купалазнаўстве. Напэўна, хтосьці і раней задаваўся пытаннем прысутнасці Янкі Купалы ў Славакіі. Але ж адвагу, даследчыцкія старанні стрымліваў зусім непрацяглы тэрмін знаходжання беларускага паэта ў Браціславе ды іншых гарадах Славакіі. Усяго ж некалькі дзён гасцявання — 15 — 18 кастрычніка 1935 года... Адсутнасць дзённікавых запісаў у Янкі Купалы... Нават "славацкія калегі, — піша М. Трус, — засцерагалі мяне перад марнасцю пошукавых клопатаў, маўляў, усё, што тычыцца славацка-савецкіх сувязей у сацыялістычныя часы, сабрана і апублікавана". Але літаратуразнаўца праявіў развязлівасць і настойлівасць. Найперш — у развагах пра тое, што "ніколі не трэба ўспрымаць тэму як вычарпаную", ды і нельга было не ўлічваць ранейшыя забароны і засцярогі: на прадмет, што дазвалялася цэнзурай друкаваць, а што не магло прайсці ў друк з-за ідэалагічных меркаванняў. Настойлівасці ў пошуку драбніц фактаграфічнага матэрыялу спрыяла і разуменне таго, што многія рэчы з часам пераацэньваюцца. Калі падзеі з'яўляюцца вельмі блізкімі, то не заўсёды адразу асэнсоўваеш іх значнасць. Напрыклад, у рускім літаратуразнаўстве цяпер робяцца новыя крокі ў спасціжэнні лёсаў А. Пушкіна, М. Лермантава, Л. Талстога, іншых класікаў. Праца М. Труса "Янка Купала ў Славакіі" нагадала мне яшчэ адзін прыклад. У сярэдзіне 1980-х гг. пабачыла свет кніга пісьменніка-дакументаліста Міколы Калінковіча "Палескія дні Аляксандра Блока". Рускі паэт у Першую сусветную вайну служыў на беларускім Палессі ў ваенна-будаўнічым атрадзе, нічога, праўда, не пісаў. Толькі лісты са сваіх ваенных палескіх адрасоў. М. Калінковіч, пачынаючы даследчыцкую працу, чуў і такое: "Лепей, малады чалавек, напішыце на тэму «Блок і космас»..." Але беларускі літаратар праявіў настойлівасць, сабраў усе магчымыя сведчанні жыцця рускага паэта ў Беларусі ў няпросты для Айчыны перыяд.

Славацкія дні ў лёсе Янкі Купалы, відаць, сапраўды былі складанымі. У 2007 годзе слынны беларускі літаратуразнаўца Іван Чарота працытаваў згадкі пра падзеі кастрычніка 1935 г. Вольгі Кухтавай (Шандаравай-малодшай), дачкі пісьменніка Э. Шандара, які сустракаўся з Янкам Купалам. Партрэт беларускага песняра выглядае наступным чынам: "Гэта быў мужчына знешне элегантны і ў манерах з відавочнай інтэлігентнасцю, далікатнасцю... выгляд у яго спакойны, але нейкі сумны. Пры сустрэчы, размове паводзіў сябе асцярожна..."

Задумаўшы рэалізаваць навукова-творчы праект "Янка Купала ў Славакіі", М. Трус надрукаваў у часопісе "Роднае слова" дзесяць артыкулаў на гэтую тэму. Артыкулы ствараліся з улікам агульнага плана даследавання, сабраныя разам, яны даюць цэласную і паслядоўную карціну знаходжання народнага песняра ў Славакіі, адлюстроўваюць яго стасункі са славацкімі пісьменнікамі, паказваюць атмасферу таго часу. М. Трус у кнізе выклаў абсягі тэмы праз наступныя нарысы-раздзелы: "Пачатак знаёмства", "Браціслава вітае ганаровых гасцей", "Памятнае гасцяванне ў мястэчку Святы Юр", "Янка Купала і Людавіт Штур: рэха знаёмства са славацкай Модрай", "«Угаварыць яго выступіць — гэта майстэрства»: Янка Купала ў Пешчанах", "На вастрыі палітыкі і дыпламатыі: апошнія дні ў Славакіі. Забытае інтэрв'ю Янкі Купалы 1935 г.", "Славацкія сустрэчы Янкі Купалы: сям'я Шандараў", "Янка Купала і беларуская тэматыка на старонках часопіса «Браціслава — Масква»", "Некаторыя падрахункі паездкі Янкі Купалы па Славакіі (Чэхаславакія) у 1935 г.".

Кніга М. Труса "Янка Купала ў Славакіі" — яшчэ і напамін пра тое, што варта большую ўвагу надаваць стасункам нашых класікаў з шырокім светам. Хіба ж не маюць патрэбы ў грунтоўнай распрацоўцы наступныя тэмы: "Максім Гарэцкі ў Вільні", "Янка Купала ў Казані", "Янка Купала ў Чабаксарах", "Якуб Колас у Ташкенце", "Уладзімір Караткевіч у Кіеве", "Уладзімір Караткевіч у Маскве", "Уладзімір Караткевіч ва Уладзівастоку"?.. Тым болей, што падставы на тое ў выглядзе асобных артыкулаў, згадак у кнігах, манаграфіях на іншыя тэмы ёсць. Метадалогію навуковага, тэарэтычнага пошуку ў многім падказвае праца М. Труса "Янка Купала ў Славакіі".

Рэзананс

# Без дэкларацый і афектацый

## КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ПАДБОРКУ ВЕРШАЎ ДАР'І ДАРОШКІ

Ігар ЗАПРУДСКІ

Без чаго не могуць беларускія Паэты?

Запытанне амаль рытарычнае. Але блукалец і бесхацінец Мікола Купрэеў меркаваў, што без бульбы. Я ж не схільны іранізаваць, калі скажу ад адваротнага: ім рашуча супрацьпаказана неадчуванне роднага слова і *эмацыянальны падман*. Нават не ведаю, якая з гэтых сакраментальных аблудных правін горшая.

Яшчэ адно пытанне: "Ці можна па некалькіх вершах, апублікаваных у перыёдыцы, больш-менш дакладна вызначыць ступень таленавітасці аўтара?" Як па мне, варта зыходзіць з таго, што Проза — гэта Праца, а не здольнасць нешта апісваць, Драматургія — уменне Чуць, а не толькі ўмельства слухаць і ўдала кампіляваць, а Паэзія — гэта Лёс, а не навык адшліфоўваць вершы пра сваё эмацыянальнае жыццё да пэўнага прымальнага ўзроўню. Магчымы апанент рэзонна запярэчыць: "А як жа тады быць з Багдановічам?" Думаецца, каб у яго не было трагічнага Лёсу, яшчэ невядома, як склалася б пасмяротная доля яго творчай спадчыны. Зрэшты, за два апошнія юбілейныя гады ў прэсе проста нагналі аскоміну клятвы-панегірыкі ў адрас нашых класікаў. Мабыць, з-за відавочнай празмернасці адчуваецца ў гэтым штосьці штучна-ненатуральнае, сумотнае. "Я так думаю!" — не стамляўся паўтараць адзін вядомы кінаперсанаж.

А цяпер мне проста захацелася выказацца пра падборку вершаў Дар'і Дарошкі, змешчаную ў "ЛіМе" 17 жніўня гэтага года. Мяне зацікавіў стан душы лірычнай гераіні паэтэсы, якая, падалося, вельмі шчыра ў вершах прагне ліквідаваць дысгармонію ў сабе і ў Сусвеце.

*Я — птушка, і хоць мне*
*не гожа,*
*Я мару аб надзённым хлебе.*

Аўтарка піша пра сябе, але ж сябе і дакарае, сабе ж ставіць у віну прагматызм жыццёвай і, адпаведна, маральнай пазіцыі. Перад намі лапідарна акрэслены канфлікт паміж будзённымі патрэбамі і атрыманай у спадчыну рамантычнасцю, блізкай нават да экзальтаванасці. А такі стан душы народжаны, будзем думаць, не толькі тэмпераментам, але і знаёмствам з класікай, беларускай і сусветнай.

Схіляюся да высновы, што якраз сёння ў беларускай лірыцы бракуе па-добраму экзальтаваных і, галоўнае, натуральных, несурагатных вершаў. Даволі ёсць эксперыментатараў, яшчэ больш тых, хто выдатна ведае, чаго хоча, хоць часта і выступае пад маскай бязверцаў. А вось творцаў і фіксатараў хвіліннага натхнення, почасту разгубленых і асуджаных асэнсоўваць наш разбэрсаны і разбэшчаны час, даводзіцца сустракаць рэдка, нават сярод маладых. Спадзяюся, ёсць каліўца ісціны ў маіх дакорах, бо нячаста даводзіцца чытаць сучасныя вершы, якія, паводле выразу Коласа, напраўду *"хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць вочы слязьмі"*.

Мяне прывабіла адметная экспрэсіўнасць і архітэктоніка ўсіх шасці змешчаных у падборцы вершаў Дар'і Дарошкі. Характэрную асаблівасць маюць іх першыя радкі. Як правіла, у іх называецца нешта канкрэтна-рэчыўнае або прыроднае: яблык, журавы, Сож, лісце, карніз, кій. Некаторыя вершы — двухчастковыя, пабудаваныя на паралелізме паміж светам прыроды і людскімі перажываннямі, на паяднанні зямнога і нябеснага (касмічнага), рэальнага і сснёнага. *"Яблык спелы"* і *"сусвет"*, *"журавы"* і Шлях Птушыны, лірычнае "Я" і неба, *"кляновае лісце ў вазе"* і *"апошні вішнёвы прамень развітальны"*, халодны карніз і міжзорны абшар, хмурны мужчына і ззянне ў небе Вадалея. Найбольш метафарычныя радкі змешчаныя ў сярэдзіне вершаў. І падзяляеш жаданне разам з лірычнай гераіняй *"вясёлкі пачуць уздых"*, убачыць, як *"неўзабаве запалае снег"*, як *"ноч дае засмяглым душам піць"*, верыцца ў тое, што ёй *"хочацца неба напіцца"*. А ў тым, што апошнія радкі часам менш выразныя і вобразныя, бачу сведчанне пісання вершаў на адным дыханні. Здаецца, гомельская паэтэса не заўсёды можа трымаць нітку натхнення ў руках, кіраваць ім.

Рытмічны малюнак вершаў разнастайны, перакрыжаваныя і кальцавыя рыфмы надаюць дынамічнасці пры знешняй статыцы паэтычных малюнкаў. Увогуле, светлая і рамантычна-журлівая паэзія Дар'і Дарошкі скіравана ў прастору ідэалаў. Прыгажосць прыроды нязменна выклікае ў лірычнай гераіні захапленне і нават зачараванасць. Прыроднае ёсць крыніцай натхнення, пачуццяў, уражанняў, а самі вершы напоўнены мройнасцю, чароўнасцю, святлом. Лірычная гераіня не толькі адухаўлёная, пачуццёвая, але і цялесная, прысутная рэальна. Ёй, напрыклад, *"духмяны напой грэе сэрца і рукі"*, яна сядзіць *"на халодным карнізе"*. І для мяне таму больш зразумелая замалёўка прэамбулы "няўдалага" ў гэты раз акта тварэння:

*На аркушы чыстай маўклівай*
*паперы*
*Ляжыць у чаканні цярплівым*
*аловак.*
*Лунае няўлоўнае, па-за памерам,*
*У плыткіх малюнках разлітае,*
*слова.*

Паэзія — гэта перадача няўлоўнага адчування, гэта не толькі гульня ў "веру — не веру", але і нешаблоннасць, нязбітасць вобразаў. Вершы падборкі ўмоўна можна падзяліць на дзённыя, вячэрнія, начныя, але ўсе яны светлыя па танальнасці. *"Мой голас не чуваць над Сожам. // Мой колер не відаць у небе"*, — тут няма нічога знешне кідкага, супер-патрыятычнага, а радкі падаюць "беларускімі", хоць без гучных дэкларацый і афектацый.

Няма Паэтаў без Лёсу, як няма іх і без жывога самалюбства — прытулішча творчых амбіцый. Імя Дар'я, абранае Таццянай Леанідаўнай Дарошкай для літаратурнай творчасці, — ужо дэкларацыя. Яно заключае семантыку — Я ДАР. Няхай жа так і будзе!

Я не баюся памыліцца ў сваіх чаканнях. І дапускаю, што нехта западозрыць мяне ў прадузятасці, у памылковасці меркаванняў і адсутнасці густу. Я непакоюся пра іншае: што лімаўскія вершы Дар'і Дарошкі могуць так і застацца не тое што належным чынам не ацэненымі, а проста незаўважанымі, а то і не зразумелымі чытачамі. Вось чаму і вырашыў даслаць гэты водгук: каб засцерагчы ад згубнай паняверкі іншых паэтаў, якія яшчэ не дачакаліся ў свой адрас прыхільнага слова. Некалі яно абавязкова будзе, калі наканавана вам Лёсам люстраваць краскі душы нашых сучаснікаў.

Дык без чаго не могуць беларускія Паэты?

Адкажыце, калі ласка!

# Іх з'яднала роднае слова

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

## Горкі

*Восень.*
*Пагодзіна.*
*Горкі.*

*Цэдзіць святло маладзік.*
*Тут па былінных пагорках*
*Калісьці*
*Гарэцкі*
*хадзіў.*
*Гэтак жа падалі зоркі,*
*Антонаўкі спелі ў садах.*
*Пахла бульбоўнікам горкім,*
*Калі ён*
*пра долю*
*гадаў.*
*Спеліў шчымлівае слова,*
*Каб праўдаю высвеціць сказ,*
*Каб слова*
*дыхнула*
*жытнёва*

*І нам растлумачыла нас.*

Горацкая зямля адметная не толькі тым, што тут знаходзіцца адна са старэйшых сельскагаспадарчых ВНУ ў Еўропе. Яна здаўна славіцца сваімі літаратурнымі традыцыямі. Пра Горкі, Горы-Горацкі земляробчы інстытут і яго выхаванцаў пісалі Г. Дзяржавін, П. Мельнікаў, А. Чэхаў. Сюды даляталі вольналюбівыя думкі ўкраінскага кабзара Тараса Шаўчэнкі і прыходзілі лісты ад вялікага народнага пісьменніка Льва Талстога. У Горках набывалі адукацыю вучні М. Чарнышэўскага і І. Тургенева, з якімі славутыя пісьменнікі падтрымлівалі перапіску. Паводле сцвярджэння некаторых гісторыкаў, у Горках студэнтам земляробчага інстытута была напісана вядомая паэма "Тарас на Парнасе".

Традыцыйна ўзнікалі і плённа дзейнічалі, як правіла, пры Горацкай навучальнай установе ўсемагчымыя грамадскія гурткі, у тым ліку літаратурная філія "Аршанскі маладняк" (1925 — 1930). Тут, у каморніцка-агранамічным вучылішчы, вучыўся і затым працаваў на кафедры беларусазнаўства вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі. З Горкамі звязана дзейнасць беларускага паэта і фальклорыста Юркі Гаўрука, заслужанай дзеячкі культуры, кіраўніка харавых і драмкалектываў Паўліны Мядзёлкі, паэтэсы Нэлі Тулупавай, пісьменніцы Леаніды Чарняўскай.

На Горацкай зямлі нарадзіліся пісьменнікі Барыс Іофе, Леў Разгон, Васіль Каваль, Георгій Шчарбатаў, не раз тут бывалі Янка Купала і Якуб Колас, Цішка Гартны, Уладзімір Караткевіч, Ілья Эрэнбург, Алесь Пісьмянкоў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Змітрок Марозаў.

Сёння ў Горках працуюць два народныя аматарскія літаратурныя аб'яднанні: "Парнас" — пры БДСГА і "Роднае слова" — пры гісторыка-этнаграфічным музеі. Членамі аб'яднанняў з'яўляюцца як літаратары-пачаткоўцы, так і тыя, хто мае публікацыі ў беларускіх і расійскіх выдавецтвах. Сярод іх і члены Саюза пісьменнікаў Беларусі: Ніна Кавалёва, Сяргей Кісялёў, дзіцячы паэт Анатоль Прохараў, паэт-сатырык і гумарыст Міхаіл Уласенка. Плённа працуюць на літаратурнай ніве Аляксандр Клачкоў, Лідзія Андрэева, Леў Васільеў, Андрэй Пугач, Лія Родная, Святлана Цярэшка, Ганна Аронава, Святлана Варухіна, Валянціна Мажугіна.

Перыядычна выдаюцца калектыўныя зборнікі "Акадэмічны вянок" і "Горацкія крыніцы", тэматычныя зборнікі, прымеркаваныя да Дня Перамогі ("Блікі памяці", "Над родным краем — жураўлі"). Сёння горацкія вядомыя і менш вядомыя паэты свае шчырыя вершы прысвячаюць рэспубліканскаму святу дажынак, якое ў гэтыя выхадныя будзе адзначана ў нашых славутых Горках.

**Людміла ДЗЕРУЖКОВА, кіраўнік народнага аматарскага аб'яднання "Роднае слова"**

*Ніна КАВАЛЁВА*

***Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Еськаўка Дрыбінскага раёна. Скончыла Аршанскае ГПТВ-45 тэкстыльшчыкаў. Інвалід 1-й групы. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1986 года жыве ў Горках. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў.***

## Зоркі над Горкамі

*Прагнуць белых бяроз гаманлівыя рэкі,*
*Каб вяночкам бялюткім абвіць берагі.*
*Ёсць куток запаведны ў жыцці чалавека,*
*Як у сэрцы маім ты, мой край дарагі.*

*Доля матчына тут,*
*быццам спеў жураўліны,*
*Залатым каласком урастае ў палі.*
*І квітнеюць сады, палымнеюць каліны,*
*Нібы горкі ўспамін маёй мужнай зямлі.*

*Колер горацкіх рэк —*
*колер гора барвовы.*
*Каля вёсачкі кожнай ўзышлі курганы.*
*Нахіліся да іх шэптам роднае мовы,*
*І пякучы твой боль утаймуюць яны.*

*Спі пад снежаньскі спеў,*
*любы горад мой Горкі,*
*Так, як волаты спяць у спакойныя сны.*
*На далоні твае апускаюцца зоркі,*
*Каб наблізіць цяпло гаманлівай вясны.*

## Голас зямлі

*Голас зямлі, баявы і суровы,*
*Сілы дае, узнімае галовы.*
*Шмат перамог мы ў баях здабылі,*
*Узняўшыся мужна на голас зямлі.*

*Голас зямлі мілагучны, ласкавы,*
*Шэпчуцца ў ім вербалозы і травы,*
*Чуюцца ў ім пад напеў ручая*
*Казкі, што баіць матуля мая.*

*Маці гукне — і ляцяць, нібы птушкі,*
*Рукі малодшай, старэйшай дачушкі.*
*Вырасту я і пайду па раллі.*
*Крокі мае — гэта голас зямлі.*

*Хто іх пачуе, няхай адгукнецца*
*Голасам любым, што вылецца з сэрца.*
*І зачаруе, як спеў салаўя.*
*Хай ён палюбіць, як любіць зямля.*

*Аляксандр КЛАЧКОЎ*

***Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Вавкавічы Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Доктар тэхнічных навук, прафесар. Загадчык кафедры сельскагаспадарчых машын БДСГА. Аўтар паэтычных зборнікаў "Мікітавы прыгоды", "Камін", "Тайна часу", "Вечныя пытанні" і іншых.***

## Спелы колас

*Люба поле мне кожнай парою,*
*Нат узімку кранае прастор.*
*Спадзяваннем уваскрэсне вясною*
*І з расой, што падобна да зор.*
*Спелым коласам поўніцца поле,*
*Даглядзець яго дбайна змаглі.*
*Хлебароба адметная роля*
*Гарантуе жыццё на зямлі.*

*З зерня вырасце парастак смелы,*
*Рунню поле пад небам ляжыць,*
*Потым збудзецца коласам спелым,*
*Каб шчасліва і радасна жыць.*
*Ціха колас шапоча на полі*
*Пра багацце зямлі і наш лёс.*
*Не шукайце больш велічнай долі:*
*Вельмі блізка з зямлі да нябёс.*

*Глянь, калышацца рослае жыта,*
*Быццам хвалі па моры бягуць.*
*Прыгажосць тая працай здабыта,*
*Дзе не сорамна спіну сагнуць.*
*Спелы колас ёсць сэнс і выява,*
*Як дзіця урадлівай зямлі,*
*І павінна быць з роздумам справа,*
*Каб спаўна урадзілі палі.*

*Колас з часам нахіліцца долу*
*Важкім зернем — нібыта паклон,*
*Пахкі водар дасць роднаму дому —*
*Каравай упрыгожыць услон.*
*Спелым коласам поўніцца поле,*
*Даглядзець яго дбайна змаглі.*
*Хлебароба адметная доля*
*Гарантуе жыццё на зямлі.*


Фота Уладзіслава Бацько

*Лія РОДНАЯ*

***Сапраўднае — Ніканчук Наталля Валянцінаўна. Нарадзілася ў 1967 годзе ў вёсцы Мервіны Клецкага раёна. Скончыла Беларускую дзяржаўную сельскагаспадарчую акадэмію. Працуе ў падатковай інспекцыі Рэспублікі Беларусь па Горацкім раёне. Аўтар літаратурных зборнікаў "Любоў — крылатая істота", "Іоланта".***

***

*Запаведны мой край беларускі,*
*Добры дзень, я ізноўку з табой,*
*Як да цёплай бацькоўскай калыскі,*
*Прытулюся да пожні шчакой.*

*Я вярнулася, жытняе поле!*
*Я вярнулася! — крыкну вятрам.*
*Я зноў дома, якое раздолле,*
*Прывітанне лясам і лугам!*

*Птушкай вольнай ляцела сюды я,*
*Каб сустрэцца з табою, Зямля,*
*Што варожыць лагоднасцю слова*
*Сэрцу шэпча: "Мая ты, мая".*

*Толькі гэтай Зямлёй ганаруся,*
*Толькі тут я знаходжу спакой,*
*Нарадзілася я ў Беларусі*
*І спачну толькі тут я з табой.*

*Запаведны мой край беларускі,*
*У святочна-ўрачыстай журбе*
*Ля бацькоўскай спрадвечнай калыскі*
*Прысягаю на вернасць табе.*

*Лідзія АНДРЭЕВА*

***Сапраўднае — Лідзія Андрэеўна Мініч. Нарадзілася ў 1940 годзе ў вёсцы Рэкта Клімавіцкага раёна. Скончыла Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт (выкладала на зоаінжынерным факультэце БДСГА). Аўтар паэтычных зборнікаў "Спешу сказать…", "Жыватворная крыніца", "Споведзь", "Мая сям'я ад А да Я", "На хвалях вечнасці".***

## Дажынкі

*Рунее зямля, і цвіце, і сталее,*
*І зерне нам дорыць, як вечнасць сваю,*
*Бо з ім кожны год яна зноў маладзее,*
*І я славу коласу сёння пяю.*

*Дажынкі, дажынкі — вянок наш лаўровы,*
*Вянок дум жытнёвых з вясны да вясны*
*Аб роднай калысці пад спеў жаўруковы*
*Ад той першай цёплай струны-баразны.*

*Вось сонечны бохан. Там поту расінкі.*
*І кожны акраец такі дарагі.*
*Дажынкі… шчаслівае свята — дажынкі,*
*Цячэ зерне рэчанькай праз берагі.*

*Нялёгкаю працаю хлеб здабывалі*
*Праз доўгія дні і кароткія сны.*
*Імя і сваё, і радзімы ўслаўлялі*
*Зямлі нашай шчодрай умельцы-сыны.*

*І вашы імёны дажынкі ўпісалі*
*У летапіс славы, Радзімы сыны.*

## Матуліна жыта

**Добра быць коласам, але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком.**
**Бо нашто каласы, калі няма васількоў.**

*Максім Багдановіч*

*Бы ранішняе сонейка — усмешка,*
*Прыбраны пад хусцінку валасы.*
*Матуля прыпыняецца на ўзмежку*
*Адведзенай ёй жыта паласы.*

*Не зраніць востры серп*
*танюткай ножкі —*
*Пакіне жыць тут кветачку зямлі.*
*Да вечара — як не было палоскі —*
*Скрозь бабкі між валошкамі ўзраслі.*

*Стамлёная, прысядзе пад бярозкай*
*І драпіны паслініць на нагах.*
*І як прыціхне боль шчымлівы трошкі,*
*З усмешкаю любімай скажа: "Ах,*

*Якія мы, дачушка, малайчынкі.*
*Не думала, што зможам паласу".*
*Са шчасцем той, пяці гадоў,*
*дзяўчынкі*
*Матулі ўсмешку скрозь жыццё нясу.*

*Алеся ЦЭВАН*

***Нарадзілася ў 1982 годзе ў г. Магілёве. Скончыла Беларускую дзяржаўную сельскагаспадарчую акадэмію, аспірантуру пры кафедры маркетынгу факультэта бізнесу і права. Працуе асістэнтам на кафедры арганізацыі вытворчасці АПК БДСГА. Аўтар паэтычнага зборніка "Овеянная нежностью небес".***

## Баюся збянтэжыць яшчэ адно цёплае лета…

*Баюся збянтэжыць*
*яшчэ адно цёплае лета*
*Ўспамінам аб восені,*
*што адлятае ў дажджы…*
*Спякота і пыл,*
*і пшанічнае мора палеткаў*
*За шклом бакавым разам*
*з ветрам*
*на поўдзень бяжыць.*
*І цнота, і сквар.*
*Думкі плавяцца разам з паветрам,*
*А дзесьці далёка —*
*і моц, і туга навальніц,*
*А я ўсё ж баюся збянтэжыць*
*пяшчотнае лета*
*З яго цішынёй і світаннямі*
*ў колер суніц.*

## Беларусь

*Над нашай краінай*
*Шляхі жураўліныя,*
*Палі у жніво ў каласах залатых.*
*Малюся заўжды,*
*Каб Хрыстос не пакінуў*
*І нас ратаваў ад грахоў і бяды.*
*Малюся заўжды,*
*Каб Хрыстос не пакінуў*
*І нас ратаваў ад грахоў і бяды.*

*Над нашай Радзімай*
*І сонца прыгожае.*
*Ў вачах нашых дзетак нябёсаў блакіт.*
*Ад сэрца жадаю,*
*Хай Бог дапаможа вам,*
*Сябры-беларусы, і дасць дабрабыт.*
*Ад сэрца жадаю,*
*Хай Бог дапаможа вам,*
*Сябры-беларусы, і дасць дабрабыт.*

# 5 маналогаў паэта і выдаўца

Міхаэля Кругера, нямецкага выдаўца, паэта, празаіка, літаратурнага крытыка, можна слухаць бясконца. Ён быў знаёмы з Іосіфам Бродскім, сустракаўся з Чэславам Мілашам… На чытаннях у Інстытуце імя Гётэ ў Мінску разважаў пра пераклад, мову, літаратуру, пра ўражанні ад наведвання Беларусі. Дык давайце слухаць самога спадара Міхаэля.

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

### ПРА МІНСК І БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

— Я ўпершыню ў Беларусі, і сёння падчас экскурсіі гід спрабавала даказаць, што Мінск — ідэальны горад. Для чалавека, які яшчэ не быў тут, а толькі чытаў пра яго, заўсёды цікава, як горад выглядае насамрэч. Гэта як вы знаёміцеся з кімсьці на сайце ў інтэрнэце і потым бачыце яго ўпершыню ў жыцці. Для мяне, чалавека, які займаецца літаратурай, да гэтага часу Мінск быў горадам яўрэйскай літаратуры. Я ведаю многіх амерыканскіх пісьменнікаў, якія родам з Мінска.


М. Кругер на сустрэчы ў Мінску.

Прызнаюся, беларускую літаратуру я ведаю толькі на некалькіх прыкладах. Але спадзяюся, што пазнаёмлюся з аўтарамі і наша выдавецтва пасадзейнічае іх перакладу на нямецкую мову. Літаратура краін, што знаходзяцца вакол Беларусі, даволі добра вядомая ў Германіі. Польская класіка амаль цалкам перакладзена на нямецкую мову. Думаецца, надышоў час, калі мы можам садзейнічаць перакладу нямецкай літаратуры на беларускую мову і наадварот.

### ПРА СЯБЕ

— Я нарадзіўся ў снежні 1943 года ў маленькай вёсцы недалёка ад Лейпцыга. Рос у бабулі з дзядулем. Дзядуля быў фермерам, селянінам. У яго адабралі двор, і ў сваёй жа гаспадарцы ён атрымаў маленькі пакойчык, дзе мы ўсе разам жылі. Гэта быў самы бедны і самы цудоўны час у маім жыцці. Потым я паехаў у Берлін, дзе мой бацька працаваў паштовым служачым. Там я хадзіў у школу, потым атрымаў адукацыю па спецыяльнасці "Паліграфія і кніжны гандаль". Пазней, ужо з'яўляючыся маладым тыпографам, выдаваў невялікі часопіс, дзе амаль усе артыкулы пісаў сам пад рознымі псеўданімамі. Дзякуй Богу, ніхто сёння больш не ведае пра гэты часопіс (*смяецца*). Потым працаваў у сферы кніжнага гандлю ў Парыжы, Лондане, пазней вярнуўся ў Берлін, але з-за халоднай вайны там было складана знайсці працу, таму я пераехаў у Мюнхен, дзе займаўся тэорыяй кіно і сабраў вялікую кінатэку. І тут, як гэта часта бывае ў жыцці, вялікую ролю адыграў выпадак. Я працаваў рэдактарам у выдавецтве Карла Ханзэра "Carl Hanser Verlag", і яго дырэктар раптоўна памёр. І паколькі лепшага кандыдата, каб яго замяніць, не было, то выбралі мяне. Я пагадзіўся папрацаваць цягам года, падтрымаць выдавецтва, каб потым зноў стаць вольным пісьменнікам. Але так сталася, што я працую дырэктарам ужо амаль 30 год. Звычайна сяджу за пісьмовым сталом і раблю кнігі.

### ПРА ВЫДАВЕЦТВА "CARL HANSER VERLAG"

— Праграма нашага выдавецтва досыць шырокая, мы рыхтуем да выдання кнігі розных аўтараў з розных краін. Выданне сусветнай літаратуры — наш гонар. Пасля вайны мы былі першымі, хто звярнуў увагу на польскую, югаслаўскую літаратуры, пісьменнікаў-ураджэнцаў многіх краін, з якімі ваявала Германія. Мы кіраваліся ідэяй, што літаратура распавядае пра ментальнасць народа намнога больш, чым палітыка, і за апошнія 20-30 год стварылі вялікую праграму перакладаў, што ўключае творы з XVIII ст. да нашых дзён. Невялікую частку нашай працы складае часопіс "Акцэнты", які існуе ўжо 60 год. У ім, як правіла, друкуюцца вершы і эсэ.

У Германіі прыкладна 70 працэнтаў кніжных выданняў складаюць пераклады, і палова з іх — літаратура англа-амерыканскай прасторы. За апошнія 20 год, асабліва пасля аб'яднання Германіі, вырасла цікавасць да літаратуры краін усходняга блока. Сёння ў нашай краіне ва ўніверсітэтах існуюць вялікія кафедры перакладу. І таму мастацтва перакладу мае ў Германіі вялікі прэстыж. Але трэба памятаць, што для таго, каб перакладаць мастацкую літаратуру, недастаткова проста валодаць дзвюма мовамі, трэба пры гэтым быць пісьменнікам.

### ПРА МОВУ ЛІТАРАТУРЫ

— Кожная сфера жыцця мае сваю мову. Гэта, да прыкладу, мова медыцыны, юрыспрудэнцыі, тэхнікі, літаратуры. Вось у гэтым і палягае праблема: мову мастацкіх твораў разумеюць не ўсе. Кожны, хто чытае кнігу, нібыта перакладае тэкст для сябе, але дынаміку і рытм твораў разумеюць усе. І паколькі вучні ў школе размаўляюць на многіх мовах, то з іх сэрцаў знікае мова паэзіі. Таму не дзіўна, што людзі аддаюць перавагу чытанню вялікіх, сумных, шчыра кажучы, нечытэльных раманаў, але не чытаюць вершаў.

### ПРА ВЫДАННЕ КНІГ ПАЭЗІІ

— Наша выдавецтва займаецца выпускам кніг паэзіі. На год выходзіць ад 10 да 12 зборнікаў вершаў. Ёсць нават цэлая серыя кніг "Лірычны кабінет", дзе выдаюцца вершы маладых аўтараў з самых розных краін — ад Швецыі да Македоніі.

У Германіі таксама вершы чытаюць намнога менш, чым прозу. Але, да прыкладу, у ЗША ў многіх універсітэтах арганізоўца спецыяльныя гурткі, гэтак званыя *writing courses*, дзе знакамітыя паэты выкладаюць, як пішуцца вершы. І самі аўтары, можна сказаць, жывуць за кошт гэтых гурткоў. Існуюць і летнія курсы, вельмі цікавыя, я сам працаваў на іх выкладчыкам. Магу сказаць, гэта былі цудоўныя дні майго жыцця, калі з маладым амерыканцам, сынам фермера, на прыкладзе верша Бертальда Брэхта мы разглядалі нямецкія моўныя канструкцыі.

## У падтрымку чытання



Віктар ЛУПАСІН, паэт:

### «ЛІТАРАТУРА — ЦУД. УЖО ЗА ГЭТА ЯЕ МОЖНА ЛЮБІЦЬ»

— Першай кнігай, якая мяне ўразіла, стаў "Золотой ключик, или Приключения Буратино" А. Талстога. Таму што пачынаў я з ёй знаёміцца, калі яшчэ не ўмеў чытаць, а скончыў, калі ўжо навучыўся. Яшчэ адна вельмі яскравая кніжка — "Чынк" Эрнэста Сэтана-Томпсана, пра шчанюка, які вартаваў грудзінку ад каёта. І калі гаспадар вярнуўся, ён пабачыў цэлую грудзінку і галоднага Чынка. Кніжка была вялікага фармату, з каляровымі ілюстрацыямі. А каёт быў пухнаты і з хітрай мордай… Я яго крыху баяўся. Крыху. Бо ён быў хітраваты, але не злосны.

З беларускімі кніжкамі пачаў знаёміцца даволі позна, як і большая частка беларускіх паэтаў, напэўна. Найбольш мяне ўразіла "Новая зямля" Якуба Коласа. У школе я думаў, што гэта нешта нудотнае і ўвогуле не пра наша жыццё. А пасля, у больш дарослым веку, яе перачытаў. І зразумеў, што гэта якраз-такі пра нас: увекавечнае жаданне чагосьці новага і шчаслівага, якое так і не спраўдзілася; на гэтым фоне — галоўны герой і дзеці, іх жыццё… Дарэчы, "Новая зямля" шмат пра дзяцей гаворыць. І нават рытмічны строй — аднастайны чатырохстопны ямб — ствара інтанацыю сапраўднага эпасу. Калі б яе напісалі лесвічкай або санетамі, было б ненатуральна. А "Новая зямля" сапраўдная і цэласная. Я люблю ў літаратуры цэласнасць і сапраўднасць.

Калі хочацца пачытаць нешта новае, звычайна гляджу, каб кніга была не вельмі разрэкламаваная, каб мне падабаліся стыль і вокладка.

Запісала
Настасся ГРЫШЧУК

## Прэзентацыя

# На кожны дзень

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Рыхтуючы каляндар на наступны, 2013 год, выдавецтва "Беларусь" працягнула асветніцкую дзейнасць, накіраваную на знаёмства грамадства з набыткамі нацыянальнай культуры. Праект "Славутыя мастакі з Беларусі", распачаты сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем, натхніў на стварэнне гэтага ўнікальнага выдання на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. У прыхільнікаў прадукцыі такога кшталту з'явілася выдатная магчымасць далучыцца да творчасці выбітных сыноў нашай краіны, кожны дзень зазіраючы ў вялікі насценны каляровы каляндар. Мяккія лініі твораў Вітольда Бялыніцкага-Бірулі "Зімовы сон", "Карункі зімы" і "Сакавік" на пачатку года настрояць на лірычны лад, насычаныя колеры твораў Язэпа Драздовіча "Падкружнікавы краявід на планеце Сатурн", "Мінулае" і "Артапаліс. Горад палацаў" моцнымі акордамі прагучаць у такт чароўнаму росквіту вясны і пачатку лета, багацце палотнаў Івана Хруцкага — "Кветкі і садавіна", "Нацюрморт. Кветкі і садавіна", "Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай" нагадаюць пра шчодрыя дары ліпеня, жніўня і верасня, а завяршаць год работы Станіслава Жукоўскага — "Восень у сядзібе", "Зімовы краявід. Вятка. (Ратонда ў Аляксандраўскім садзе)" і "Ноч на Каляды. (Інтэр'ер з ёлкай)", дзе за сінімі вокнамі свецяць зоркі, а дзяту чакае багацце падарункаў ля лясной прыгажуні і адпаведнае святу прадчуванне неверагодных цудаў, што, безумоўна, спраўдзяцца ў наступным годзе. Каляндар убачыў свет тыражом 1300 экзэмпляраў. Цікава, ці хопіць гэтага ўсім прыхільнікам беларускага мастацтва?



100 год кнізе

# Блуканні па пакутах

Калі сёння разважаюць пра літаратуру пачатку XX ст., то часцей за ўсё згадваюць яе аптымістычны настрой. Маўляў, у аснове літаратуры таго часу быў неарамантызм з яго зваротам да слаўнага мінулага краю, адраджэннем фальклору, містычнымі гісторыямі пра волатаў і прыгажунь. Важнае месца адводзілася і веры ў светлую будучыню, калі беларускі народ усё ж дачакаецца… А як жа сучаснасць — голад, нястача, хваробы? Атрымалася, што і яна не засталася без увагі творцаў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

У літаратурнай дыскусіі 1913 года Юрка Верашчака (Вацлаў Ластоўскі) адстойваў пазіцыю праўдзівасці адлюстравання жыцця ў мастацкіх творах. І сам трымаўся гэтага ж прынцыпу. Варта толькі згадаць яго "Злыя вочы", як сам аўтар вызначыў жанр твора — апавяданне нервовага чалавека. Калі галоўны герой распавядае пра сваё самае ранняе дзяцінства, як ён толькі нарадзіўся, то згадвае: "Доўга смактаў я пустыя грудзі, змогшыся, кідаў смактаць, плакаў і зноў прымаўся за трудную працу. Маці абсыпала мяне пацалункамі, і на мой тварок і рукі сыпаліся буйныя, гарачыя слёзы. У канцы праца мая дала рэзультаты: я пачуў на языку нейкі гарачы плаў і сквапна глытаў яго. Праўда, плаў гэны меў прыкры, горка-салёны смак, каторы мне пёк у горле, але я ўцішаў ім свой голад". Пагадзіцеся, жахлівая карціна. Гэтае апавяданне Власт напісаў у 1917 годзе. Але мы вернемся на пяць год раней. Так, у 1912 годзе ў Віленскай друкарні Марціна Кухты пабачыў свет "Зборнік «Нашай нівы» № 1". І калі апавяданне В. Ластоўскага праводзіць чытача толькі праз адно кола пекла, то гэты зборнік пакажа нам усе дзевяць яго колаў. Толькі не ачышчэнне ад грахоў атрымае чытач, а сузіранне пакут такіх жа беднякоўбеларусаў.

Калі чытаеш творы з гэтага зборніка, прыходзіш да высновы, што яго ўкладальнікі наўмысна кіраваліся прынцыпам апісання бытавой жудасці як асноўным крытэрыем адбору паэзіі і прозы для кнігі. І такі іх выбар можна зразумець. Стратэгія апісання жахаў магла даць і станоўчы вынік. Дакладней, вынік у любым выпадку быў бы станоўчым для шматпакутнага селяніна. Такая кніга магла суцешыць бедняка: маўляў, "я не адзін такі гаротны на свеце, вось чытаю гісторыю пра такога ж гаротнага селяніна, які жыве пад Слонімам" (месца дзеяння гісторый дакладна пазначаецца); або надаць яму аптымізму: "мы яшчэ добра жывём, маем, што паесці, і здароўе добрае, рукі-ногі ёсць, можам зарабіць сабе кавалак хлеба".

Дык пра якія пакуты сялян пішуць аўтары "Зборніка…"? Якія колы Пекла жыцця беларуса паказваюць?

*Старасць*. Не, гэта не тая старасць, калі дзеці ўжо дарослыя, можна спакойна сядзець на печы, трохі дапамагаць па гаспадарцы і даглядаць унукаў. А старасць, якая — не радасць. Менавіта такі лёс Базыля, героя апавядання Тараса Гушчы, якое так і называецца "Старасць — не радасць". Базыля ў гэтым жыцці ўжо нічога не цікавіць, "сядзіць ён цэлымі гадзінамі і моўчкі пакурывае такую-ж старую, як і ён, люлечку, і сьліна часта цячэ па кароценькім цыбучку". Толькі і застаецца гаротнаму згадваць пра свае маладыя гады, шкадаваць пра тое, што прайшло: "І дзе яно ўсё падзелося? Ці было ўсё гэта?" І не таму Базыль сумуе, што маладосць прайшла, а таму, што нават у сям'і ён "лішні тут і ўсім чужы, толькі для аднаго яго міма праходзіць гэта жыццё". І тут чытач паступова пераходзіць на наступнае кола — *Калецтва*. Бо калі Базыль мае што згадаць у жыцці, то кульгавы дзядзька Раман з-пад Слоніма з аднайменнага апавядання К. Лейкі, які "зусім ня меў ног і не хадзіў па зямлі, як другіе людзі, а поўзаў, за што і празвалі яго паўзуном", прыгадае мала светлых момантаў. Жанаты ён не быў, дома ўласнага не мае, з хаты "нікуды не выпаўзаў і, апрыч сухога хлеба з бульбай, ніякіх трункоў і ў вочы ня бачыў". Толькі і ведае Раман, што дапамагаць сваякам па гаспадарцы і суседзям быць дарадцам у розных клопатах. Так ён і пражыў сваё жыццё, на старасці стаў часта хварэць, а потым і зусім занядужаў. "Твар пазеленеў, вочы патухлі і ўваліліся; сам ледзьве-ледзьве дыша". І вось наступнае кола пякельных пакут — *Смерць*. Але тут маецца на ўвазе не смерць Рамана, бо ён усё ж такі пражыў жыццё, хоць і гаротнае, але доўгае, а смерць заўчасная, якая становіцца вялікім горам для блізкіх і сваякоў. Менавіта пра такую смерць распавядае імпрэсія Ядвігіна Ш. "Раны", прысвечаная публіцысту Сяргею Палуяну, які скончыў жыццё самагубствам у 19 гадоў. Са смерцю звязана апавяданне "Прыгонная душа" Янука Журбы…



Гравюра Х.Хольбейна да "Боскай камедыі" Дантэ. 1538 г.

Упэўнена, найбольш уразіць чытача расповед Язэпіхі з апавядання "Сусветны жаніх". Гэта гісторыя яе сяброўкі Ганулі, чый муж памёр, і мела яна адзіную радасць — прыгажуню-дачку Мар'янку. Дзяўчыну шмат хто кахаў, але яна абрала парабка Хвёдара і праз некаторы час выйшла за яго замуж. Спачатку лічылі яны сябе "найшчаслівейшымі людзьмі ва ўсім свеце", але потым Хвёдар пачаў "на нас пагруківаць", піў гарэлку, не дапамагаў па гаспадарцы і хадзіў па ігрышчах. Нарадзіўся ў Мар'янкі і Хвёдара сын… І вось аднойчы, калі быў моцны мароз, Хвёдар доўга не вяртаўся дадому з чарговага ігрышча. Мар'янка паехала яго шукаць. Па дарозе з-за завірухі размінулася з мужам. Ён жа прыехаў дадому ўжо мёртвы, "абванітаваўшыся ўвесь, смародом гарэлачным так і разіць". Калі Ганулька пабачыла мёртвага зяця, то памерла ад разрыву сэрца, Мар'янка, вярнуўшыся дадому і пабачыўшы страшную карціну, таксама памерла ад узрушэння, а яе сын у гэты ж вечар разбіў галоўку, "зваліўшыся з ложка, аб вострыя вуглы палена"…

У гэтай гісторыі адбываецца пераход і на наступнае кола пакут — *П'янства*. Яно доўжыцца і ў апавяданні са спадчыны Аляксандра Сержпутоўскага "Хвароба над хваробамі", сумяшчаецца з іншымі нястачамі — *хваробамі, страхам, стратай з немагчымасцю вяртання*. Хай і ў выглядзе легенды-казкі падаецца гісторыя, аднак яна не можа не ўразіць.

Пасля смерці сына Янкі ад цяжкай хваробы яго бацька Сёмка пачаў усё часцей і часцей зазіраць у карчму. І вось аднойчы Сёмка выйшаў адтуль "у самую поўнач". Прылёг адпачыць у канаве, і яму з'явіўся сын, які пераслярог, паказаў усе пакуты і страхі ў пекле, а галоўнае, прывёў на нараду хвароб з самім Люцыпарам, дзе П'янства надта хвалілі, бо яно дапамагае астатнім хваробам зводзіць людзей у магілу.

Але не трэба меркаваць, што ўкладальнікі "Зборніка…" паклапаціліся толькі пра фізічнае здароўе чытача. Звяртаюць яны ўвагу і на *пакуты маральныя*, згрызоты сумлення і паводзіны ў грамадстве. Так, у кнігу ўвайшоў пераклад з В. Бялінскага "Дзве дарогі", дзе аўтар даказвае, што трэба выбіраць шлях еднасці з Богам, несці цяжкі крыж, які праз знішчэнне свайго "я" забяспечыць бяссмерце. Сумленным паводзінам вучыць апавяданне Ядвігіна Ш. "Дачэсныя".

Думаецца, сваёй мэты ўкладальнікі "Зборніка…" дасягнулі. Хоць у кнігу ўвайшлі не новыя творы (яны раней публікаваліся на старонках "Нашай нівы"), але сабраныя пад адной вокладкай, тэксты маюць зусім іншы эфект. Яны б'юць у самае сэрца чытача.

Літаратура і мастацтва № 38 21 верасня 2012 г.

Мастак і кніга

# З адказным стаўленнем да прыроды і самога сябе

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Менавіта дзякуючы знаёмству з гэтай абаяльнай дзяўчынай я калісь даведалася пра той факт, што ў французскай выдавецкай практыцы імя мастака на вокладцы стаіць побач з імем аўтара. Малюнкі Лідзіі Пшаніцынай добра вядомыя маленькім чытачам. Амаль дзесяць гадоў яна супрацоўнічала з Пасольствам Французскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, не адмаўлялася і ад прапаноў беларускіх выдавецтваў, а потым знайшла сябе ў экалагічнай адукацыі.

**— На пачатку года вы прапаноўвалі гараджанам стварыць карту свіргулёў, якою павінны карыстацца будаўнікі, каб не знішчыць гнёзды гэтых птушак, зацікавілі інтэрнэт-суполку Фестывалем кулікоў на Тураўскім лузе — у гэтыя мясціны з радасцю ездзяць экологі з усяго свету, — а яшчэ вучыце маляваць.**

— Свіргуль — від пярнатых, які дапамае людзям, бо знішчае надакучлівых камароў, мошак, таполевую моль і іншых непажаданых суседзяў. Гэта птушка абрана сімвалам 2012 года, таму што свіргулёў у нашых гарадах становіцца ўсе менш. Падчас рамонтаў шчыліны шматпавярховых дамоў, дзе яны гняздуюць, нярэдка заканапачваюць. За мяжой многія людзі развешваюць каля дамоў штучныя гнёзды для гэтых птушак, і мы таксама запрашаем жыхароў Мінска паклапаціцца пра іх. Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны" рупіцца пра захаванне прыроды Беларусі, напрыклад, захоўвае ўнікальнае Тураўскае балонне — тэрыторыю, дзе гняздуюць кулікі-марадункі і дзе пры міграцыях спыняецца 50 тысяч гусей, больш як 30 тысяч качак і за 100 тысяч турухтанаў. Для таго, каб прыцягнуць увагу да гэтага ўнікальнага месца, штогод мы праводзім адзіны ў Еўропе Фестываль кулікоў у Тураве.

Перад людзьмі стаіць важная задача — захаваць багацце прыроды, разнастайнасць свету. Для мяне важна аб'яднаць працэс творчасці і набліжэнне людзей да прыроды. Вандроўкі па лесе, выкарыстанне розных прыродных матэрыялаў, назіранне за птушкамі даюць моцны імпульс да творчасці. На Захадзе эка-арт ужо даўно папулярны напрамак мастацтва, у нас ён робіць першыя крокі.

**— Лідзія, якія напрамкі дзейнасці вам цікавыя?**

— Паводле адукацыі я педагог. Скончыла мастацкую школу.




*Вокладка кнігі французскай пісьменніцы Шанту дэ Валіер.*

Мне пашчасціла ўдзельнічаць у шматлікіх майстар-класах беларускіх і замежных мастакоў. Менавіта гэта сфарміравала маю творчую пазіцыю.

А яшчэ заўсёды цікавіў пошук метадаў, што дазваляюць звычайным людзям адчуць сябе мастакамі, творцамі. Сёння сваёй мэтай бачу пошук і распрацоўку творчых адукацыйных праграм, якія дапамогуць людзям розных узростаў не баяцца чыстага ліста паперы, выказваць свае ідэі і думкі ў малюнку — і праз творчасць адчуць сябе шчаслівымі.




*Вокладка першага метадычнага дапаможніка коміксаў.*

**— Вы падкрэсліваеце — людзі розных узростаў...**

— Так. Пачынала працоўную дзейнасць як выхавальнік па выяўленчай творчасці ў дзіцячым садку, сёння праводжу трэнінгі па коміксах для моладзі і заняткі для людзей сталага ўзросту ў межах праекта грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" "Птушкам усе ўзросты падуладныя". Вучу людзей сталага ўзросту бачыць прыгожае ў прыродзе і маляваць птушак.

Уяўляеце, многія прызнаюцца, што ўсё жыццё марылі гэтаму навучыцца. Як яны ганарацца сваімі работамі, якую радасць атрымліваюць ад творчасці!

**— А чаму вы абралі коміксы?**

— Комікс (ад англ. "comic" — камічны, смешны) — графічна-апавядальны жанр, серыя малюнкаў з кароткімі тэкстамі, якія ствараюць звязны аповед. Комікс-культура існуе ўжо больш як сто гадоў, аднак менавіта сёння коміксы нечакана выйшлі на першы план, зрабіліся вельмі сугучнымі часу, бо іх форма найбольш адэкватная свядомасці сучаснага чалавека, перагружанага інфармацыяй — за дзень ён атрымлівае больш інфармацыі, чым чалавек XVII стагоддзя за ўсё сваё жыццё. І таму чым больш даступна і прывабна яна будзе выкладзена, тым большая імавернасць, што яе ўспрымуць. Сёння комікс — самастойны від мастацтва, стаў адным з самых зручных і адэкватных спосабаў перадачы інфармацыі: кароткі тэкст буйным шрыфтам і малюнкі.



*Персанаж беларускай міфалогіі Лесавік стаў героем комікса.*

Як адзначаюць даследчыкі ў галіне медыя-адукацыі, у коміксаў з'явілася свая публіка — новае пакаленне з развітым кліпавым мысленнем. Сучасныя падлеткі ўжо прызвычаіліся ўспрымаць інфармацыю ў змешаным выглядзе — пры дапамозе дакладных лозунгаў і відэараду, якія дапаўняюць адно аднаго. Такім чынам комікс робіцца эфектыўным сродкам камунікацыі.

Нягледзячы на актыўнае распаўсюджванне коміксаў за мяжой, а апошнім часам і ў Расіі, комікс як мастацкі жанр у беларускай культуры дагэтуль сур'ёзна не ўспрымаецца. Сярод вядомых сучасных беларускіх мастакоў коміксаў можна назваць толькі Андрэя Арынушкіна, які паспяхова працуе ў Францыі і Канадзе, аднак, на жаль, не стварае коміксаў на беларускай мове.

Развіццё візуальнага мыслення пры дапамозе коміксаў цікава мне як даследчыку. Вывучаць адукацыйныя магчымасці коміксаў пачала дзесяць гадоў таму. У 2008 годзе разам са шведскім мастаком коміксаў Эсб'ёрнам Ёрсатэрам (Esbjorn Jorsater) мы распрацавалі курс малявання коміксаў для моладзі на тэму экалагічна ўстойлівага ладу жыцця. Потым прайшло шмат цікавых семінараў на гэту тэму, — і назбіралася матэрыялу на цэлую кнігу, якую мы стварылі з Ірынай Сямко, начальнікам Каардынацыйнага цэнтра "Адукацыя для ўстойлівага развіцця" МДЭУ імя А. Д. Сахарава і шведскімі мастакамі. Літаратар Алесь Туровіч распрацаваў для кнігі цікавую канцэпцыю пра выкарыстоўванне беларускіх вобразаў і архетыпаў у коміксах. На творчых майстар-класах, што праводзіліся на працягу года ў розных навучальных установах Беларусі, школьнікі, студэнты, выкладчыкі прадэманстравалі ўласнае бачанне ўстойлівага развіцця чалавецтва ў займальных коміксах.

У маі 2010 года беларускія коміксы былі прадстаўлены ў Парыжы на міжнароднай канферэнцыі "Устойлівае развіццё. Культура. Адукацыя", арганізаванай у супрацоўніцтве з ЮНЕСКА. Потым выстаўка гэтых работ прайшла ў розных гарадах Беларусі і Еўропы.

**— Які твор якога аўтара вам хацелася б ажывіць?**

— Хацелася б зрабіць коміксзамалёўкі да кнігі Стывена Кові "7 навыкаў высокаэфектыўных людзей", а яшчэ разам з дзецьмі і для дзяцей праілюстраваць маю ўлюбёную кнігу Джэрома Д. Сэлінджэра "Над безданню ў жыцце".



*З кнігі "Экакаманды".*

**Візітка:**

Лідзія Пшаніцына нарадзілася ў 1977 годзе ў Казахстане, на Байкануры. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка (2000), магістратуру і аспірантуру. Ілюстратар дзіцячай літаратуры сёння працуе ў Нацыянальным інстытуце адукацыі і займаецца адукацыйнымі сацыяльнымі праектамі. А яшчэ Лідзія — супрацоўнік грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны".

На паліцы




# Хто жыве ў Беларусі?

Ганна ПАЛЯКОВА

Пытанне пра этнічны склад беларускай дзяржавы даўно цікавіла беларускіх даследчыкаў і навукоўцаў. Вядома, што на тэрыторыі нашай краіны пражываюць прадстаўнікі больш як 140 нацыянальнасцей. Поўныя звесткі пра этнас нашай зямлі цяпер знаходзяцца ў кнізе "Хто жыве ў Беларусі?", якая выйшла ў выдавецкім доме "Беларуская навука".

Праца над кнігай працягвалася больш як пяць гадоў, а матэрыялы для яе збіраліся дзесяцігоддзямі. Выданне складаецца з дзвюх частак. У першай распавядаецца пра нацыі, прадстаўнікі якіх жывуць у нашай краіне, пра іх традыцыі і звычаі. Гэтая частка прысвечана гісторыі і культуры беларусаў, рускіх, украінцаў, палякаў, літоўцаў, татараў, яўрэяў, цыганоў. Гэтыя этнічныя супольнасці пражываюць у нашай краіне шмат вякоў. Але выданне адметнае тым, што ў ім змяшчаюцца звесткі і пра тыя народы, якія з'явіліся ў Беларусі адносна нядаўна. Гэта в'етнамцы, карэйцы, афганцы, немцы і японцы. Цікава таксама, што ў кнізе ёсць інфармацыя пра першае ўпамінанне кожнага народа ў беларускіх дакументах, асаблівасцях рассялення і паходжання. У другой частцы кнігі — інфармацыя пра канфесіі, якія атрымалі найбольшае распаўсюджанне ў Беларусі.

Падчас падрыхтоўкі выдання быў сабраны вельмі багаты матэрыял. Кніга мае цікавы змест, а таксама ўнікальнае афармленне. Матэрыялы выдання дапоўнены фотаздымкамі з асабістых архіваў аўтараў, ілюстрацыямі з фондаў музеяў і бібліятэк і нават картамі.

Кніга будзе цікавай не толькі этнографам, фалькларыстам, рэлігіязнаўцам, антраполагам, але і кожнаму, хто неабыякавы да гісторыі і культуры свайго краю.

# Мае маленькія цуды
## *Раздзелы з эсэ*

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**



Увогуле маіх маленькіх цудаў сем. Кішэнны гадзіннік, шарыкавая ручка, транзістарны радыёпрыёмнік, камп'ютар, флэшка, мабільнік, электронная чыталка. Пра іх, сапраўдныя тэхнічныя дзівосы нашага часу, я напісаў вялікае эсэ пад назвай "Сем маленькіх цудаў", а чытачам "ЛіМа" прапаную раздзелы з яго.

1

Прызнаюся адразу: гэтае эсэ я збіраўся пісаць даўно. Але ўсё адкладваў. І вось спыніўся наручны гадзіннік. Як прынята казаць — села батарэйка. Запасной не было,ісці ў майстэрню позна, а заўтра ўранні трэба ехаць. І тады я ўспомніў пра свой стары гадзіннік. Адшукаў, пакруціў колца заводкі. Гадзіннік ажыў. Весела, узрадавана зацікаў, маленькая секундная стрэлачка пачала чарціць свае малыя кругі.

Пазіраю на гадзіннік, як на дзіва: на ружаватым цыферблаце грозны сілуэт крэйсера, ваенна-марскі сцяг. Крыляе чайка, пеністыя хвалі… Гэта — Балтыйскі флот. Размаляваў сябра-мастак. А калі ж я набыў гадзіннік? Ой, даўно тое было!

Вясна 1956-га. Апошні, трэці, курс Магілёўскага культасветвучылішча. Ужо атрымаў размеркаванне ў Мінскую вобласць — папрасіўся бліжэй да сталіцы, бо марыў пра журфак універсітэта.

Разумеў, што без гадзінніка далей абыходзіцца нельга. Даўно нагледзеў — наручны гадзіннік маркі "Победа". Але ён кусаўся — трыста дваццаць пяць рублёў. Гэта амаль дзве стыпендыі. А на што жыць? І тут прыйшоў ганарар! З аршанскай раённай газеты. Зімою быў я на практыцы ў клубе вёскі Пішчалава. Аднойчы праходзіў справаздачны калгасны сход. Я пасядзеў. Паслухаў. Аказалася, што мясцовая гаспадарка імя Кірава — адна з лепшых у раёне. Напісаў справаздачу і завейным, марозлівым днём панёс у Оршу. Адшукаў рэдакцыю раёнкі. Памятаю, як зараз, прыняла мяне сталага веку жанчына. Уважліва прачытала мой допіс. А потым і кажа: "Ці маглі б вы дапоўніць трохі? Хто яшчэ выступаў?" — і дае мне аркуш паперы. Я назваў яшчэ некалькі прозвішчаў, адзначыў, пра што яны гаварылі. "Ну, выдатна. Вы — малайчына", — і па-мацярынску цёпла зірнула на мяне, зялёнага хлопца — мне яшчэ і васямнаццаці не было.

Праз тыдзень выйшла газета з маім вялікім артыкулам, і загаловак захавалі мой — "Да новых поспехаў!" А вось цяпер і ганарар прыслалі. Трохі падкінула грошай старэйшая сястра Параска. І набыў я першы ў жыцці гадзіннік. Цяпер ужо, чытаючы са сцэны гумарэску Марка Твэна "Мой гадзіннік", я адварочваў рукаво пінжака і дэманстраваў сапраўды мой, а не пазычаны, гадзіннік. Раней пазычаў у аднакурсніка, дзетдомаўца Сашкі Мацуры касцюм і гадзіннік. Дарэчы, неўзабаве набыў я і касцюм.

Дык вось, Марка Твэна і байку Кандрата Крапівы "Махальнік Іваноў" дэкламаваў са сцэны Дзяржынскага (так і хочацца напісаць — Койданаўскага) раённага Дома культуры і вясковых клубаў, куды завітвала наша агітбрыгада. Так што мой гадзіннік, выраблены Другім маскоўскім заводам, бачыла шмат людзей.

А размаляваў цыферблат у Таліне старшы матрос Пятро Шарапаў. Зямляк, выпускнік Віцебскага мастацкага вучылішча. Прапанаваў свае паслугі сам, і грошы не ўзяў: "От, зірнеш на гадзіннік і ўспомніш мяне…" І насамрэч узгадваў яго часта, бо насіў гэты гадзіннік шмат гадоў. Служыў ён мне верай і праўдай, адно мяняў раменьчыкі — яны зношваліся.

Такія згадкі прамільгнулі ў галаве, пакуль ехаў у вёску і зрэдчас пазіраў на свой стары гадзіннік. Ён спраўна адлічваў хвіліны, нястомна кружляла секундная стрэлка. Адна няхручнасць — быў ён таўставаты, цяжка вылузваўся з-пад манжэты кашулі, таму пазнейшыя гадзіннікі пачалі рабіць танчэйшымі.

Увогуле пасля вайны наручны дый кішэнны гадзіннікі былі рэдкасцю. Уладальнікі ганарыліся імі. На старых фотаздымках хлопцы, маладыя мужчыны ўпіраліся левою рукой у бок. Ды так, каб быў відзён гадзіннік, расшпільвалі пінжакі, каб паказаць кішэнны гадзіннік на ланцужку. У штанах мелася адмысловая вузкая кішэня для такіх гадзіннікаў.

Цягам сваёй гісторыі чалавецтва навыдумляла шмат прыстасаванняў для вымярэння часу. Быў і сонечны гадзіннік, і пясочны, якія і цяпер прымяняюцца пры розных працэдурах. Гадзіннікі ёсць вялізныя. Як лонданскі Біг Бэн ці на Спаскай вежы Маскоўскага крамля. На Прывакзальнай плошчы ў Мінску.

А насценныя ходзікі з куваннем зязюлі і без яе? Іх і цяпер можна дзе-нідзе ўбачыць у вясковым доме. Цікалі яны і ў нашай новай пасляваеннай хаце — старую спалілі немцы. Ходзікі часам спыняліся, мусіць, гірка, падобная да яловай шышкі, слабавата нацягвала ланцужок. І тады я падвешваў у дадатак нямецкі кінжал. Ходзікі быццам палохаліся і гучна цікалі, а гірка з кінжалам памалу апускалася ўніз і яе трэ было падцягваць угору. Мабыць, гэта было самае мірнае прымяненне некалі грознай зброі.

А гадзіннікі з меладычным боем! І насценныя, і настольныя. Гэта цэлая індустрыя. Іх любяць дарыць імяніннікам, юбілярам. У мяне іх цэлая калекцыя.

Цяпер гадзіннікі часцей працуюць на батарэйках, нават маленькія жаночыя. Яны бываюць і круглыя, і эліпсападобныя. Гэта насамрэч маленькі цуд на прыгожых ланцужках, на бранзалетах. Мой новы гадзіннік, фарсісты, залачоны, на бранзалецiку, які расцягваецца, — гэта вельмі зручна. І падарыла яго малодшая дачка Вольга, якая жыве ў Амерыцы. Ну, вядома, і гадзіннік амерыканскі. Менавіта ён, так бы мовіць, і справакаваў нараджэнне эсэ.

6

Я сядзеў за камп'ютарам, калі азваўся мабільнік. Тэлефанавала Святлана Башылава — нястомная, самая ранняя радыёптушка, вядучая перадачы "Сельская раніца". Амаль кожную вясну мы запісваем сюжэт: як паразімавалі пчолы, якія сарты ранняй бульбы буду садзіць, як буду вырошчваць кабачкі, гарбузы. Вядома, цікавяць Святлану і творчыя справы, што новае напісалася. На заканчэнне запісваем невялікі фрагмент новага твора. Потым я атрымліваю пісьмы ад слухачоў. Нядаўна слухачка з Гродзеншчыны пыталася, як рабіць лекі з пчалінага падмору, тэлефануючы і па мабільніку.

Так, сотавы тэлефон азваўся вельмі своечасова, бо надышла чарга расказаць пра гэты маленькі цуд. Прыгадваецца мая першая вандроўка ў Штаты восенню 2000 года. Уражанняў было шмат, гэтая краіна нібы раскрытая кніга рэкордаў Гінэса. Пасля вяртання дамоў напісаў эсэ "Сем одаў Амерыцы". Былі ў гэтым творы оды хайвэю — хуткаснай шашы праз усю краіну — ад Канады да Мексікі, праспяваў я песню супермаркету. Нават рэструму — прыбіральні, яны там дужа шыкоўныя і ўсюды бясплатныя.

Апошняй у тым эсэ была ода сотаваму тэлефону. Мяне ўразіла, што ў Бостане шмат людзей ідуць і гамоняць па мабільніку. Убачыць такое ў Мінску тады было немагчыма. Наколькі гэта зручная і патрэбная рэч, я неўзабаве пераканаўся. Мы ехалі на сустрэчу з Масеем Сяднёвым — беларускім паэтам, празаікам, публіцыстам, перакладчыкам. Жыў ён у гарадку Глен-Коў каля Нью-Ёрка. Пакуль даехалі — сцямнела. Не можам знайсці патрэбную вуліцу. Ніхто не ведаў, нават паліцэйскі. Было ўжо позна, але давялося зяцю Алесю ўзяць у рукі мабільнік. Масей Ларывонавіч адразу адгукнуўся, удакладніў, дзе мы ёсць, сказаў, каб чакалі. Хвілін праз дзесяць пад'ехала "Хонда", стары ў капелюшы памахаў рукою, каб ехалі за ім. Дарэчы, Сяднёву было тады 88 гадоў. А ён ездзіў за рулём. Адбылася незабыўная сустрэча з таленавітым літаратарам-земляком.

Дзякуючы мабільніку я пазнаёміўся з кампазітарам Зміцерам Яўтуховічам. Пасля тэлефоннай размовы ён прыслаў у Бостан кампакт-дыск і папрасіў перадаць яго Анатолю Ярмоленку. Просьбу я выканаў. Анатоль ужо садзіўся ў машыну і тут у ягонай кішэні азваўся мабільнік. Пакуль Анатоль гаварыў, я міжволі падумаў: "І мы не лыкам шытыя. Не лапцем капусту сёрбаем".

Пасля вяртання з Амерыкі я забраўся ў сваю хату ў лясной вёсачцы. Ні ў кога з суседзяў тэлефона не было: ні сотавага, ні праваднога з чорнай слухаўкай. На ўсё наваколле адзін тэлефон у настаўніка-пенсіянера з суседняй вёскі. Але навукова-тэхнічны прагрэс не абмінуў мяне: неўзабаве і я займеў тоўсценькую трубку ў скураным футаральчыку з кароткай антэнкай. Першы мой мабільнік быў падобны да слімака. Але якая гэта была радасць: збіраю ў лесе грыбы — і раптам музыка, дастаю з кішэні "слімака". Націскаю зялёную клавішу і чую голас: "Здароў, бацька! Ну, як ты там?" На сувязі — Амерыка. За сем тысяч вёрст чую голас дачкі. Хіба гэта не цуд!

Гэты маленькі цуд — мабільнік шмат чаго ўмее рабіць: можа пабудзіць у пэўны час, можа нагадаць пра дзень нараджэння сябра. Ім лёгка фатаграфаваць, адасылаць "эсэмэску", выйсці ў інтэрнэт, спампаваць музыку, цэлую кнігу. І што мяне асабліва здзівіла: мабільнік можа замяніць электроннага павадыра — падкажа дарогу ў незнаёмай краіне, параіць самы кароткі маршрут да патрэбнага месца ў чужым горадзе.

7

І нарэшце яшчэ адзін маленькі цуд — электронная чыталка, кніжка-планшэт. Я ўжо адзначаў — можна чытаць і з мабільніка. Але ягоны экран маленькі, таму і шрыфт дробны. І мне вельмі шкада маладых людзей, якія чытаюць у транспарце з сотавага тэлефона. Так і хочацца сказаць хлопцу ці дзяўчыне: "Што ты робіш? Чаму бязлітасна псуеш зрок?"

А вось у электроннай чыталцы шрыфт можна адрэгуляваць. У маёй ён буйнейшы, чым у папяровай кнізе. Экран гэтага маленькага цуду — дзевяць на дванаццаць сантыметраў. Чыталку зручна трымаць, лёгка ёю карыстацца, і адкрываецца яна на той старонцы, дзе ты спыніўся раней. Памяць у яе выключная.

Трымаю на далоні чыталку. На экране — барадаты антычны профіль вялікага Гамера. Потым можа з'явіцца прыгожы барадаты твар, пільны пагляд мудрых вачэй. Гэты рэспектабельны джэнтльмен — Уолт Уітмен, потым выплыве таксама барадатыя і таксама імпазантны Жуль Верн або з'едліва іранічны Курт Вонегут, сімпатычныя сёстры Брантэ, самавітая Вірджынія Вульф. Нестае мне ў гэтай галерэі Льва Талстога, Фёдара Дастаеўскага, рускага савецкага класіка Леаніда Лявонава. Затое ягоны магутны раман "Піраміда" ёсць.

Пашкадаваў, што няма ў чыталцы і партрэта Роберта Фроста — у ЗША ён лічыцца паэтам нумар адзін ХХ стагоддзя. А ягоны двухтомнік маю. Магу чытаць у трамваі. Цікавы факт: у трыццатыя гады мінулага стагоддзя Фрост прыязджаў у Маскву, з гонарам казаў: ваш герб — серп і молат. А я — фермер, мой герб — каса і сякера. Фермерствам Фрост займаўся да апошніх дзён свайго доўгага жыцця. Мне асабліва блізкая яго паэзія, бо яна вельмі моцна паяднаная з прыродай. Дый мой герб таксама — каса і сякера. Плюс пчаліны курэль — дымарь, па-руску кажучы.

Няма ў галерэі электроннай чыталкі нікога з нашых класікаў. О, як бы я радаваўся, калі б на экране з'явіўся партрэт Купалы ці Коласа!

Праўда, трохі парадавала інтэрнэт-бібліятэка "Флібуста". Тут я налічыў 53 творы Васіля Быкава, 19 — Уладзіміра Караткевіча, 9 — Івана Мележа. Ёсць творы іншых нашых пісьменнікаў. Дарэчы, з рускіх класікаў асабліва магутна прадстаўлены Леў Талстой. Тут яго Поўны збор твораў у 90 тамах, ёсць і 22-томны збор, а таксама — асобныя кнігі. Фёдар Дастаеўскі мае 61 кнігу. Неяк я прапусціў ягоны раман "Игрок", цяпер з асалодай чытаў у трамваі, у маршрутных таксі. Не, што ні кажыце, электронная чыталка — гэта рэч.

Але вернемся да майго рыдара. Цяпер чытаю "Піраміду" Л. Лявонава. Магутны твор! Вось адна вынятка. Аўтар піша, што нашы "беды диктуются переизбытком статического электричества, производимого всё возрастающим в условиях крайней тесноты трением народов и особей друг о дружку, чем и объясняются частые самовозгорания человечины". Дзякуй, Леанід Максімавіч! Моцна сказана.

…Гэтае эсэ — першы твор, напісаны ад пачатку і да канца на камп'ютары, чарнавіка — ні рукапіснага, ні машынапіснага — ён не мае. Скончыў набіраць эсэ сакавіцкім адвячоркам. Надвор'е стаяла шэрае. З раніцы ляпіў мокры снег, пасля абеду сыпаў дробны калючы дождж. Потым дождж нашчук — так казала мая матка,— выбліснула зыркае сонца.

Выйшаў я на двор, каб даць перадых вачам, зірнуў на неба і аслупянеў: на фоне цёмна-фіялетавай хмары раскінулася шырачэзная сяміколерная дуга вясёлкі, побач слаба праглядвалася і другая дуга. Я доўга любаваўся гэтым цудам прыроды, вясёлка ўвачавідкі пачала знікаць. Дый спачатку яна была нейкая кволая, нерашучая, мо таму, што ранняя, першая ў сезоне — свайго роду разведчыца, а мо дождж занадта дробны, ці сонца яшчэ не дужа яркае. Міжволі прыгадаліся вясёлкі майго дзяцінства, калі пасля магутнай летняй навальніцы мы, вясковыя хлапчукі, басаног бегалі па цёплых лужах. А над намі зіхацела аграмадная, на ўвесь купал неба, вясёлкавая дуга.

А яшчэ падумалася: можа, Вясёлка-Весялуха, векавечны сяміколерны цуд прыроды, ахінае і благаслаўляе сем маленькіх рукатворных цудаў, без якіх ужо немагчыма ўявіць нашае жыццё.

# Без межаў і выхадных!

**Учора Беларуская дзяржаўная філармонія ўрачыста адкрыла свой 75-ы канцэртны сезон.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Амаль за месяц** да пачатку новага сімфанічнага сезона ў сталіцы прагучала яго ўверцюра: у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі з аншлагам выступіў унікальны аркестр — **"I, Culture orchestra 2012"**. Толькі на адзін вечар завітаў да нас гэты інтэрнацыянальны маладзёжны сімфанічны калектыў пад кіраўніцтвам Ільяча Рываса, маэстра з Венесуэлы, якому крыху за дваццаць, — а ўражанняў ад канцэрта публіцы хопіць надоўга. Праграма? Пётр Чайкоўскі, Караль Шыманоўскі, Антанін Дворжак, Атарына Рэспігі. Надзелены тонкім адчуваннем аўтарскага стылю музыкі, адметны высокай мануальнай тэхнічнасцю і адсутнасцю празлічаных "на публіку" візуальных прыёмаў, валявы і харызматычны дырыжор настолькі пранікнёна і выразна ўвасобіў логіку сімфанічнага развіцця кожнай партытуры, што публіцы заставалася толькі насалоджвацца "мастацкім чытаннем" класічных твораў. Услухоўвацца ў струнную цішыню pianissimo, захапляцца "жывапісам" кульмінацыйных магутных tutti, падчас якіх здавалася, нібы гучыць падвойны склад аркестра... "I,Culture orchestra 2012" выклікалі на "біс!"

**Чым парадавала** доўгачаканае адкрыццё юбілейнага сезона галоўнай канцэртнай установы краіны? Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава прадставіў новую праграму, акцэнт у якой быў зроблены на творчасці Андрэя Мдзівані. Як вядома, знаны кампазітар, прафесар адзначае сваё 75-годдзе ("ЛіМ", дарэчы, прысвяціў гэтай падзеі адну са сваіх сёлетніх публікацый). У канцэрце 20 верасня адбылася прэм'ера кампазіцыі "Рафаэль" паводле музыкі балета "Шчыгрын" А. Мдзівані (лібрэта А. Дударава), музыкі яго Сімфаньеты, Чацвёртай сімфоніі да паэзіі У. Шэкспіра, А. Блока, К. Бальмонта, С. Ясеніна, М. Валошына, М. Альбы, Г. Белышавай — з удзелам артыстаў Купалаўскага тэатра. Адкрыццё сезона ўпрыгожыла і гучанне вечнай класікі Р. Вагнера, К. Сен-Санса, П. Чайкоўскага. Адметны штрых: сола скрыпкі ў фрагменце з балета А. Глазунова "Раймонда" выканала канцэртмайстар аркестра Юлія Стэфановіч, якая зусім нядаўна атрымала ганаровае званне заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.



*Ля фасада філармоніі.*

Сённяшні вечар у сталічнай філармоніі абяцае сустрэчу з ужо знаёмай нам Ксеніяй Вязнікавай. Заслужаная артыстка Расійскай Федэрацыі, салістка маскоўскага тэатра "Гелікон-опера", яна прыязджала ў Мінск летась як удзельніца імпрэзы ў гонар незабыўнай Ірыны Архіпавай і выступіла ў суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхася Казінца. І вось яе яркае мецца-сапрана зноў прагучыць у суладдзі з гэтым выдатным беларускім калектывам у праграме "Музыка без межаў".

**Музыка сапраўды** не ведае ні межаў, ні... выхадных: у нядзелю сталічных журналістаў збіраюць на прэс-канферэнцыю з нагоды VII Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета, урачыстае адкрыццё якога адбудзецца ў той жа вечар. Праект, звязаны з імем "Паганіні альта", завершыцца, як вядома, 5 кастрычніка. А там — новая магутная і гарачая хваля "музычнага бязмежжа": XXXVIII Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень". Сталічная філармонія рыхтуецца да вялікага паломніцтва, бо падчас традыцыйнага фэсту будзе ўпершыню ажыццёўлены грандыёзны творчы праект "Беларусы свету", адначасова пройдзе і II Міжнародны конкурс вакалістаў імя Л. П. Александроўскай.

Такім чынам, канцэртная афіша з 14 кастрычніка па 22 лістапада нагадвае красамоўны люструнак міжнародных музычных повязей, падзей, прэм'ер, адкрыццяў. Адбудуцца аўтарскія канцэрты кампазітараў Дзмітрыя Смольскага, Віктара Войціка, Віктара Капыцько, Уладзіміра Карызны, прэм'ера ронда-оперы Ларысы Сімаковіч "Люцыян Таполя". Прыедуць славуты аркестр духавых інструментаў "Трымітас" з Літвы, Маскоўскі дзяржаўны акадэмічны камерны хор Уладзіміра Мініна, Ансамбль старадаўняй музыкі "Hortus musicus" з Эстоніі, Фларэнційскі камерны аркестр са славутым салістам-трубачом Сяргеем Накаракавым, расійскі дырыжор Уладзімір Вярбіцкі, піяніст з Азербайджана Мурад Адыгезал-задэ. З усяго свету збяруцца і выбітныя беларускія выканаўцы, лаўрэаты міжнародных конкурсаў: піяніст Андрэй Паначэўны, тэнар Іван Шупеніч, бас Міхаіл Рысаў, трубач Андрэй Кавалінскі, цымбалісты Ангеліна Ткачова, Міхась Лявончык... Плануецца і вечарына кампазітара Эдуарда Ханка — "То ли ещё было!.." Чынны ўдзел у бязмежным свяце музыкі возьмуць вядучыя акадэмічныя калектывы і салісты нашай краіны.

Урачысты гала-канцэрт, прысвечаны 75-годдзю Беларускай дзяржаўнай філармоніі, адбудзецца ў разгар фэсту: 2 лістапада.



*Музыканты Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі.*

# Светлая журба

16 верасня пайшоў з жыцця выдатны беларускі мастак Георгій Скамарохаў. Ён нарадзіўся ў 1935 годзе ў Стаўрапалі. А ў 1956 годзе скончыў Саратаўскае мастацкае вучылішча, якое, лічыў, зрабіла яго сапраўдным мастаком. Яшчэ ў 1951 годзе ён атрымаў Дыплом II ступені на Усесаюзным конкурсе дзіцячага малюнка, Дыплом I ступені на конкурсе, абвешчаным музеем М. Ю. Лермантава ў Пяцігорску. З Беларуссю яго знітавала служба ў арміі. У 1959 годзе ён паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і менавіта там сфарміраваўся як мастак-графік.

Памяць пра сябе Георгій Скамарохаў пакінуў у афармленых кнігах і часопісах. Са студэнцкіх гадоў ён супрацоўнічаў з часопісамі "Нёман", "Полымя", "Вясёлка". Сваю асноўную творчасць звязаў з выдавецтвамі "Народная асвета", "Юнацтва", "Мастацкая літаратура", "Вышэйшая школа" і інш. За сваё доўгае творчае жыццё Георгій Якаўлевіч праілюстраваў больш як 500 кніг. Яму бліжэй была ваенна-патрыятычная тэматыка, бо лічыў сябе "дзіцём вайны". Яго работы адзначаны дыпломамі I, II і III ступеняў на ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах.

Пакаленні хлопчыкаў і дзяўчынак вучыліся па аформленых ім падручніках для пачатковай школы, па кнігах для дзяцей і юнацтва.

Пайшоў з жыцця шчодры чалавек, выдатны сябра і творца.

**Сябры і калегі.**



## Вераснёвы вернісаж

Лана ІВАНОВА

Да 65-годдзя з дня нараджэння незабыўнага майстра прымеркавана экспазіцыя "Мікола Селяшчук. Між святлом і ценем". Кожны яго твор уражвае вобразнай свежасцю, ігрой жывапісных метафар. Нібыта між рэальнасцю і сном стварае мастак свой багаты, але такі датклівы і крохкі свет, напоўнены фантазіямі, матывамі загадкавай беларускай даўніны, прыгожымі марамі, зямнымі памкненнямі... Прыхільнікаў таленту Міколы Селешчука чакае яго мемарыяльная рэтраспектыўная выстаўка, разгорнутая ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.



*Мікола Селяшчук "Партрэт дзяўчынкі" (1992).*

Гродзенская галерэя "Крыга" запрашае на персанальную выстаўку Леаніда Хобатава. У 1981 годзе ён скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і на працягу свайго ўжо немалога самастойнага творчага шляху пацвярджае рэпутацыю перакананага шукальніка непаўторнага жывапіснага стылю. Яго мастацкае мысленне, грунтуючыся на абстрактных катэгорыях, матэрыялізуецца ў арыгінальных вывах, дзе колеравыя пласты ўспрымаюцца як вобразнае абагульненне пластоў пэўнага часу гісторыі.

Больш як сем дзясяткаў жывапісных работ прывёз Уладзімір Савіч з майстэрні ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, каб паказаць іх гасцям персанальнай выстаўкі. Яна прысвечана 60-годдзю творцы. А называецца — "Размова з уласным ценем або гульня з колерам". Амаль палова твораў, прадстаўленых тут, датаваная гэтым годам.

Сваю творчасць Рыгор Іваноў трактуе як "сваціэм". Што за напрамак? Не бянтэжцеся, калі не можаце ўспомніць. "Сваціэм" — уласнае стварэнне нашага вядомага жывапісца. Асноўная ідэя гэтага аўтарскага напрамку — адлюстраванне ў мастацкіх работах "боскага святла, энергіі, якую выпраменьваюць усе стварэнні Бога". Гледачы нярэдка прызнаюцца, што і напраўду адчуваюць асаблівую светланосную энергію, якая зыходзіць ад знарочыста спрошчаных выяў, па-дзіцячы наіўных і чыстых вобразаў, узнёслай сімволікі яго карцін. Новы персанальны праект Рыгора Іванова "Узыходжанне", прадстаўлены ў "Галерэі мастацтва" Беларускага саюза мастакоў, складаецца з жанравых кампазіцый, пераважна на міфалагічныя і рэлігійныя тэмы, а таксама з работ філасофскага зместу, выкананых у абстрактнай манеры.



*Рыгор Іваноў "Анёл з Месяцам" (2008).*



# Юбілейная восень Паэта

**На пачатку верасня наш знаны кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Віктар Войцік адзначыў сваё 65-годдзе. Юбіляр жартуе, што "адчувае сябе на 56" і пераканаўча пацвярджае гэта сваёй актыўнай шматбаковай дзейнасцю. Сёння Віктар Антонавіч віртуозна сумяшчае кампазітарскую працу з педагагічнай, пасаду старшыні праўлення Мінскага гарадскога аддзялення Беларускага саюза музычных дзеячаў з плённай арганізатарскай ініцыятывай. Між тым, за чарадой абавязкаў і клопатаў, за ганаровымі ўзнагародамі, тытуламі і рэгаліямі — чалавек з багатым унутраным светам і арыгінальнай сістэмай поглядаў. У гэтым я, вучань Майстра, чарговы раз пераканаўся падчас нашай з ім гаворкі.**



*Кампазітар Віктар Войцік з маладымі выканаўцамі.*

**Вячаслаў ПЯЦЬКО,**
**фота Уладзіміра Вітчанкі**

**— Віктар Антонавіч, кожны юбілей — гэта нагода падвесці вынікі ўласнай працы. Якой для вас была мінулая "пяцігодка", што новага адбылося за гэты час у вашым творчым жыцці?**

— Я магу ахарактарызаваць гэтыя гады так: вяртанне ў маладосць на новым узроўні. На сённяшні дзень я адчуваю сябе вольным чалавекам, не скаваным побытавымі праблемамі, якія адцягваюць увагу ад творчасці. Таму магу сабе дазволіць пачаць усё спачатку і зрабіць тое, што некалі не паспеў. Са значных падзей мінулых пяці гадоў адзначу ганаровае для мяне ўзнагароджанне медалём Францыска Скарыны. Мяне радуюць і поспехі маіх вучняў, якія "рассеяныя" сёння не толькі па Беларусі, але і за межамі краіны. Так, жывуць і актыўна працуюць у Германіі Аксана Амяльчук, у Іспаніі — Юлія Раманцова; з Гомелем звязанае жыццё Жаны Сяргеенкі, якая нядаўна стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу аўтарскай песні ў Маскве (дарэчы, у яе самой ужо таксама ёсць вучні-лаўрэаты); заўважная асоба Канстанціна Яськова — кампазітара, арганізатара, які ўзначальвае Асацыяцыю маладых кампазітараў пры Беларускім саюзе музычных дзеячаў.

**— Паводле якога прынцыпу вы набіраеце вучняў да сябе ў клас кампазіцыі?**

— Сам ніколі не выбіраю, але веру, што ўсе, хто прыходзіць да мяне, здольныя і таленавітыя. І так аказваецца насамрэч. Не магу сказаць, што я містык, але мне здаецца, ёсць нейкая найвышэйшая сіла, якая падказвае мне творчыя задумы. Яна ж пасылае мне і маіх вучняў. Кожны з іх чаканы для мяне, як новы твор. І я веру ў іх, як некалі верылі ў мяне мае настаўнікі — а яны верылі ў мяне больш за мяне самога. Працаваць можна з кожным, у каго ёсць жаданне авалодаць прафесіяй.

**— Што новага ва ўласным творчым багажы з'явілася апошнім часам?**

— У апошнія гады я пішу пераважна для тых, каму мая музыка будзе патрэбная. Гэта рэпертуар для вучняў музычных школ, вучылішчаў і каледжаў, на стварэнне якога натхняе праца ў журы конкурсу выканаўцаў імя І. Жыновіча. Я заўсёды гатовы ствараць музыку для нашых прафесійных выканаўцаў. У мінулы перыяд я працягваў свае даўнія кантакты з дзіцячым музычным тэатрам "Казка", які ў 2008 годзе на сцэне сталічнай філармоніі прадставіў прэм'еру маёй новай дзіцячай оперы "Лясная школа, ці Сон першакласніцы". Урыўкі з гэтага спектакля тэатр прадставіў на міжнародным фестывалі ў Балгарыі, дзе атрымаў самую высокую адзнаку журы.

**— Сёлета ў вас яшчэ адна знамянальная дата: 40 гадоў таму вы скончылі кансерваторыю, распачалі самастойную прафесійную дзейнасць. Што, на вашу думку, з'яўляецца галоўным для кампазітара-пачаткоўца, якія небяспекі і спакусы чакаюць яго на творчым шляху?**

— Цяпер спакуса адна: зарабляць грошы. У гады майго юнацтва было інакш. Кампазітар, выйшаўшы са сцен кансерваторыі, адчуваў істотную падтрымку Міністэрства культуры, якое арганізоўвала закупку твораў і было шчыра зацікаўленае яго творчасцю. Грошы не вызначалі прафесійны статус кампазітара. Калі я пачынаў свой творчы шлях, для мяне было галоўным самавызначыцца ў абранай прафесіі, знайсці сваю сцяжыну ў неабсяжных прасторах музычнага свету. Сёння іншая сітуацыя.

**— Куды ж зніклі былыя даброты? Можа, і сапраўды трэба даць веру словам расійскага кампазітара і філосафа У. Мартынава, які абвясціў надыход "канца часу кампазітараў"?**

— Для мяне няма гэтага пытання. Я веру, што без творцаў ніколі не абыдзецца. Але, на жаль, даводзіцца прызнаваць, што запатрабаванні пануючай цяпер масавай культуры знаходзяцца на такім нізкім узроўні, што іх цалкам можа задаволіць непрафесійная кампазітарская творчасць. Таму прафесія кампазітара на сённяшні дзень выключаная з дзяржаўных рэестраў.

**— Дзіўна! Кампазітары ёсць, а прафесіі няма!**

— І дзіўна, і сумна, калі, забываючыся на вялікую выхаваўчую місію, займаюцца толькі забаўляннем грамадства. Але ўсё ж такі я застаюся аптымістам, бо ў нас ёсць таленавітая моладзь, у іх старэйшых калег ёсць шчырае жаданне перадаць свой багаты досвед. Маладым будзе значна цяжэй, чым нам калісьці, прабівацца ў жыцці і адказваць на выклікі часу, але яны абавязкова знойдуць сваю дарогу і прынясуць нам новае мастацтва высокай якасці. Хацелася б толькі, каб яны, нягледзячы на цяжкасці, прасілі ў Бога не грошай, а розуму. Каб, маючы здаровыя амбіцыі, паважалі старэйшых і памяталі, што вучыцца давядзецца ўсё жыццё, бо старасць прыходзіць да ўсіх, а мудрасць — не да кожнага.

**— У кампазітара Войціка ёсць твор-візітка?**

— Адказваць на гэтае пытанне не мне, мая справа — ствараць музыку. Але хацелася б, каб мяне пазнавалі па сімфанічнай сюіце "Забавы". Гэты твор — этапны ў маёй кар'еры. У ім я сінтэзаваў усё, чым авалодаў на той час з прафесійнага пункту гледжання. Можна сказаць, што тут увасобілася маё творчае credo: ахапіць усё, застаючыся самім сабою. Прайшло 35 гадоў з часу стварэння сюіты, а ў айчыннай музыцы не з'явілася больш ніводнага твора такога кшталту. І, галоўнае, гэта твор, які дае ўяўленне пра мяне як пра беларускага кампазітара. Для мяне вельмі важна быць прадстаўніком менавіта беларускай кампазітарскай школы. У мяне надараліся магчымасці жыць і працаваць у замежжы, з'ехаць з краіны падчас сацыяльна-палітычных і эканамічных катаклізмаў, але была і неадольная патрэба жыць і працаваць на роднай зямлі. Дарэчы, адзін з маіх апошніх твораў прысвечаны менавіта лёсу роднай зямлі. Гэта паэма "Беларусь — мая Атлантыда".

**— Шэраг вашых твораў звязаны з імёнамі аўтараў мінулых эпох: Саната для трубы і фартэпіяна "Так казаў старына Бах", сюіта для камернага аркестра "Парафраз" на тэмы Д. Шастаковіча ды іншыя. Гэта своеасаблівыя "музычныя прынашэнні" вашым кумірам ці нешта іншае?**

— Гэта нешта іншае. Для мяне музыка — спосаб камунікацыі. Але не толькі з сучаснікамі, як можна было б падумаць. Дзякуючы ёй я магу узяць сабе ў суразмоўцы кампазітара любой з мінулых эпох. Трэба толькі настроіцца, паглыбіцца ў падсвядомасць, увайсці ў кантакт з часам, з постаццю. Дарэчы, яшчэ шумеры казалі, што музыка — гэта мастацтва, здатнае звязаць час. Такая ідэя легла ў аснову майго аўтарскага канцэрта, які адбудзецца 16 кастрычніка ў Малой зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэта будзе пояс часоў і лёсаў, дзе я магу вольна пераходзіць з адной эпохі ў іншую, вандраваць у часе, у Космасе, у Сусвеце...

**— Ваш творчы працэс характарызуецца амаль што фантастычнай хуткасцю і неверагоднай мэтанакіраванасцю. Шмат якія з вашых твораў складаліся літаральна за некалькі дзён. Няўжо ў сталенні кампазітара ёсць усё ж такі час, калі "пакуты творчасці" не маюць улады над ім?**

— Каб стаць кампазітарам, трэба доўга вучыцца. Зараз я магу сказаць, што навучыўся быць кампазітарам. Для мяне гэта значыць валоданне пэўным прафесійным інструментарыем, з дапамогай якога я запісваю толькі тыя творы, якія прыходзяць да мяне амаль што цалкам, ад першага ўражання і да апошняй ноты. І я не саромеюся гэта рабіць, як некалі ў маладосці, бо тады мне здавалася вельмі падазроным, калі "яно само прыходзіць". Цяпер я мяркую інакш.

**— Сёння, як ніколі раней, кампазітару неабходна сябраваць з выканаўцамі. Вы працавалі з такімі выбітнымі музыкантамі, як Я. Гладкоў, Г. Забара, В. Жывалеўскі...**

— ...і мяне вельмі радуе, што з'яўляюцца выканаўцы яшчэ больш высокага ўзроўню, чым іх настаўнікі. І настаўнікаў гэта таксама радуе. У такой сітуацыі не можа быць зайздрасці, бо вучні павінны быць лепшымі за сваіх педагогаў. Сёння я не вагаючыся аддаю свае творы маладым выканаўцам. Увогуле, я лічу прафесію кампазітара другаснай адносна выканаўцы, бо ў музыцы, якая жыве на канцэртнай пляцоўцы, заўсёды галоўным з'яўляецца артыст. Менавіта ён даносіць пачуцці кампазітара да слухачоў, таму асоба выканаўцы вызначальная для лёсу музыкі. Калі ёсць вялікія выканаўцы, тады з'яўляюцца і вялікія кампазітары, а не наадварот. Таму я, працуючы на пасадзе старшыні праўлення Мінскага гарадскога аддзялення БСМД, імкнуся заахвочваць выканаўцаў да супрацоўніцтва, да стварэння своеасаблівага музычнага братэрства, без якога мы, кампазітары, будзем нікому не патрэбныя ў сённяшнім грамадстве.

**— З кім з выканаўцаў кантактуеце?**

— Апошнім часам маю спадзяванне на плённае супрацоўніцтва з цудоўным музыкантам, проста фантастычнай цымбалісткай Веранікай Прадзед. Разам з ёю мы ажыццявілі мастацкі праект па стварэнні арыгінальнага інструментальнага ансамбля "Juveniele bel Trio", які, дарэчы, возьме ўдзел ва ўжо згаданай маёй аўтарскай вечарыне.

**— Азіраючыся на мінулае, вы можаце сказаць, што задуманае ажыццявілася?**

— Пачынаючы свой творчы шлях, я не будаваў вялікіх планаў. Ведаў, што чакае адказная праца. Я не ішоў у кампазіцыю па авацыі, сціпла ацэньваў свае магчымасці і проста займаўся тым, што мне падабаецца. І сёння радасна прызнацца, што ўсё жыццё я займаўся ўлюбёнай справаю. Але ставіць кропку пакуль рана. Прызнаюся, мяне вельмі хвалюе і радуе творчасць студэнтаў-кампазітараў. Побач з імі заўсёды застаешся маладым. І часам у іх творах я чую тую музыку, якую б сам хацеў напісаць. Гэта вельмі ўсцешвае, бо адчуваеш сябе іх аднадумцам. А калі ёсць такое адчуванне, дык гады ўжо не вызначаюць творчы стан душы.

Што яшчэ дадаць? Кампазітар В. Войцік — сапраўды Паэт! Бо ён і ў наш "камп'ютарны" век не страціў адчуванне Прыгажосці, нягледзячы ні на якія цяжкасці, захоўвае вернасць сваім эстэтычным ідэалам, застаецца рамантычным вандроўнікам у часе і прасторы...

# Ці толькі асабістае?

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

Праз 10 гадоў пасля выхаду кнігі Арыядны Ладыгінай "Ларыса Пампееўна Александроўская: дакументальна-тэатральны раман" выдавецтва "Чатыры чвэрці" выпусціла яе мемуарна-публіцыстычныя нататкі "Ад скрыпкі да эстэтыкі: старонкі жыцця". Новае выданне выкліча цікавасць і сярод прафесійных музыкантаў, і ў шырокім коле чытачоў-гуманітарыяў. Перадусім звяртае на сябе ўвагу знакавае для айчыннай культуры імя аўтара — вучонага, педагога, чыя ўнікальная эрудыцыя аб'ядноўвае глыбокі досвед у сферы музычнага мастацтва і грунтоўнае спасціжэнне філасофіі. З імем А. Ладыгінай звязваюць заснаванне і развіццё ў беларускай навуцы галіны музычнай эстэтыкі. У Акадэміі навук БССР ёй давялося быць першым кіраўніком аддзела музычнага мастацтва. У Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер акадэмія музыкі) яна стварыла кафедру філасофіі. Напісала нямала фундаментальных прац, прысвечаных агульначалавечай духоўна-эстэтычнай праблематыцы, манаграфій пра з'явы беларускага мастацтва.

Ва ўводзінах да новай кнігі А. Ладыгіна тлумачыць сваё імкненне разабрацца ва ўласным жыцці, асабістых уражаннях, асэнсаваць пройдзены ёю доўгі шлях у музычным асяроддзі, беларускай навуцы, мастацтве. І прызнаецца, што паўвекавая праца ў кансерваторыі, стварэнне ўнікальнай кафедры, само выкладанне эстэтыкі, напісанне манаграфій, праца як музычна-тэатральнага крытыка, заняткі на скрыпцы — усё для яе аднолькава важнае, ні ад чаго не адмовілася б і сёння. Аўтар падкрэслівае: дзённікаў яна не вяла; збіраючы ў адно выключна асабістыя ўражанні, назіранні, высновы, амаль не карысталася дакументальнымі, даведачнымі матэрыяламі, даверыўшыся памяці. А ў памяці жыве не толькі асабістае.

# Інтэлігентны почырк Барыса Луцэнкі

*Таленавітаму майстру тэатральнай сцэны, народнаму артысту Беларусі, рэжысёру і педагогу Барысу Луцэнку споўнілася 75.*

**Святлана ЖЫРАВА,**
**фота з сайта nv-online.info**

Самастойны творчы шлях Барыс Іванавіч пачаў у 1967 годзе, калі прыйшоў працаваць рэжысёрам у легендарны Купалаўскі тэатр. Потым быў Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага. Увасоблены ім тут шэкспіраўскі "Макбет" увайшоў у гісторыю айчыннага тэатра як класіка беларускага сцэнічнага мастацтва і быў прызнаны адной з лепшых пастановак гэтай п'есы ў свеце. Сёння Барыс Луцэнка з'яўляецца адным з самых вядомых рэжысёраў на прасторы СНД. А тэатр імя М. Горкага стаў і застаецца для яго родным. З часам мяняўся рэпертуар творчага калектыву, яго артысты, у залу прыходзілі новыя пакаленні гледачоў... Аднак многія гады поруч з Барысам Луцэнкам працаваў шчыра адданы мастацтву чалавек, які добра ведае і творчасць майстра, і яго рэжысёрскія погляды, і асобу. Гэта дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Эдуард Герасімовіч. З ім і пагутарылі мы пра юбіляра.

**— Эдуард Іванавіч, ці памятаеце, як пазнаёміліся вы з Барысам Луцэнкам?**

— Я паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут у 1969 годзе, на рэжысёрскі курс да Уладзіміра Маланкіна. А потым мы з Уладзімірам Андрэевічам дамовіліся, што я перайду на іншае аддзяленне — культурна-асветніцкай работы. Рэжысуру там выкладаў Барыс Луцэнка. Скончыўшы інстытут, я прыйшоў працаваць у тэатр імя М. Горкага, дзе Барыс Іванавіч быў тады галоўным рэжысёрам.

**— Столькі гадоў супрацоўніцтва! Вы, напэўна, лепш за іншых калег можаце расказаць, які Барыс Іванавіч у тэатры і па-за яго межамі?**

— Рэжысёры — народ адметны. Яны стабільныя ў сваіх прыхільнасцях, у сваім ладзе жыцця, у сваім стаўленні да людзей, у сваім крэда, калі хочаце. Гэта катэгорыя творчых людзей павінна быць у тэатры асабліва значнай. Рэжысёр, па сутнасці, абавязаны шмат ведаць, быць не проста эрудзіраваным, а добра разбірацца ў псіхалогіі і наогул у вялікай колькасці рэчаў для таго, каб быць сапраўдным прафесіяналам. Барыс Іванавіч менавіта такі, гэта выдатны рэжысёр. Ён ужо ўсім усё даўно даказаў, бо яго работы вядомыя не толькі ў Беларусі, але і далёка за мяжой. Які ён у жыцці і які ён у тэатры? Такія людзі, як Барыс Іванавіч, заўсёды даволі цяжкія ва ўспрыманні, таму што кожны рэжысёр павінен быць хоць крышачку асобай. А калі асоба ёсць, дык з ёй бывае не надта проста ў стасунках. Падчас рэпетыцый і працы ў тэатры Луцэнка праяўляе, калі можна так сказаць, пэўную долю дыктату. Але так трэба. Ён любіць сваіх акцёраў, а акцёры яму вераць. Я б не сказаў, што нешта мяне ў ім здзіўляе. Больш як трыццаць гадоў мы знаёмыя, за гэты час, як кажуць, "прыцерліся", і нават тое, што, мабыць, і павінна было б здзіўляць чалавека староннягa, — не здзіўляе. Таму што гэта яго натура! Альбо ты прымаеш усё, альбо сыходзіш. Сёння ў Барыса Іванавіча творчай працы шмат, але яму хочацца больш... Наогул, тэатр — як сям'я. Нешта даводзіцца прабачаць, спадзяюся, і ён мне нешта даруе.

**— Ці ёсць у вас улюбёная пастаноўка рэжысёра Барыса Луцэнкі?**

— Пэўна, ёсць. Так атрымалася, што яго спектакль "Макбет" паводле Шэкспіра я ўпершыню ўбачыў, як ні дзіўна, не ў Мінску, а на гастролях у Калінінградзе. Я быў проста ўзрушаны! У ранейшых пастаноўках я ўспрымаў гэты твор з пункту гледжання добрай літаратуры. І раптам я гляджу "Макбет" з тэатральнага балкона ў Калінінградзе і не магу адвесці вачэй! Глядзеў на адным дыханні, хоць ведаю п'есу на памяць. Здаралася тое самае дарагое ва ўспрыманні мастацтва, калі твая душа адгукнулася. Бясспрэчна, гэта было заслугай Барыса Іванавіча. Работа рэжысёра атрымалася ідэальнай! Наогул, да яго прыходу ў тэатр імя М. Горкага людзі наведваліся ў гэтую залу не сказаць каб ахвотна. Са з'яўленнем тут Барыса Луцэнкі пачалася "залатая" эра ў гісторыі калектыву. Тэатр набыў сваё аблічча — аблічча вельмі разумнага інтэлігентнага суразмоўцы. Пачалася сур'ёзная размова тэатра з гледачом.

**— Што б вы параілі сучасным маладым рэжысёрам запазычыць з досведу Барыса Луцэнкі, а што пажадаеце самому юбіляру?**

— Я паспрабаваў бы параіць маладзейшым калегам Барыса Іванавіча ўзяць з практыкі майстра самае станоўчае. А Барысу Іванавічу жадаю не звяртаць увагу... на статусы ў тэатры, бо ўсё гэта не важна! Няхай у яго будзе моцнае здароўе, і каб вакол яго заўсёды былі толькі добрыя людзі. Таму што калі ёсць гэта, дык нічога ўжо не страшна, можна прайсці праз усе выпрабаванні і цяжкасці. І, вядома, жадаю яму паставіць яшчэ шмат добрых спектакляў!

*Народны артыст Беларусі Барыс Луцэнка.*

Барыс Луцэнка ажыццявіў больш як сотню спектакляў у айчынных тэатрах і за мяжой. У іх ліку "Раскіданае гняздо" і "Сон на кургане" Янкі Купалы, "Трохграшовая опера" Б. Брэхта і К. Вайля, "Трагедыя чалавека" І. Мадача, "Макбет" У. Шэкспіра, "Вяртанне ў Хатынь" А. Адамовіча, "Легенда пра беднага Д'ябла" У.Караткевіча, "Перад змярканнем" Г. Гаўптмана, "Распуснік" Э.–Э. Шміта, "Эдзіп" А. Мінчуковай, "Загадкавы візіт" паводле Ф. Дзюрэнмата, творы рускай класікі... Яго асоба — жывая легенда Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. У 1973 — 1982 і 1991 — 2008 гадах ён ажыццяўляў мастацкае кіраўніцтва калектыву і па сёння з'яўляецца яго рэжысёрам-пастаноўшчыкам. Праз метафарызацыю драматургічнага дзеяння, праз псіхалагічную пераканальнасць сцэнічнага існавання акцёраў, праз выразную пластыку відовішча ён імкнецца наладзіць шчыры дыялог са сваім гледачом пра тое патаемнае і спрадвечнае, што ва ўсе часы было спажывай для чалавечай душы і абуджала сумленне.

22 кастрычніка ў НАДТ імя М. Горкага адбудзецца юбілейны творчы вечар Майстра.

# Хто ў чарзе па прэмію?

Заўважана: конкурс на атрыманне Нацыянальнай тэатральнай прэміі, заснаваны Міністэрствам культуры Беларусі сумесна з Беларускім саюзам тэатральных дзеячаў, Беларускім саюзам літаратурна-мастацкіх крытыкаў ды Беларускім саюзам кампазітараў, выклікаў у гэтым годзе яшчэ больш гарачую цікавасць у творчых калектывах краіны, чым летась, калі ладзіўся ўпершыню.



*Маналог з "Караля Ліра".*



*"Палёт над гняздом зязюлі".*

**Лана ІВАНОВА,**
**фота Аляксандра Дзмітрыева**

З Міністэрства культуры нам паведамілі, што атрымана некалькі дзесяткаў заявак на ўдзел у адборачным конкурсным туры, якія адлюстроўваюць багацце і разнастайнасць рэпертуарнай палітры айчынных тэатраў. Сярод спектакляў-прэтэндэнтаў амаль палова — пастаноўкі паводле твораў класічнай і сучаснай беларускай драматургіі. Іх назвы, як гаворыцца, на слыху: "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл" у купалаўцаў і "Леаніды не вернуцца на зямлю" ў коласаўцаў, "Пане Каханку" ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага і "Пан Міністар" у Беларускім рэспубліканскім ТЮГу, "Раскіданае гняздо" на сцэне Палескага драматычнага тэатра ў Пінску... Канкурэнцыю ім ствараюць пастаноўкі паводле заходняй і рускай класікі ды сучаснай замежнай драматургіі: балет "Сільфіда" і опера "Аіда"; "Сродак Макропуласа" ў Тэатры-студыі кінаакцёра і "Палёт над гняздом зязюлі" ў Гродзенскім аблдрамтэатры, "Кароль Лір" Брэсцкага абласнога тэатра лялек і "Сабачае сэрца" ў трактоўцы гомельскіх лялечнікаў... Сёлета ўведзена вельмі важная новая конкурсная намінацыя: "Лепшы спектакль для дзяцей", так што колькасць удзельнікаў адборачнага тура павялічылася яшчэ і за кошт пастановак драматычных і лялечных тэатраў, адрасаваных юнай аўдыторыі.



*Сцэна са спектакля "Пане Каханку".*

Адбор спектакляў для ўдзелу ў фінальным конкурсным тыдні ў разгары. Ён пачаўся яшчэ пры канцы жніўня з прагляду пастаноўкі "Фігара.tut" пводле П. Бамаршэ ў Сучасным мастацкім тэатры Уладзіміра Ушакова. Кампетэнтную камісію, у складзе якой — мастацтвазнаўцы, крытыкі, тэатральныя і музычныя дзеячы, прадстаўнікі творчых саюзаў, узначальвае старшыня БСТД драматург Аляксей Дудараў.

А што далей? Вызначаныя адборачнай камісіяй спектаклі ўвойдуць у шорт-ліст намінантаў на Другую Нацыянальную тэатральную прэмію. Іх паказ пройдзе ў Мінску з 12 па 19 лістапада. Завершыцца гэты тэатральны марафон вызначэннем пераможцаў, якія атрымаюць свае ўзнагароды на ўрачыстай цырымоніі.

# Багацце фарбаў роднай мовы

**Мікалай КРЫЎКО,
вядучы навуковы
супрацоўнік Інстытута мовы
і літаратуры імя Якуба
Коласа і Янкі Купалы
НАН Беларусі**

*М. П. Пазнякоў. Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы. У двух тамах.*

Багацце сінонімаў і эпітэтаў у кожнай канкрэтнай мове сведчыць пра яе развіццё, выразнасць, гнуткасць, здольнасць перадаваць найтанчэйшыя рухі думкі, выяўляць самыя складаныя адценні паняццяў, характарыстык, фарбаў пры апісанні рэчаў, прадметаў, дзеянняў, пры раскрыцці разнастайных з'яў рэчаіснасці, перажыванняў чалавека і г. д.

Пра багацце і разнастайнасць эпітэтаў нашай мовы сведчыць двухтомны "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" М. Пазнякова, які выйшаў з друку ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва". Рэестр гэтага слоўніка складаецца амаль з 450 найбольш ужывальных назоўнікаў беларускай літаратурнай мовы.

У якасці загаловачных моўных адзінак у слоўніку выступаюць словы, што з'яўляюцца найбольш ужывальнымі ў беларускай мове і маюць найбольшую колькасць разнастайных эпітэтаў.

Загаловачныя словы, як правіла, не тлумачацца. Але калі групы эпітэтаў адносяцца да розных значэнняў слова, то гэтыя значэнні раскрываюцца.




Бываюць выпадкі, калі адны і тыя ж эпітэты падыходзяць да некалькіх значэнняў загаловачнай моўнай адзінкі. Тады ёй даецца абагульненае (праз кропку з коскай) азначэнне. Напрыклад: "Святло. Прамяністая энергія; асвятленне". Словы тлумачацца і тады, калі эпітэты даюцца да аднаго з яго значэнняў. Напрыклад: "Тон. Характар гучання, эмацыянальнае адценне голасу, мовы".

Пасля загаловачнай моўнай адзінкі ў слоўнікавым артыкуле даюцца эпітэты-прыметнікі. Уключаны таксама дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі ў значэнні прыметнікаў.

Для зручнасці эпітэты ў слоўніку часта падзяляюцца на семантычныя групы. Напрыклад, эпітэты да слова *хваля* маюць наступныя семантычныя групы: пра велічыню, форму, характары гайдання (*барадатая, грывастая, мускулістая* і г. д.); пра шум, колеры, афарбоўку, ступені празрыстасці (*белагрывая, грымучая, мутная* і г. д.); пра ўражанні, псіхалагічнае ўспрыманне (*адчайная, вясёлая, злосная, маркотная* і г. д.).

Цытаты з твораў мастацкай і навуковай літаратуры, а таксама з перыядычных выданняў і фальклору завяршаюць слоўнікавы артыкул.

Абмежаваны аб'ём рэцэнзіі не дазваляе ў якасці ілюстрацыі прывесці тут слоўнікавыя артыкулы. Таму толькі пералічым эпітэты, якія атрымала слова "воплескі". Абыякавыя, аглушальныя, адабральныя, адзінкавыя, адзіночныя, аднастайныя, актыўныя, арганізаваныя, асцярожныя, бадзёрыя, безупынныя, бесперапынныя, бурныя, бясконцыя, гарачыя, грамавыя, густыя, гучныя, далікатныя, дзікія, дзяжурныя, доўгія, дружныя, запрашальныя, захопленыя, зацягнутыя, кароткія, марудныя, мерныя, настойлівыя, неадабральныя, незадаволеныя, незмаўкальныя, нецярплівыя, нясмелыя, нястрыманыя, нястрымныя, павольныя, падбадзёрлівыя, патрабавальныя, пратэстныя, працяглыя, прыемныя, прыхільныя, прыязныя, радасныя, рэдкія, скупыя, слабыя, стрыманыя, удзячныя, узрушаныя, цёплыя, шалёныя, шквальныя, шумныя, шчырыя, энергічныя.

У "Слоўніку эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" М. Пазнякова акрамя агульнамоўных прадстаўлены народна-паэтычныя эпітэты (напрыклад: *залётнае* воблака, *ясная* зара, *краснае* лета, *сіняе* мора, *злая* разлука, *чорны* сум і г. д.) і індывідуальна-аўтарскія эпітэты (*каласістая* надзея — С. Гаўрусёў; *жалезная* песня — М. Танк; *белакрылая* рака — М. Хведаровіч; *шыракагрудая* рака — А. Зарыцкі; *белагубы* туман — Р. Барадулін; *мускулістая* хваля — П. Макаль; *босая* цішыня — Н. Тулупава і інш.).

Сярод слоўнікавых адзінак можна вылучыць назоўнікі, якія маюць у беларускай мове вялікую колькасць эпітэтаў. Напрыклад, агонь, боль, бор, бяроза, вада, валасы, вечар, восень, вясна, гаворка, галава, далеч, дарога, дзень, дождж, жанчына, журба, жыццё, звон, злосць, зорка, каханне і інш. Дзясяткі эпітэтаў з мовы мастацкай літаратуры і іншых крыніц М. Пазнякоў падабраў да слоў: вецер, думка, рукі, святло, слова, сон, сонца, хмара, час. І нарэшце прывядзём назоўнікі: голас, душа, зямля, неба, ноч, песня, позірк, радасць, твар, усмешка, цішыня, якія маюць пры сабе сотні адмысловых эпітэтаў.

Уражвае факт, што аўтар "Слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" М. Пазнякоў выявіў, сабраў і сістэматызаваў вялізную колькасць моўнага матэрыялу. Выкананая фундаментальная праца пад сілу спецыялістам цэлага калектыву. Прытым выканана яна на самым высокім навуковым узроўні і не выклікае заўваг.

Аўтару Слоўніка можна даць толькі адну параду. На старонках усяго свайго слоўніка М. Пазнякоў пры тлумачэнні лексічнага матэрыялу карыстаецца прыназоўнікам *аб*. Напрыклад: Вусы. *Аб памеры, стане, характэрнай прыкмеце; аб параўнанні з вусамі пэўных асоб; Аб уражанні, псіхалагічным успрыманні; аб ацэнцы вусоў*. Думаецца, па-беларуску (у тым ліку і ў мове навуковых выданняў) больш прыдатным з'яўляецца прыназоўнік *пра*.

Дарэчы, класік беларускай мастацкай прозы першай паловы ХХ стагоддзя Кузьма Чорны ў сваёй ранняй творчасці таксама карыстаўся практычна толькі прыназоўнікам *аб* (гл.: Кузьма Чорны. Збор твораў у васьмі тамах. Том першы. Апавяданні 1923 — 1927. Мінск, 1972). Але з 1928 года пісьменнік сам ці па нечай падказцы пачаў актыўна карыстацца прыназоўнікам *пра* і практычна толькі ім (гл.: Кузьма Чорны. Збор твораў у васьмі тамах. Т. 2 — 8. Мінск, 1972 — 1975).

У заключэнне скажам, што "Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" ў двух тамах (2012) М. Пазнякова варты стаць настольнай кнігай у майстроў беларускага мастацкага слова, журналістаў, перакладчыкаў, работнікаў радыё, тэлебачання, друку, спецыялістаў-мовазнаўцаў, выкладчыкаў ВНУ, настаўнікаў школ, студэнтаў і вучняў сярэдніх школ і ва ўсіх, хто неабыякавы да беларускага слова.

# Памяці Рыгора Семашкевіча

**Марына ЗАПАРТЫКА,
старшы навуковы супрацоўнік
Літаратурнага музея
Максіма Багдановіча**

Роўна трыццаць гадоў таму пайшоў з жыцця беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік Рыгор Семашкевіч (1945—1982). Малады даследчык, кандыдат філалагічных навук, выкладчык філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Большую частку свайго кароткага жыцця ён аддаў беларускай літаратуры. Даследаваў творчасць Рыгора Барадуліна, Алега Лойкі, Ніны Мацяш, Яўгеніі Янішчыц і многіх іншых, вынікам гэтай працы стала кніга "Выпрабаванне любоўю" (Мінск, 1982).

Рыгор Семашкевіч быў адным з першапраходцаў у тэме беларускага Пецярбурга. Канец XIX — пачатак XX стагоддзя — лёсавызначальны час для беларускага нацыянальнага адраджэння. Менавіта ў гэты перыяд актывізуецца культурная дзейнасць у Вільні і Санкт-Пецярбургу, гэтыя гарады становяцца сапраўднымі цэнтрамі культурнага адраджэння. У Пецярбургу жыў і працаваў прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла, які гуртаваў беларускую моладзь, з'яўляўся адным з кіраўнікоў беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца". Ён карыстаўся надзвычайным аўтарытэтам сярод беларускай інтэлігенцыі. Максім Багдановіч меў за гонар быць знаёмым з прафесарам, іх сустрэча адбылася ўлетку 1911 года, калі малады паэт прыязджаў у Вільню.

Адным з першых Р. Семашкевіч пачаў вывучаць дзейнасць Браніслава Эпімаха-Шыпілы і асэнсоўваць значнасць яго постаці для беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён аўтар навуковай працы "Браніслаў Эпімах-Шыпіла" (Мінск, 1968), якая на момант напісання сталася найбольш грунтоўным даследаваннем, прысвечаным дзейнасці ў тыя часы недаацэненага і забытага прафесара.

Намеры Рыгора Семашкевіча высока ацаніў і падтрымаў Мар'ян Пецюкевіч — выбітная асоба, вучань Максіма Гарэцкага і Браніслава Тарашкевіча, апошні дырэктар Беларускага музея, этнограф. У сваім артыкуле "Мала ведамы і забыты (Праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла)" аўтар адзначае: "Першыя абшырнейшыя звесткі аб жыцці, навуковай і грамадскай дзейнасці выдатнага сына беларускага народа — Браніслава Эпімах-Шыпілы паявіліся толькі ў гэтым годзе. Заняўся гэтай неабходнай і пачэснай справай беларускі савецкі літаратар — Рыгор Семашкевіч. У выніку яго даследавання і навуковага аналізу дзейнасці праф. Б. Эпімах-Шыпілы паўстае доктарская дысертацыя".

Самай вядомай навуковай працай Р. Семашкевіча як літаратуразнаўцы з'яўляецца кніга "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу (канец XIX — пачатак XX стст.)", гэтай тэмай ён зацікавіўся яшчэ ў студэнцкія гады. Курсавая работа, якую студэнт філалагічнага факультэта Семашкевіч пісаў яшчэ на IV курсе, насіла назву "З гісторыі беларускіх студэнцкіх гурткоў у Пецярбургу ў пачатку XX ст." (1965 г.). У далейшым пасля сканчэння БДУ ён не змяняў, а толькі пашыраў тэматыку сваёй навуковай дзейнасці. Пры паступленні ў аспірантуру філалагічнага факультэта БДУ Р. Семашкевіч абраў тэмай даследавання ўсё той жа беларускі Пецярбург, дысертацыя "Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу (канец XIX — пачатак XX стст.)" была абаронена, і ў 1971 г. даследчык атрымаў ступень кандыдата філалагічных навук. У тым жа 1971 г. дысертацыя выйшла ў выглядзе асобнай кнігі пад аналагічнай назвай.




*Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Фотаздымак з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.*

У першым раздзеле кнігі аўтар даследаваў гісторыю часопіса "Гоман", што выдаваўся студэнтамі-беларусамі, дзейнасць і творчасць беларускага паэта Адама Гурыновіча, сацыяліста па поглядах, які быў знаёмы з некаторымі нумарамі часопіса "Гоман", і дзейнасць аўтара "Беларускай хрэстаматыі" прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Другая частка прысвечана студэнцкаму руху пасля 1905 года, пецярбургскаму перыяду жыцця і творчасці Янкі Купалы, а таксама беларускай выдавецкай справе ў Пецярбургу. Цяпер гэтая тэма досыць папулярная і даступная, а на той момант гэта была фактычна адзіная праца, прысвечаная беларускаму Пецярбургу. Амаль да апошняга дня свайго жыцця ён не пакідаў навуковую працу, даследчык старанна збіраў факты, удумліва аналізаваў кожную дэталь. Можна меркаваць, што Р. Семашкевіч планаваў выпусціць яшчэ больш грунтоўную і поўную працу, звязаную з беларускім Пецярбургам.

Р. Семашкевіч быў асобай шматграннай. Ён пісаў не толькі навуковыя работы, але і празаічныя ды паэтычныя творы. Сярод іх найбольш яркі і знакаміты — аповесць "Бацька ў калаўроце". Дасціпны твор, які пісаўся з жыцця, фактычна ўсе героі мелі сваіх прататыпаў у рэчаіснасці. Даследчыца Любоў Гарэлік адзначыла, што "старонкі твора сагрэты сапраўдным пачуццём гумару, спагадлівасцю да сумленнага чалавека, дасціпнай і смелай выдумкай, гратэскам".

Р. Семашкевіч з'яўляецца аўтарам і шматлікіх вершаў, якія ён пачаў пісаць дастаткова рана, першыя паэтычныя творы з'явіліся ў друку ў 1961 годзе, калі ён быў вучнем 10 класа. Вершы Семашкевіча неаднойчы з'яўляліся на старонках зборніка "Дзень паэзіі", часопісаў "Полымя", "Маладосць". І хоць Семашкевіч заслужыў большае прызнанне як навуковец, а не як паэт, але вершы яго па-сапраўднаму шчырыя, чыстыя, ідуць з самай душы.

Няшмат напісаў даследчык беларускай літаратуры Р. Семашкевіч, многае не паспеў зрабіць. Дзмітрый Бугаёў у сваім артыкуле "Ён жыў сумленна, без аглядкі", прысвечаным Рыгору Семашкевічу, адзначыў: "За колькасцю напісанага ён сапраўды не гнаўся, але затое працаваў удумліва, рабіў усё ўсур'ёз, са значнай аддачай".



# Зямля пад белымі крыламі

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

Слова краязнаўцы



**Алег БЕЛАВУСАЎ з Гомеля, аўтар фотапраекта "Радавод", распавядае пра свой шлях да захаплення беларускай мінуўшчынай:**

— У Беларусь я трапіў па размерkаванні ў 1980-я гады. Напачатку гэта была для мяне вельмі далёкая, чужая краіна, бо тэрытарыяльны падзел СССР на Расію, Украіну, Беларусь, іншыя рэспублікі на той час мне падаваўся дастаткова ўстойлівым і значным.

І вось сем год таму Зміцер Сасноўскі (з ім я тады працаваў над стварэннем вобразаў для альбома гурта "Стары Ольса") прывёз мяне ў мінскі клуб гістарычнай рэканструкцыі "Княжы Гуф". І калі я пабачыў людзей, якія сваімі рукамі робяць даспехі, якія цудоўна ведаюць усе элементы гісторыі аж да імені асобы, чый вобраз яны хочуць узнавіць, то мяне гэта ўразіла да такой ступені, што я вырашыў стварыць асобны фотапраект. Спачатку гэта была ідэя, якую можна назваць "фатограф у Сярэднявеччы": нібыта да яго ў атэлье прыходзяць людзі і фатаграфуюцца. А Зміцер падштурхнуў да думкі, што гэтыя фота могуць распавесці пра вялікіх дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага. Так і атрымалася.

Праект "Радавод" мае два складнікі: візуальны вобраз, створаны з мэтай зацікавіць чалавека, прымусіць яго прачытаць спачатку подпіс да фотаздымка, які потым заглыбіць у гісторыю, пазнанне сваёй краіны; і захаванне на фота твараў людзей, якія так самаадддана працуюць над стварэннем гістарычных вобразаў. Хоць ужо большая частка здымкаў гатовая і яны хутка пабачаць свет у выглядзе фотаальбома, праект працягваецца. Мне хацелася б сабраць максімальную колькасць тыпажоў народаў, што насялялі Вялікае Княства Літоўскае.

Знаёмства з клубам гістарычнай рэканструкцыі сталася для мяне фактычна магчымасцю звярнуцца да сваёй сям'і, сваёй гісторыі. Бо калі я пачаў больш даведвацца пра ВКЛ, зразумеў: мае продкі, якія большай часткай жылі пры Чорным моры, маглі таксама ўдзельнічаць ва ўсіх падзеях. І таму ВКЛ — радзіма маіх продкаў, мая радзіма.

## Квест для аматараў мінуўшчыны

Даследчы праект "Кола гісторыі", прымеркаваны да 200-годдзя вайны 1812 года, быў рэалізаваны на гэтым тыдні ў Барысаўскім раёне Мінскай вобласці. У мерапрыемстве ўдзельнічалі 13 — 16-гадовыя падлеткі. Яны наведалі гістарычныя аб'екты, звязаныя з падзеямі гэтай вайны: вёску Студзёнка, горад Барысаў. На Брылёўскім полі юныя аматары гісторыі разбілі намётавы лагер. Тут іх чакала насычаная адукацыйная праграма з гістарычнымі чытаннямі, віктарынай "Навальніца 1812 года", квестам "Скарб Напалеона", вечар бардаўскай песні. Мэта праекта — пазнаёміць маладое пакаленне з гістарычнымі падзеямі 1812 года на тэрыторыі Беларусі, садзейнічаць асвеце падлеткаў.

**Бажэна СТРОК**

Музейны ўнікат

# Абавязваў быць першымі

У фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея захоўваецца нямала рэдкіх і ўнікальных прадметаў. Да іх адносіцца і ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР — першая ўрадавая ўзнагарода Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Яе ўручалі з канца 1924 года па снежань 1932-га. Кавалерамі ордэна сталі 139 чалавек і 30 устаноў.

**Вольга ДАВІДОЎСКАЯ**

У пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя многія савецкія рэспублікі, у тым ліку і БССР, заснавалі ордэны для ўзнагароджвання сваіх грамадзян за баявыя і працоўныя подзвігі. Пасля разгляду некалькіх праектаў беларускі ўрад зацвердзіў эскіз ордэна, прапанаваны мастаком Генадзем Змудзінскім.




*Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР.*

Знак ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР уяўляў сабой фігурны шчыт, пакрыты чырвонай эмаллю, на якім былі змешчаныя зорка, серп і сякера, чырвоны сцяг, залатое калоссе. У верхняй частцы шчыта выгравіраваны лозунг: "Пралетарыі ўсіх краёў злучайцеся", а па краях ад яго — абрэвіятура "БССР" на яўрэйскай і польскай мовах. Усю ніжнюю частку знака займаў надпіс "Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка".

Першае ўзнагароджанне ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР адбылося 19 снежня 1924 года. Знак № 1 атрымала меліярацыйнае таварыства "Васількі" Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. Неабходна адзначыць, што з канца 1924 па люты 1928 года было ўзнагароджана толькі 15 чалавек і арганізацый. Сярод іх — Мінскае і Віцебскае добраахвотныя пажарныя таварыствы, 2-і, 5-ы, 7-ы, 10-ы і 11-ы чыгуначныя палкі. За актыўны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве ўзнагароду беларускага ўрада атрымалі і іншыя ўстановы і прадпрыемствы БССР, у тым ліку мінскія заводы "Энергія" і "Бальшавік", добрушская фабрыка "Герой працы" і інш.

Што да асабістых узнагароджанняў, то першае з іх адбылося ў жніўні 1925 года, калі гэты ордэн атрымаў Канстанцін Пірог за энергічную і плённую дзейнасць у 31-м ваенна-дарожным атрадзе ў 1920 годзе. У шэрагу апошніх — уручэнне ордэна супрацоўнікам Надзвычайнага камітэта Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення А. Вальфсону і Я. Гозіну "ў знак асаблівых заслуг перад краінай дыктатуры пралетарыята ў справе сацыялістычнага будаўніцтва" (1932 г.), а таксама начальніку Галоўнага ўпраўлення шасейных і грунтовых дарог і аўтатранспарту БССР Ю. Фрумкіну і ўпаўнаважанаму ЦК ВКП(б) і СНК БССР С. Кралю "за выдатныя заслугі ў барацьбе за ўдарнае выкананне будаўніцтва шасейнай дарогі Мінск — Орша" (1932).

Ардэнаносцам штомесячна павінны былі выплачваць 15 рублёў, для іх прадугледжваліся льготы пры ўступленні ў калгасы і правa бясплатнага праезду ў трамваі ва ўсіх гарадах БССР, скідка на аплату жылплошчы ад 10 да 50 працэнтаў, а таксама скарачэнне на адну трэць стажу працы ці службы для атрымання пенсіі. Разам з тым кавалеры ордэна бралі на сябе абавязак "быць у першых радах сацыялістычнага будаўніцтва".

Узнагароды двух кавалераў ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР захоўваюцца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Гісторыя гэтых прадметаў звязана з віцебскай швейнай фабрыкай "Сцяг індустрыялізацыі" — аднаго з найбуйнейшых у рэспубліцы прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці першых пяцігодак. Будаўніцтва фабрыкі пачалося ў 1928 г. З 1 сакавіка 1930 г. дырэктарам упраўлення будаўніцтва прызначылі ўраджэнца Віцебска Юду Варкіна. У цяжкіх умовах і ў самы кароткі тэрмін былі ўзведзеныя карпусы новага прамысловага аб'екта. 25 лістапада 1931 года за актыўны ўдзел у выкананні швейнай прамысловасцю БССР пяцігодкі за тры гады Варкіну ўручылі ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР за № 72.

Нямала герояў першай пяцігодкі вызначыліся працай на фабрыцы "Сцяг індустрыялізацыі". Сярод іх — швачка Паліна Асіпоўская. У лістападзе 1932 г. за высокія паказчыкі ў працы яна атрымала ганаровы ордэн № 144.

Сёння даследчыкам-фалерыстам удалося знайсці 12 ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР у музеях Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга. Астатнія ўзнагароды знаходзяцца ў прыватных калекцыях і сем'ях уладальнікаў. Ордэны жыхароў Віцебска Ю. Варкіна і П. Асіпоўскай — гістарычныя рэліквіі Рэспублікі Беларусь і рарытэты Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

Радзіннае

# Пра «імёны» важных дзён

Як беларусы называюць святы? Пытанне гэта досыць актуальнае. Варта прыгадаць артыкулы Аляксандра Лукашанца і Алеся Каўруса, змешчаныя на старонках "ЛіМа", у якіх вядомыя мовазнаўцы разважаюць пра тое, як называць адно з галоўных хрысціянскіх свят, — Ражджаство, Раство, Божае Нараджэнне ці Нараджэнне Хрыстова? А можа, дакладней будзе Каляды? Падобныя анамасіялагічныя баталіі можна прадбачыць і ў дачыненні да іншых важных дзён у календары. Жнівеньскія святы не сталі выключэннем.

**Вікторыя ПЯТКЕВІЧ**

19 жніўня — вялікае свята. У храмах, як кажуць, яблыку няма дзе ўпасці. А яблыкаў ды іншых сакавітых пладоў вернікі прынеслі шмат, бо ў гэты дзень асвячаецца новы ўраджай садавіны.

Неаднойчы была сведкаю, як пасля малітвы і блаславення ўсіх святар спакваля падступаўся да галоўнага: "Што сёння за свята?" — "Яблычны Спас!" — адказваюць хорам прыхаджане. "Дзіўна, — разгублена ўсміхаецца бацюшка, — а я думаў, што Спас у нас адзін — гэта Ісус Хрыстос, а ёсць, аказваецца, яшчэ і яблычны…"

Давайце звернемся да розных крыніц і высветлім прычыну падобных казусаў, паразважаем, чаму адно і тое ж свята мае некалькі назваў і якую з іх уживаць больш дарэчна і правільна. У Беларускім праваслаўным календары пазначана: 19 жніўня — дванадзясятае свята Праабражэнне Гасподняе. Само слова Праабражэнне — царкоўнаславянскае і абазначае "пераменне, перайначванне". Незадоўга да сваіх пакут Ісус Хрыстос разам з трыма вучнямі — Іакавам, Іаанам і Пятром — узышоў памаліцца на Фаворскую гару. Пакуль Збавіцель маліўся, вучні заснулі. Прачнуліся — і ўбачылі Хрыста ў неверагоднай велічы і славе: твар Яго ззяў, як сонца, і нават вопратка зрабілася зіхатлівай.

Каталіцкія вернікі называюць гэтае свята Перамяненнем Пана (адзначаецца 6 жніўня), таму што ў каталіцызме замест царкоўнаславянскіх запазычанняў выкарыстоўваюцца польскія (параўнаем: Przemienienie Pańskie). Як бачым, назва свята перадае сутнасць падзеі, у гонар якой адбываецца ўрачыстасць. Але ж такі варыянт найменя свята не прыжыўся. Гавораць так, як правіла, прадстаўнікі духавенства або вернікі, якія добра знаёмыя з Біблiяй. Куды часцей вы пачуеце такі варыянт: другі, ці яблычны, Спас.

Звернемся да паходжання і першапачатковага значэння слова Спас. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы тлумачыць паходжанне гэтага наймення ад стараславянскага **съпасъ**, якое, у сваю чаргу, утваралася ад **съпасти**, што значыць "берагчы, ратаваць". У старабеларускай мове лексема Спас значыць "Збавіцель, Хрыстос". Адпаведна, у сучаснай беларускай мове Спас — гэта "Збавіцель", адна з назваў "Хрыста". (такое азначэнне падаецца ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы), якая выкарыстоўваецца як сінонім да асноўнай — Ісус Хрыстос. Лексема Спас у значэнні "Ісус Хрыстос". ліміцца прымальнай у праваслаўным ужытку. У Беларускім праваслаўным календары, напрыклад, удакладняецца, што Праваслаўная Царква 14 жніўня адзначае свята Усяміласцівага Спаса і Прасвятой Багародзіцы. Адсюль і вынікае, што другая назва свята, якое адзначаецца 19 жніўня, — другі Спас (ёсць яшчэ першы і трэці) мае хрысціянскае паходжанне. З гэтым пагаджаецца і фальклярыст Янка Крук у кнізе "Следам за сонцам": "У народным календары ёсць тры святы [гаворка ідзе пра Спасы], якія стаяць побач і запазычаны з царкоўнага календара".

Чаму другі Спас называюць яшчэ і яблычным? Бо атрымалася нелагічна, калі ў гэтым спалучэнні лексему Спас замяніць на яе сінонім — Хрыстос. Каб канчаткова праясніць гэтую недарэчнасць, звернемся да кнігі Уладзіміра Сысова "З крыніц спрадвечных", дзе аўтар выказвае наступнае меркаванне: "У язычніцкай рэлігіі Спас — гэта бажаство, якое ўвасобіла Духа ўраджаю, а магчыма, што нават узначальвала цэлы пантэон Духаў поля, лесу, лугу і г. д.". Як доказ гэтаму — выкарыстанне слова ў беларускім фальклоры: "Святы Спас, памілуй нас!..", "Святы Іспас — старэнькі дзядок, на восець садзіў, жыта малаціў". Раней жыццё беларусаў было цалкам прасякнута сельскагаспадарчымі клопатамі. Хлебаробы малілі духаў і багоў пра добры ўраджай, а калі ён выспяваў, то сяляне прыносілі Спасу свае ахвяраванні з новага ўраджаю як удзячнасць.

Пазней хрысціянскія святкаванні напласталіся на язычніцкія святы ў гонар Спаса. Адпаведна і Спас стаў яблычным. Такая назва досыць змястоўная. У яе склад уваходзіць слова Спас, якое можна патлумачыць і з хрысціянскага боку, і з язычніцкага. Прыметнік жа, які далучаецца да яго, нагадвае, што менавіта асвячаецца. Людзям лёгка згадаць сэнс свята (хаця б знешні, рытуальны) і прыстасаваць яго да дзённяў, якія адбываюцца ў храме, таму такі варыянт і ўжываецца найбольш актыўна.

Аналагічная сітуацыя адбываецца і вакол двух іншых жнівеньскіх свят. 14 жніўня Праваслаўная Царква адзначае свята вынясення слаўных дрэў Жыватворнага Крыжа Гасподняга або, па-народнаму, першы (мядовы, макавы) Спас. А 29 жніўня — трэці (арэхавы, хлебны) Спас, ці, як гэты дзень называе Праваслаўная Царква, свята перанясення з Эдэсы ў Канстанцінопаль Нерукатворнага Вобраза Госпада Ісуса Хрыста.

Улічваючы адметнасці развіцця рэлігіі ў нашай краіне, пэўна, зусім не дзіўна, што многія хрысціянскія святы не абмяжоўваюць адным найменнем. І задача кожнага носьбіта мовы не выкараняць такую варыянтнасць, а ведаць сутнасць кожнага з іх, каб выкарыстоўваць асэнсавана і да месца.

## Культурная спадчына

# Клічаўскія «Куры»

Ці могуць народ, нацыя, чалавецтва выжыць і захаваць сваё аблічча толькі дзякуючы матэрыяльным здабыткам? Усё матэрыяльнае рана ці позна знікае, а для нашчадкаў застаецца тое, што нельга крануць рукамі: традыцыі, вераванні, веды — усё, што можна назваць душой народа.

**Вольга СЕМЧАНКА, фота аўтара**

Абрады, святы, звычаі, традыцыйныя рамёствы на нацыянальным узроўні ўносяцца ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей, а на сусветным — у спіс Сусветнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. І ўсе яны — па-свойму ўнікальныя, цікавыя і мусяць захоўвацца як рэдкі скарб. Дарэчы, па колькасці такіх аб'ектаў, уключаных у згаданы Дзяржаўны спіс, сярод іншых абласцей рэспублікі лідзіруе Магілёўшчына, дзе статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці ўжо нададзены дзевяці аб'ектам. Сёлета яшчэ два аб'екты ад рэгіёна могуць атрымаць статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці, а традыцыйная тэхналогія шапавальства Дрыбінскага раёна сёлета можа быць уключана ў спіс Сусветнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

У лістападзе гэтага года Міжурадавым камітэтам абароны нематэрыяльнай культурнай спадчыны будзе разгледжана заяўка ад Беларусі. У выніку станоўчага рашэння дрыбінскае шапавальства будзе другім аб'ектам ад нашай краіны, уключаным у гэты спіс. Першым, напомнім, стаў калядны абрад "Цары" вёскі Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці.

Унікальнасць Дрыбінскага раёна ў тым, што шапавальства тут атрымала шырокае распаўсюджанне і захавалася да нашых дзён, не сышло ў гісторыю разам са сваімі носьбітамі, а квітнее, развіваецца і перадаецца з пакалення ў пакаленне.

Сёння на тэрыторыі раёна жывуць і працуюць майстры, якія валодаюць гэтым рамяством і ўмоўнай мовай шапавалаў — "Катрушніцкім лемезнем". Цяпер тут налічваецца каля 30 шапавалаў, паведаміла начальнік аддзела культуры Дрыбінскага райвыканкама Алена Рабкавец. Сярод іх — Таццяна Чаравіч, Уладзімір Асіпоўскі, Жанна Масалава. У раёне ёсць сем'і, якія займаюцца шапавальскім промыслам. Напрыклад, у сям'і Масаніных з вёскі Расна гэтым промыслам займаюцца муж, жонка і сын. А яшчэ многія мясцовыя шапавалы перадаюць сваё майстэрства дарослым і дзецям, для чаго пры Дрыбінскім гісторыка-этнаграфічным музеі створаны народнае аматарскае аб'яднанне "Шапавал" і дзіцячае аматарскае аб'яднанне "Катрушнік".

Такім чынам, шапавальства на Дрыбіншчыне адпавядае галоўным крытэрыям для ўнясення аб'екта у спісы ЮНЕСКА — захаванасць у "жывым" выглядзе і пераемнасць ад носьбітаў да нашчадкаў.

Яшчэ два аб'екты ад Магілёўшчыны могуць атрымаць статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці і ўвайсці ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

У канцы верасня адбудзецца Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная Рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. Яна разгледзіць заяўкі на наданне статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны і прыме рашэнне наконт уключэння ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь новых аб'ектаў ад розных рэгіёнаў краіны. Будуць разгледжаны дзве заяўкі ад Магілёўскай вобласці. Гэта дзіцячы калядны абрад "Куры" Клічаўскага раёна і традыцыя ўшанавання Блакітнай крыніцы (свята Макавей) у вёсцы Кліны Слаўгарадскага раёна.

У выпадку станоўчага рашэння камісіі ў Магілёўскай вобласці будзе налічвацца ўжо 11 аб'ектаў нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны. Гэта традыцыйныя рамесныя тэхналогіі, абрады, фальклорная спадчына рэгіёна.

Паломніцтва да Блакітнай крыніцы, што ў Слаўгарадскім раёне, дагэтуль застаецца актуальным, бытуе ў актыўнай форме і з'яўляецца самым масавым на Магілёўшчыне. Традыцыя ўшанавання гэтай крыніцы звязана са святам Мядовы Спас, які называюць у народзе Макаўе ці Макавей. Рытуальныя дзеянні вяскоўцы захавалі і перадаюць сваім дзецям і ўнукам у тым выглядзе, у якім пераналі ад сваіх продкаў.

Штогод 14 жніўня ля Блакітнай крыніцы збіраюцца шматлікія паломнікі, каб прыняць удзел у святкаванні. Сярод іх — практычна ўсе жыхары вёскі Кліны і навакольных вёсак, Слаўгарада, суседніх раёнаў і нават памежных тэрыторый Расіі і Украіны. Паломнікі ідуць Хросным ходам да крыніцы, слухаюць святочны вадасвятны малебен, запальваюць свечкі, а пасля акунаюцца ў гаючую ваду, набіраюць яе з сабой. У гэты дзень на Блакітнай крыніцы святары таксама праводзяць абрад хрышчэння дзяцей.

А яшчэ многія людзі наведваюць асвечаныя камяні, што размяшчаюцца паблізу, на невялікай палянцы. Лічыцца, што калі дакрануцца да тых валуноў і папрасіць поспеху, здароўя і дабрабыту сабе і родным — жаданае абавязкова здзейсніцца.

У Клічаўскім раёне дагэтуль актыўна праводзіцца традыцыйны абрад "Куры". Ён звязаны з гэтак званымі Святкамі — зімовымі святамі ад Раства Хрыстова да Вадохрышча. Абрад цікавы тым, што ў ім удзельнічаюць толькі дзеці ад 6 да 14 год. І гэта адзіны дзіцячы калядны абрад, які захаваўся ў Беларусі.

Абрадавыя дзеянні дзеці перанялі ад сваіх бабуль, маці, старэйшых сясцёр. Калядоўшчыкі выкарыстоўваюць традыцыйныя прадметы: касцюмы, калядную зорку, свечку, што гарыць у каляднай зорцы побач з абразом Божай Маці. Штогод 13 студзеня яны ўпрыгожваюць калядную зорку, апранаюць традыцыйнае каляднае адзенне і ідуць з песнямі па вуліцах вёсак Дзмітраўка, Віркаў і Нясета. Падыходзячы да хаты, спяваюць адмысловую песню "Куры", а затым гаспадары частуюць калядоўшчыкаў блінамі і цукеркамі. Цікава, што пры гэтым дзеці-"куры" ніколі не заходзяць у хату. Адметна, што юныя калядоўшчыкі не водзяць казу, мядзведзя, бусла і іншых рытуальных жывёл, якія звычайна ўдзельнічаюць у традыцыйным калядным абрадзе беларусаў.



*Фрагмент дзіцячага каляднага абраду "Куры" ў вёсцы Дзмітраўка. Гаспадыня частуе юных калядоўшчыкаў за спевы.*

## Стасункі

Два мерапрыемствы, накіраваныя на далейшае развіццё турызму на Глыбоччыне, прайшлі падчас Дня беларускага пісьменства. Шэраг турыстычных арганізацый Беларусі і Латвіі прадэманстравалі свае магчымасці на адпаведнай выстаўцы. Акрамя гэтага, праводзіўся конкурс анімацыйных праграм.

# Вектар кантактаў

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Глыбокае прадстаўляў фальклорны ансамбль "Суседзі" сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Пятроўшчына", члены якога правялі майстар-клас па спевах і танцах і "ажывілі" карцінкі з вясковага жыцця. Цёпла сустракалі гледачы выступленне тутэйшага народнага тэатра фальклору "Цярэшка". А вось гаспадары лепельскай аграсядзібы "Прыазёрная" на чале з Вольгай Махоненкай пазнаёмілі прысутных з тым, як узнаўляюцца і зберагаюцца старадаўнія народныя традыцыі.

Прадстаўнікі замкавага комплексу "Мір" прадэманстравалі не толькі цікавыя шляхецкія строі XVIII стагоддзя, але і праспявалі балады, якія гучалі дзвесце гадоў таму ў сценах замка.

Цяжка было прайсці міма стэнда Прэйльскага краю Латвіі, да мяжы якога ад Глыбокага ўсяго 108 кіламетраў. Суседзі шчыра віталі ўдзельнікаў свята, запрашалі пазнаёміцца з турыстычнымі адметнасцямі Латгаліі (самай дзівоснай і самабытнай часткі Латвіі) і прадэгуставаць прадукцыю прэйльскага сырзавода, пакаштаваць хатняе віно і стравы са смаўжоў.

— Наш край вельмі багаты на цікавыя рэчы, — распавёў прадстаўнік турысцка-інфармацыйнага цэнтра, структурнага падраздзялення мясцовага самакіравання г. Прэйлі, Аініс Новікс. — Самы папулярны аб'ект — прыватны музей лялек, які ў асноўным і прыцягвае турыстаў. Дзякуючы яму існуюць Дом-музей керамікі Палікарпа Чарняўскага, гадавальнік вінаградных смаўжоў і іншыя турыстычныя арганізацыі.

Як падкрэсліла інструктар-метадыст турысцкага інфармацыйнага цэнтра Глыбоцкага раёна Ала Вярцінская, паміж Глыбокім і Прэйлі даўно ўжо ўсталяваліся цесныя дзелавыя сувязі, у тым ліку і ў сферы турызму. Беларусам ёсць чаму павучыцца ў латышоў, асабліва па развіцці аграсядзіб. Суседзі таксама не супраць пераняць вопыт беларусаў па адраджэнні народных рамёстваў і традыцый, захаванні багатай фальклорнай спадчыны. Думаецца, наперадзе нас чакаюць новыя сумесныя праекты і ўзаемавыгадныя кантакты.




*Аініс Новікс распавядае пра Прэйльскі край.*

## Імпрэзы

# На захаванне каштоўнасцей

Фолк-фэст "Камяніца" прайшоў у мінулую суботу на тэрыторыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Гэтае мерапрыемства — сумесны праект музея і ТАА "Новы альянс" — праводзіцца ўжо чацвёрты год запар.

**Міра ІЎКОВІЧ**

Наведвальнікі змаглі ўбачыць майстар-клас "Сярэднявечныя танцы", паназіраць за ратнымі забавамі і пазнаёміцца з канцэртнай праграмай, у якой узялі ўдзел вядучыя сучасныя беларускія фолк-выканаўцы і гурты: "Гаротніца", "Ліцвіны", FolkRoll і Наста Някрасава, "Relikt", "Pawa", "Крамбамбуля", "Silver Sky" і інш.

Адметны госць фолк-фэсту "Камяніца" — група "Іван Купала", якая прадставіла вядомыя хіты і новы альбом "Родина", запісаны на аснове народных спеваў Палесся. Дапоўнілі праграму канцэрта дэфіле народных і стылізаваных строяў і конкурс на лепшы традыцыйны строй сярод наведвальнікаў. Дарэчы, для наведвальнікаў, якія прыйшлі ў народных касцюмах, уваход быў бясплатны.

Акрамя гэтага, тут можна было пазнаёміцца з традыцыйнымі рамёствамі, узяць удзел у вырабе прадметаў побыту і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, набыць эксклюзіўныя работы народных майстроў, убачыць творы мастакоў і фатографаў на аўтарскіх выстаўках. Грашовыя сродкі, атрыманыя падчас фолк-фэсту, будуць накіраваны на рэстаўрацыю музейных аб'ектаў і экспанатаў. Такім чынам кожны наведвальнік зрабіў свой унёсак у захаванне гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

# ...і людзям паказаць

"Горад майстроў", які раскінуўся на некалькі вуліц Глыбокага падчас Дня беларускага пісьменства, мала ў чым саступаў знакамітаму кірмашу рамёстваў, які ладзіцца ў Віцебску, калі там праходзіць "Славянскі базар". А мне падалося, што якраз у Глыбокім была шырэй прадстаўлена дзіцячая творчасць.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

З выстаўкай адмысловых вырабаў прыехалі на свята члены гуртка "Праца са скурай" Полацкага раённага цэнтра дзяцей і моладзі. Дзяўчынкі з захапленнем давалі майстар-клас, ствараючы на вачах у гледачоў невялічкія сувеніры, якія тут жа можна было набыць.

— Наш гурток існуе больш як дзесяць гадоў, — распавяла педагог дадатковага навучання полацкага цэнтра Вольга Холад. — Я выкладаю ў дзвюх падгрупах. Малодшую складаюць вучні трэціх — чацвёртых класаў, старэйшую — пятых — восьмых. Хлопчыкі і дзяўчынкі не толькі вучацца майстраваць, але і спрабуюць стварыць сваё, прытым вельмі ўдала і цікава. Дзеці ў нас розныя, ёсць гэтак званыя "цяжкія", з сацыяльна неабароненых сем'яў. Бывае, хтосьці ў школе высокімі адзнакамі пахваліцца не можа, але ў яго вельмі добра атрымліваецца тварыць. Мне радасна, што гэты чалавечак адмыслова выконвае свае работы, а падчас выставак узнагароджваецца граматамі і дыпломамі, што стымулюе яго маральна, натхняе на далейшую творчасць. Сёння мы прадалі ўжо шмат сувеніраў. Зароблены сродкі пойдуць на развіццё гуртка. Купім розныя матэрыялы, клей, фарбы і накрыем для дзяцей салодкі стол.



*Крысціна Шчалкун марна час не траціць.*



*Вольга Холад са сваімі падапечнымі — Таццянай Дварэцкай і Карынай Ганінай.*

Цэнтр дзяцей і моладзі Глыбоцкага раёна прэзентаваў работы, створаныя не толькі вучнямі, але і педагогамі. На выстаўцы-продажы можна было ўбачыць вельмі маляўнічыя дэкаратыўныя падушкі на канапу, веера ва ўсходнім стылі, дамавікоў з сімволікай Дня беларускага пісьменства, льняныя сумачкі, расшытыя ў нацыяльным стылі. Усе, хто падыходзілі да сталоў з вырабамі гаспадароў Дня пісьменства, шчыра хвалілі юных рукадзельніц, іх настаўнікаў і заўважалі, што ў Горадзе майстроў самыя прыгожыя, яркія і эксклюзіўныя рэчы менавіта ў юных глыбачан. Зразумела, тут можна было і бясплатны майстар-клас атрымаць.

— З юнымі майстрамі працую ўжо дзясяты год, — зазначыла педагог дадатковага навучання глыбоцкага цэнтра Ірына Пачкоўская. — Многія мае падапечныя наведваюць гурток па некалькі гадоў. Прынамсі, адзінаццацігадовая Крысціна Шчалкун — чатыры. Дзяўчынка ўсюды перамагае. Звычайна ў канцы навучальнага года ў нашым цэнтры праходзяць персанальныя выстаўкі юных майстроў. Крысціна кожны раз прадстаўляе персанальную экспазіцыю работ, выкананых у самых розных тэхніках: вышыўка стужкамі, макрамэ, габелены, ручное ткацтва, старадаўняя тэхніка вырабу сурвэтак на рамцы, старадаўняе шыццё вугалкамі, работа з пластыкам, новая тэхніка тэмары — гэта вышыўка на шарах. Выраблены з тканіны шар спачатку абматваюць ніткамі, а потым ужо вышываюць адмысловымі арнаментамі. У выніку атрымліваецца хатні абярэг, вельмі папулярны ў Кітаі і Японіі. Асвоіла Крысціна і тэхніку канзашы — выраб жаночых упрыгожванняў са стужак.

Восем майстроў па ткацтве, вышыўцы, лоза- і саломапляценні, ганчарстве прадстаўлялі Гарадоцкі дом рамёстваў і фальклору. Прынамсі, кіраўнік гуртка па ткацтве Марына Гушча прывезла ў Глыбокае тканыя палавічкі, выкананыя ў новай тэхніцы, якую сама і распрацавала. Аснова — лён, а вытканыя яны са звычайных лапікаў тканіны.

— Раней ткалі з таго, што заставалася ў хаце пасля шыцця, — зазначыла Марына. — Я літаральна нядаўна пачала гэтым займацца і вырашыла ткаць па-свойму. У свой час стварала габелены, таму мне хочацца "пагуляць" з колерамі. Падбіраю лапікі, падобныя і па тоне, і па афарбоўцы. У выніку атрымліваюцца габеленавыя кампазіцыі. Яшчэ нядаўна я ткала ручнікі ў самых розных тэхніках. Не скажу, што надакучыла, але хочацца чагосьці новага. Пачала ткаць палавічкі і плаўна перайшла да тканых сумачак. Іх дызайн — мае ўласныя распрацоўкі. Планую прыцягнуць да гэтай справы і мужа з сынам, каб рабілі для сумак аздабленне з дрэва. Цяпер у мяне з'явілася новая серыя сумак: у іх больш традыцыйная аснова — льняная тканіна ў народным стылі.



*Марына Гушча ў атачэнні работ майстроў Гарадоцкага дома рамёстваў і фальклору.*

## З глыбінкі

# Разам з вучнямі

**Знакамітыя бабруйскія гарлачы, дрыбінскія валёнкі, асіповіцкія ручнікі — усё гэта можна будзе пабачыць і набыць на фестывалі-кірмашы працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2012" у Горках, які парадуе гасцей цікавай і насычанай праграмай. Не апошняе месца ў ёй займе палітра народных промыслаў і рамёстваў.**

Пра арыгінальную канцэпцыю "Горада майстроў" распавядае метадыст Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы Наталля Дамянікава:

— Паўтары сотні майстроў і ўмельцаў, члены Беларускага саюза майстроў народнай творчасці прадставяць свае вырабы. Пройдуць майстар-класы і творчыя прэзентацыі. Будуць дзейнічаць пяць майстэрняў: разьбярства, кавальства, ганчарства, валяння, тэкстылю. У іх задзейнічаюць самых таленавітых умельцаў рэгіёна і іх "калег" з іншых куткоў Беларусі. Сёлета традыцыйны "Горад майстроў" будзе мець адметную рысу. У яго канцэпцыю закладзена пераемнасць рамесных традыцый і тэхналогій: спрактыкаваныя, дасведчаныя майстры будуць працаваць разам з вучнямі, а многія прыедуць са сваімі дзецьмі, якім перадалі сакрэты майстэрства. Дрыбінскія майстры Жана Масалава і Ларыса Заклікоўская прэзентуюць валяльны промысел і пляценне лапцей, Уладзімір Станкевіч з Глускага раёна — бондарскае рамяство, Аляксандра Рыбак з Асіповіч будзе ткаць ручнікі, а чэрыкаўская майстрыха Вікторыя Малыга — паясы. Парадуюць глінянымі вырабамі керамісты з Бабруйшчыны.

Аматарам металу варта зазірнуць да кавалёў Марата Драчова з Магілёва, Генадзя Саваша з Гродна, Руслана Шыхава з Віцебска і Юрыя Адамовіча з Мінска. У разьбярнай майстэрні выступяць яшчэ і музыкі — дзіцячы фальклорны калектыў "Вясёлыя лыжкары", а таксама майстар па вырабе драўляных музычных інструментаў Аляксандр Харкевіч з Круглянскага раёна. Шыкоўную мэблю з лазы прадставіць Іван Шафарэнка з Гомеля, не менш арыгінальныя вырабы з лазы прэзентуе маладзечанскі калектыў "Вербачка". Майстры з Мазыра Мікола і Яўгенія Курмаз прадставяць сувеніры з лазы і саломкі, здзівіць сваімі работамі мінскі разьбяр Сяргей Дудко. Вытанчанае мастацтва выцінанкі прадэманструюць Наталля Бярнадская з Крычава і Любоў Гарбар з Бабруйска.

**Вольга ЗЯЗЮЛЯ, г. Горкі**

## Афарызм

*Сакрэт мастацкай творчасці не ў суме прафесійных ведаў і навыкаў, нават і не ў працавітасці, а ў маштабах асобы мастака, у здольнасці чалавечай душы ўбіраць у сябе, акумуліраваць і выказваць самыя вострыя і балючыя праблемы жыцця, матэрыялізаваць у слове дух часу.*

**Уладзімір КАЛЕСНІК**



**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2760.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 20.09.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4077
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




